

*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*

# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 24 лютага 1989 г. № 8 (3470) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.




Музыкі старэйшага пакалення — актыўныя ўдзельнікі мастацкай самадзейнасці з вёскі Морач Клецкага раёна. Без іх не абыходзяцца не толькі на сцэне, але і на вяселлях, на радзінах, на калгасных вечарынках.

Фота А. КЛЕШЧУКА.

## СЛОВА І СПРАВА МАСТАКА

15 лютага ў Мінску адбылася сустрэча грамадскасці горада з кандыдатам у народныя дэпутаты СССР ад Савецкага фонду культуры народным мастаком СССР акадэмікам М. А. Савіцкім.

У сустрэчы, якая праходзіла ў Беларускім таварыстве дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі, прынялі ўдзел работнікі музеяў горада, педагогі, выкладчыкі, студэнты, школьнікі — актывісты Беларускага аддзялення фонду культуры і Таварыства дружбы.

Старшыні таварыства А. Ваніцкаму не было неабходнасці падрабязна прадстаўляць аўдыторыі кандыдата. У нашай рэспубліцы і за яе межамі яго добра ведаюць як аўтара многіх жывапісных палотнаў — у прыватнасці, сусветна славутага цыкла работ «Лічбы на сэрцы». Ведаюць майстра і як грамадскага дзеяча. Ён — дэпутат Вярхоўнага Савета БССР, член прэзідыума праўлення БФК, член праўлення Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі і старшыня таварыства «Радзіма». Ведаюць мастака і па яго палемічных выступленнях у друку, па тэлебачанні.

У наш час, калі пад пагрозай апынуліся адвечныя духоўныя каштоўнасці, роля і адказнасць мастацтва незвычайна ўзрастаюць, — сказаў у сваім выступленні М. Савіцкі. Задача мастацтва — вярнуць чалавеку пачуццё годнасці, адрадзіць гуманістычныя ідэалы, ідэалы сацыялістычнага грамадства. Для гэтага неабходны сінтэз усіх відаў мастацтва, перш за ўсё ў эстэтычным выхаванні дзяцей. Сённяшні ўзровень гэтага выхавання не можа забяспечыць гарманічнае развіццё асобы.

Зусім натуральна, што многія пытанні да кандыдата ў дэпутаты тычыліся менавіта канкрэтных праблем выкладання выяўленчага і дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва ў школах, вучылішчах, студыях.

На думку мастака, усе гэтыя праблемы павінны вырашацца ў шырокім кантэксце — ва ўзаемасувязі з паглыбленым вывучэннем нацыянальнай і сусветнай культуры, спадчыны свайго народа. Вельмі важна сёння процістаяць спажывецкім адносінам да культуры, яе дэгуманізацыі, разбурэнню. Гэту задачу, на яго погляд, можна вырашаць толькі на шляхах развіцця рэалістычнага мастацтва.

Як вядома, зараз мастак працуе над цыклам, прысвечаным чарнобыльскай трагедыі. У сувязі з гэтым прысутных цікавілі яго адносіны да нядаўняга паведамлення ўрадавай камісіі рэспублікі аб ліквідацыі вынікаў аварыі на АЭС. Факт пашырэння галоснасці, у прыватнасці, апублікаванне карт радыяцыйнай абстаноўкі ў некаторых рэгіёнах М. Савіцкі ахарактарызаваў як безумоўна станоўчы. Але насельніцтва ўсё яшчэ недастаткова інфармавана пра экалагічную абстаноўку на Беларусі. А яна, наколькі можна меркаваць, у цэлым даволі небяспечная.

Ці могуць дапамагчы нефармальныя арганізацыі, у тым ліку маладзёжныя, у вырашэнні складаных эканамічных і экалагічных праблем рэспублікі? Адказваючы на гэта пытанне, М. Савіцкі выказаўся ў тым плане, што грамадскі рух — фактар, безумоўна, важны. Але, на яго погляд, толькі ў тым выпадку, калі рух гэты не скіраваны на раз'яднанне грамадства.

Удзельнікі сустрэчы выказалі падтрымку кандыдату ў народныя дэпутаты СССР і пажадалі яму поспехаў.

**Наш кар.**

## «ДНІ ЖАЛЬБЫ»

**18—19 лютага ў мінскім Палацы прафсаюзаў праходзілі «Дні жальбы», прысвечаныя памяці ахвяр сталінскага тэрору.**

Акрамя гісторыка-асветніцкага таварыства «Мартыралог Беларусі», арганізатарамі Дзён выступілі Мінскае гарадское аддзяленне Беларускага фонду культуры, творчыя саюзы пісьменнікаў, мастакоў, кінематаграфістаў.

18 лютага была адкрыта мастацка-публіцыстычная выстаўка. На ёй экспанаваліся плакаты, жывапісныя палотны, скульптурная пластыка — фактычна першыя спробы беларускіх мастакоў асэнсаваць тыя трагічныя падзеі. Побач з мастацкімі творамі — карта ГУЛага, фотаздымкі ахвяр сталіншчыны, матэрыяльныя рэаліі 30-х гадоў, фатаграфічны цыкл, прысвечаны Курапатам.

На адкрыцці выстаўкі выступілі старшыня Мінскага гарадскога аддзялення БФК мастак В. Шаранговіч і пісьменнік Б. Сачанка.

19 кастрычніка выстаўку дапоўніла экспазіцыя беларускіх кніг 20—30-х гадоў з Дзяржаўнай бібліятэкі БССР імя У. І. Леніна, нядаўна перададзеных са «спецсховішча» ў фонды агульнага карыстання. Адбыўся дабрачынны вечар. Яго вёў В. Шаранговіч. Выступілі Н. Гілевіч, А. Петрашкевіч, М. Лужанін і іншыя. Ішла гаворка аб тым, каб сцерці «белыя плямы» ў нашай гісторыі, ушанаваць памяць ахвяр сталіншчыны. Археолаг А. Трусаў прапанаваў выдаць «белую кнігу» помнікаў дойлідства, знішчаных у час сталіншчыны. На закрыцці вечара дэманстраваўся фільм рэжысёра М. Пташука «Наш браняпоезд».

Гэтымі ж днямі быў адкрыты новы рахунак у Жылсацбанку — № 702903, куды будуць паступаць добраахвотныя ахвяраванні на стварэнне мемарыяла ў Курапатах.

**Наш кар.**

## «МАРТЫРАЛОГ БЕЛАРУСІ: ФАКТЫ І ІМЁНЫ»

*Успаміны вязняў шматлікіх сіблагаў і карлагаў, сведчанні дзяцей, сваякоў і суседзяў былых «ворагаў народа», згадкі пра тых, чый след згубіўся ў вялікіх і малых курапатах, архіўныя знаходкі і сямейныя рэліквіі, дзённікі і фотаздымкі, даведкі, пасведчанні, пропускі і іншыя дакументы, што зберагаюць памяць аб бязвінных ахвярах сталінска-берыеўскіх рэпрэсій і іх катаў,—усё гэта знойдзе месца пад новай лімаўскай рубрыкай.*

*Сёння на 13-й старонцы штотыднёвіка — яе прэм'ера.*

# Сходы, кандыдаты, галасы

Вас не прызначалі агітатарам у часы мінулых выбарчых кампаній? Мяне прызначалі, і дагэтуль з сорамам успамінаю, як даводзілася пры дапамозе розных абяцанак угаворваць выбаршчыкаў пайсці на якое-небудзь «выбарчае» мерапрыемства, скажам, на сустрэчу з кандыдатам у дэпутаты, а пасля з «калегамі» вартаваць дзверы ў залу, каб, сабраная з такімі цяжкасцямі, публіка не разбягалася...

Днямі, яшчэ на подступах да мінскага Палаца культуры тэкстыльшчыкаў, дзе меў адбыцца акруговы выбарчы сход, мяне некалькі разоў спынялі маладыя людзі з пытаннем, ці не маю лішняга запрашальнага білеціка. І такая надзея бачылася ў іх вачах, нібы людзі прагнулі трапіць на канцэрт заезджай славутасці, моднага ансамбля, а не на сход выбаршчыкаў.

Такога яшчэ ў нас не было. Цяперашнія выбары з іх палітычнай смеласцю, гарачымі дыскусіямі, спаборніцтвам выбарчых праграм, барацьбой тых, хто прагне новага, з тымі, хто ўпарта трымаецца за старыя стэрэатыпы, — безумоўна, заваёва перабудовы.

Апагеем выбарчай кампаніі з'явіліся акруговыя сходы выбаршчыкаў, дзе шляхам даволі складанай працэдуры адбіраліся кандыдаты, якія ў далейшым працягнуць барацьбу за дэпутацкі мандат. Ці была ўсё ж неабходнасць праводзіць такія сходы? Ці прыжывуцца яны ў будучым? Ці не атрымоўвалася часам, што акруговыя сходы фактычна абмяжоўвалі права выбаршчыкаў на прамыя, тайныя свабодныя выбары народных дэпутатаў? Тым больш, што закон не абмяжоўвае колькасці кандыдатаў для рэгістрацыі. Я ўжо не кажу пра той выпадак, калі з шаснаццаці кандыдатаў, якія былі вылучаны працоўнымі калектывамі Мінскай — Першамайскай нацыянальна-выбарчай акругі, на акруговым сходзе пасля галасавання застаўся для рэгістрацыі толькі адзін чалавек.

Праўда, са свайго боку, прыхільнікі інстытута акруговых выбарчых сходаў аперыруюць наступным аргументам: пры вялікай колькасці прэтэндэнтаў на адзін дэпутацкі мандат у дзень выбараў вельмі цяжка будзе выявіць пераможцу, бо галасы выбаршчыкаў «раскідаюцца» па розных кандыдатах, і таму неабходны папярэдні «адсеў».

Не буду браць на сябе ў гэтым пытанні ролі трацейскага суддзі, але відавочна, што новае выбарчае заканадаўства мае патрэбу ва ўдасканаленні.

Што можна сказаць аб прайшоўшых акруговых выбарчых сходах? Многія з іх працягваліся па шэсць, восем і болей гадзін і праходзілі вельмі нялёгка. «Віну» за гэта члены выбарчых камісій звычайна ўскладалі на дэлегатаў, якія, маўляў, залішне тэмпераментна абмяркоўвалі праграмы прэтэндэнтаў. На маю ж думку, гэтая «тэмпераментнасць» якраз і была праявай шчырай зацікаўленасці людзей у выніках выбараў лепшага кандыдата, імкнення да канца выкарыстаць свае грамадзянскія, дэмакратычныя правы. Відаць, такая актыўнасць і выклікала незадаволенасць тых, хто яшчэ нядаўна кантраляваў грамадскую думку і хацеў бы і зараз уціснуць дэмакратычны выбарчы працэс у пракрустаў ложак старых інструкцый і палажэнняў. Ці не таму многія выбарчыя акруговыя сходы праходзілі пад знакам усемагчымых забарон? Па сабе ведаю, як цяжка было, напрыклад, трапіць на акруговы сход нават газетчыку. Здаецца, лягчэй было б аформіць выязную візу за мяжу, чым пропуск на сход.

За два дні да сходу па Мінскай — Ленінскай тэрытарыяльнай выбарчай акрузе рэдакцыя «ЛіМа» напісала заяву ў выбарчую камісію з просьбай выдзеліць пропускі для ўдзелу ў сходзе двух супрацоўнікаў газеты, у тым ліку фотакарэспандэнта. Далі толькі адзін. Там, у Мінскім райвыканкоме, куды я занасіў «дакументы», сустрэў двух знаёмых літаратараў, якія расказалі мне, што з'яўляюцца даверанымі асобамі прэтэндэнта ў кандыдаты, але трапіць на акруговы сход, дзе ён будзе адстойваць сваю выбарчую праграму, яны не змогуць, бо выбарчая камісія адмовіла ім у пропусках нават у якасці гасцей. А на сходзе, між тым, я даведаўся, што на яго запрошана ў якасці «гасцей» ці «прадстаўнікоў грамадскасці» вялікая група слухачоў Мінскай вышэйшай партыйнай школы...

Сёй-той у працэсе работы сходу рабіў спробы «паставіць на месца» кожнага, хто патрабаваў ад прэзідыума весці сход больш дэмакратычна, устанавіць у зале мікрафоны. Кожны раз у такіх выпадках частка партэра пачынала падазрона дружна скандзіраваць: «Гарлапанаў да парадку!» Але ж ніякага крыміналу ў паводзінах «шумных» выбаршчыкаў не было. Проста, яны разумелі сваю місію так: не быць статыстамі, адстойваць інтарэсы калектываў, якія іх паслалі, інтарэсы сваіх «кандыдатаў у кандыдаты».

Наогул, увесь час давала сябе адчуць адсутнасць дакладна распрацаванай працэдуры вядзення акруговых сходаў. Таму і займалі столькі часу працэдурныя пытанні — выбары прэзідыума, падліковай камісіі і г. д. На сходах, дзе я пабываў, было, напрыклад, парушана права кожнага прэтэндэнта ў кандыдаты прапанаваць у склад падліковай камісіі чалавека са сваёй «каманды», што дало падставу некаторым выбаршчыкам гаварыць потым пра неправамоцнасць асобных падлікоўцаў.

У перадвыбарчых праграмах прэтэндэнтаў, як правіла, закраналіся розныя надзённыя праблемы. Праўда, некаторыя «кандыдаты ў кандыдаты» нібы спаборнічалі паміж сабой у тым, хто больш паабяцае выбаршчыкам. Без абяцанняў, відаць, тут нельга. Але ж яны павінны быць падмацаваны канкрэтнымі лічбамі і фактамі. Праўда ж, «абяцанкі» выклікалі ў прысутных адпаведную рэакцыю. Многія кандыдаты не вытрымалі «перакрыжаванага агню» пытанняў выбаршчыкаў і змушаны былі, атрымаўшы мінімум галасоў, сысці з выбарчай сцэны.

Адной з прыкмет акруговых сходаў былі вострыя дыскусіі, якія разгараліся паміж прэтэндэнтамі і іх апанентамі з залы. І праграмы, насычаныя цікавымі думкамі і прапановамі, трэба было ўмець абараніць, мабілізаваўшы для гэтага ўсю сваю эрудыцыю, уменне пераконваць людзей, знаходзіць з імі цесны кантакт. Каму гэтага бракавала, той адразу ператвараўся ў аўтсайдэра.

Так, напрыклад, здарылася з прэтэндэнткай, ткачыхай па прафесіі, якая, доўга думаючы над адказам на адно з пытанняў, у рэшце рэшт вымавіла: «У вестыбюлі вісіць мой плакат, дык там усё напісана», чым, натуральна, выклікала смех у зале. Пачуўся вокліч: «Ты і ў Вярхоўным Савеце будзеш адсылаць да свайго плаката?»

Так, сплыў у незваротнае мінулае час, калі кандыдаты ў дэпутаты падбіраліся па анкетных дадзеных і вытворчых паказчыках. Сёння народ бачыць у сваіх абранніках — людзей-байцоў, людзей-палітыкаў, маючых свае ідэі і пазіцыі, якія яны здолеюць адстойваць, людзей, якія змогуць з гонарам насіць званне парламентарыя.

23 лютага закончылася рэгістрацыя выбарчымі камісіямі кандыдатаў у дэпутаты. Наперадзе вельмі адказная фаза выбарчай кампаніі — сустрэчы кандыдатаў з выбаршчыкамі. Цяпер кандыдатам трэба будзе заваяваць прыхільнасць тысяч выбаршчыкаў і, вядома, іх галасы. Цяжкая, складаная задача.

**М. ЗАМСКІ.**

# 240 ХВІЛІН РАЗАМ

## ПРАВЯЛІ МІНЧАНЕ, ЯКІЯ 19 ЛЮТАГА САБРАЛІСЯ НА МІТЫНГ «У ПАДТРЫМКУ ПЕРАБУДОВЫ»



Не перабольшваючы і не прымяншаючы — як будзе ў самы раз вызначыць маштаб падзеі, што адбылася ў мінулую нядзелю на рэспубліканскім стадыёне «Дынама»?..

Пішу гэтыя нататкі адразу пасля чатырохгадзіннага шматтысячнага мітынгу. Мяркую, чытачы даруюць мне тое, што ў гэтым «экспрэс-аналізе» падзеі я не буду строга прытрымлівацца храналогіі, не буду імкнуцца згадаць кожнага з амаль трыццаці прамоўцаў і ўвесь тэматычны дыяпазон іх выступленняў, а паспрбую выказаць некаторыя свае ўражанні і меркаванні.

**Свет не абрынуўся.** Мінгарвыканком задаволіў зварот «групы грамадзян» (з двух чалавек) аб правядзенні агульнагарадскога мітынгу ў падтрымку перабудовы. Арганізатары збіраліся абмеркаваць шляхі далейшай дэмакратызацыі палітычнай сістэмы, надзённыя пытанні эканомікі, экалогіі, культуры — у прысутнасці прыблізна пяцідзесяці тысяч чалавек. (Ведаю гэта, бо 14 лютага прысутнічаў у гарвыканкоме, дзе абгаворваліся ўмовы правядзення і мэты мітынгу).

Свет не абрынуўся і тады, калі тыя тысячы (відавочна, не 50, але не менш за 35) запоўнілі чашу стадыёна. Луналі сцягі, дзяржаўныя СССР і БССР, і ўсё яшчэ напаўлегальныя бела-чырвона-белыя. Плакаты і транспаранты: «Перабудову пачні з сябе», «Уся ўлада — Саветам», «Выбіраць народу, а не акруговаму сходу», «Патрабуем праўдзівай гісторыі», «Памятай: сталінізм яшчэ жывы»; былі і, так бы мовіць, «экзатычныя» надпісы — «Вандэя не пройдзе», «Выбаршчыкі! Ніводнага голасу — наменклатуры»...

Узнікала, праўда, некалькі досыць далікатных пытанняў... Якім чынам «група грамадзян» з двух чалавек здолела склікаць такую колькасць народу (прыйшоў і нават выступіў публіцыст Васіль Якавенка, які напярэдадні са старонак газеты тыражом у паўмільёна сказаў: «Я асабіста не прыйду на мітынг, хоць мяне і запрашалі»)? І што перашкодзіла гарадскім уладам быць да канца паслядоўнымі — паведаміць пра дазвол на мітынг праз уласны друкаваны орган? Няўжо тая акалічнасць, што «група грамадзян» звярталася ў гарвыканком ад імя аргкамітэта Беларускага народнага фронту за перабудову «Адраджэнне» і канфедэрацыі маладзёжных суполак? Але ж гэтая «страшэнная таямніца» адкрылася літаральна праз пятнаццаць хвілін мітынгу, адразу пасля ўступнага слова старшыні Мінгарвыканкома У. І. Міхасёва. Вялі мітынг старшыня Ленінскага райвыканкома В. Некрашэвіч і прадстаўнікі нефармалаў Я. Івашкевіч і В. Жыбуль.

Увогуле, як мне падалося, мінчане ішлі на першы ў горадзе санкцыяніраваны мітынг у настроі хутчэй за ўсё засяроджана-дзелавітым. Не было, здаецца, таго стыхійнага парывання, якое яднала магутную людскую плынь па дарозе на Курапаты 19 чэрвеня. Не было процістаяння, нервовасці, чым запомніўся дзень 30 кастрычніка. Была (зноў жа, як мне падалося) упэўненасць у тым, што на гэты раз усё пройдзе годна, як, урэшце, і мае быць у сталічным, еўрапейскім горадзе. Людзі — у большасці сваёй — ішлі слухаць, выказваць свае думкі, дзяліцца трывогамі і спадзяваннямі, усведамляючы, што гэта — іх неад'емнае права, дадзенае перабудовай.

**Вакол мікрафона.** Наяўнасць двух «цэнтраў» вядзення мітынгу — ад тых, хто прасіў дазвол на мерапрыемства, і ад тых, хто гэты дазвол даваў, — шмат у чым вызначыла фабулу таго, што адбывалася на працягу чатырох гадзін. З'явіўся элемент спаборніцтва, акрэсліўся «канфлікт», мітынг набыў рысы публічнага дыспуту. І хоць я не зусім разумею, ці так ужо неабходна было імкнуцца «адыграць» літаральна кожную рэпліку апанента, на кожнага «іхняга» мець «свайго», але так атрымлівалася.

Да мікрафона падыходзілі вучоны і партыйны работнік, прафесар і сакратар ЦК камсамола, рабочы і літаратар, галоўны санітарны ўрач рэспублікі і выхавацелька дзіцячага сада, філосаф і эканаміст, намеснік міністра і кінарэжысёр, беларус і літовец, рускі і яўрэй, ветэран вайны і працы і студэнт... Казалі пра выбары народных дэпутатаў і апрыклы ўжо дэфіцыт, пра экалагічную небяспеку і беларускую школу, пра пагрозу ператварыць перабудову ў даўгабуд і неабходнасць рашучых дзеянняў, пра гарантыі незваротнасці перамен і магчымасці сродкаў масавай інфармацыі, пра нацыянальна-культурнае адраджэнне і стварэнне прававой дзяржавы...

Як рэагавалі ўдзельнікі мітынгу на трыбунах? Па-рознаму — часам апладзіравалі, часам свісталі, ухвалялі і абураліся. Мітынг ёсць мітынг, тут дзейнічаюць свае законы і — «законы». Шматтысячны стадыён — не зала камернай музыкі, і прамоўцы (смелыя людзі!), трэба думаць, гэта выразна ўсведамлялі.

Мабыць, трэба назваць тых прамоўцаў, каго досыць уважліва слухалі, каго, што называецца, прымалі, — гісторыка З. Пазняка, філосафа А. Грыцанава, фізіка Ю. Хадыку, эканаміста А. Жураўлёва, галоўнага санітарнага ўрача рэспублікі В. Бур'яка, рабочага ВА «Гарызонт» А. Галькевіча, намесніка міністра народнай адукацыі Г. Бутрыма, археолага І. Чарняўскага, сакратара райкома КПБ Т. Карніенку, сакратара ЦК ЛКСМБ М. Падгайнага, пісьменнікаў К. Тарасава і С. Букчына... Віталі мітынг прадстаўнікі Літвы і Эстоніі, была зачытана тэлеграма з Украіны, гучалі песні ў выкананні паэта і музыканта С. Сокалава-Воюша... Прымаліся рэзалюцыі. У першай з іх выказвалася ацэнка перадвыбарчай кампаніі ў рэспубліцы, у другой гучаў заклік афіцыйна прызнаць Беларускі народны рух за перабудову «Адраджэнне».

**Што ж адбылося?** На гэтае

# НА ЭКРАНЕ — УСЕСАЮЗНАЯ ПАРТКАНФЕРЭНЦЫЯ

«Фільм выкліча вялікую цікавасць» — такая думка многіх журналістаў, кінакрытыкаў, гледачоў, якія прысутнічалі ў Цэнтральным Доме кінематаграфістаў на грамадскім праглядзе новай дакументальнай карціны «Плюралізм». Стужка, якая расказвае аб рабоце XIX Усесаюзнай партыйнай канферэнцыі, створана рэжысёрам А. Паўлавым на Цэнтральнай студыі дакументальных фільмаў у аб'яднанні «Памяць».

Кадры фільма вяртаюць нас у залу Крамлёўскага Палаца з'ездаў, дзе мы можам зноў сустрэцца з дэлегатамі партыйнага форуму, акунуцца ў атмасферу гарачых спрэчак, сутыкненняў самых розных думак. Назва карціны — «Плюралізм» — адлюстроўвае сутнасць таго, што адбываецца на экране.

— Мы не ставілі сваёй задачай дакументальнае адлюстраванне, пратакольную фіксацыю падзей канферэнцыі, — сказаў А. Паўлаў. — Гэта заклік разам са стваральнікамі фільма падумаць над нашай гісторыяй, паразважаць над тым, як мы жылі і як жывём. Таму выкарысталі ў рабоце мноства матэрыялаў дакументальнай хронікі. Настроі дэлегатаў, іх прапановы, выказаныя і з трыбуны, і ў кулуарах — вось што было ў фокусе нашай увагі.

Здымаць карціну было нялёгка. Многія выступленні дэлегатаў, на жаль, засталіся за кадрам, і тым не менш мы пастараліся адлюстраваць найбольш вострыя моманты партыйных дыскусій, паказаць выступленні некаторых дэлегатаў з той мэтай, каб цяпер, пасля таго, калі мінуў нейкі час, можна было па-новаму глянуць на іх.

Фільм рыхтуецца да выхаду на шырокі экран.

КАР. ТАСС.

# «ПАЛЫМЯНЦЫ» Ў ІКАНАХ

У рэдакцыі часопіса «Полымя» трывалыя сувязі з працаўнікамі Барысаўшчыны. Нядаўна палымянцы наведалі Іканаўскую васьмігадовую школу, перадалі ёй бібліятэчку твораў беларускіх пісьменнікаў з іх аўтографамі.

У мясцовым гісторыка-краязнаўчым музеі адбылася сустрэча К. Цвіркі, В. Супрунчука і В. Шырко з вучнямі і настаўнікамі. Літаратары адказалі на пытанні, падзяліліся творчымі планамі.

С. ПЯТРОВІЧ.

# У МІНІСТЭРСТВЕ КУЛЬТУРЫ БССР

Рэспубліканскае свята духавой музыкі з удзелам духавых аркестраў вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў культуры і мастацтваў, дзіцячых музычных школ будзе праведзена ў Мінску. Такое рашэнне прынята на сумесным пасяджэнні калегіі Міністэрства культуры БССР, сакратарыята Беларускага рэспубліканскага савета прафсаюзаў, сакратарыята ЦК ЛКСМБ і праўлення Музычнага таварыства БССР.

Свята мусіць паспрыяць далейшаму паляпшэнню ідэйна-маральнага і мастацка-эстэтычнага выхавання студэнтаў і навучэнцаў, насельніцтва рэспублікі; прапагандзе музычнай культуры і павышэнню выканаўчага майстэрства духавых аркестраў; абнаўленню рэпертуару духавых аркестраў лепшымі творамі савецкіх і замежных аўтараў. Удзельнікі свята (а яно адбудзецца 9 мая) — духавыя аркестры Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі, Мінскага інстытута культуры, музвучылішчаў, сем аркестраў ДМШ (па адным ад кожнай вобласці і ад Мінска).

Аргкамітэт узначальвае начальнік упраўлення навучальных устаноў МК БССР У. Скараходаў; галоўны дырыжор свята — загадчык кафедры БДК А. Берын, галоўны рэжысёр — в. а. загадчыка кафедры МІКа П. Гуд.

пытанне мне дапамагае адказаць наш лімаўскі чытач. Літаральна назаўтра пасля мітынгу рэдакцыйная пошта прынесла першыя водгукі.

Мінскі настаўнік **А. Асіповіч** ад імя групы сваіх калег (пад лістом 19 подпісаў) ацэньвае мітынг як значную падзею ў грамадска-палітычным жыцці орада і выказвае спадзяванне, што ён знойдзе аб'ектыўнае асвятленне на старонках друку. У тым жа духу ад імя сваіх сяброўак піша студэнтка БДУ імя У. І. Леніна **С. Еўланава** і падкрэслівае, што пра мітынг на стадыёне «Дынама» «павінна ведаць уся грамадскасць Беларусі, бо там былі закрануты надзённыя, набалелыя пытанні».

«Радасна ўсведамляць, што па-сапраўднаму пачала абуджацца грамадская думка, пераадольвацца абыякавасць і раўнадушша, выхаваныя сталіншчынай і брэжнеўшчынай, нараджаецца жаданне ўплываць на становішча грамадскіх і дзяржаўных спраў, — дзеліцца ўражаннямі ветэран Вялікай Айчынай вайны **Я. К. Івановіч**. — Адбылася адкрытая, зацікаўленая і дзелавая размова, якая высвятліла розныя пункты гледжання на перабудову, галоснасць, дэмакратыю, на многія надзённыя і набалелыя пытанні і праблемы горада і рэспублікі. Людзі пакідалі стадыён ужо не такімі, якімі яны прыйшлі сюды... Словам, расцём, вучымся дэмакратыі. І, як бачна, небеспаспяхова».

А вось ліст навуковага супрацоўніка Інстытута літаратуры АН БССР **Я. Гарадніцкага.** Ліст — адказ каментатару Беларускага тэлебачання А. Трызну, які даваў сваю ацэнку падзеям на стадыёне з экрана. Ацэнка гэтая выклікала нязгоду навукоўца. І вось што ён піша: «Ваш самы галоўны довад, таварыш Трызна, — трэба працаваць, а не мітынгаваць. Што ж будзем працаваць, шаноўны тэлежурналіст. Як і раней працавалі. Каб усяго ў нас было «больш». Будзем працаваць, угнуўшыся над станкамі і варштатамі, пісьмовымі сталамі і кульманамі. Будзе праект атаманай станцыі — ажыццёвім, хімкамбіната — а як жа! А грандыёзныя праекты між тым сыплюцца на нас, як снег на галаву. Што-што, а гэта мы выпрацоўваем безадказна.

Мэта і сродак перабудовы — чалавек. Той чалавек, які дагэтуль выціскае з сябе па кроплі раба, які марудна, але няўхільна адтае душой, то пазбаўляецца путаў страху і грамадзянскай пасіўнасці. Не ўсе рашыліся пакуль што ступіць на гулкія трыбуны мітынговага стадыёна, частка з асцярогай наглядала зводдаль. Але я веру, што будзе расці колькасць тых, хто вырываецца з хіжых абдымкаў сталіншчыны і брэжнеўшчыны, дагматызму і схаластыкі, ачмурэння і крывадушша».

Сапраўды, мітынг на «Дынама», натуральна вынікаў з логікі развіцця працэсаў, якія працякаюць у жыцці рэспублікі на чацвёртым годзе перабудовы. Ён, раней ці пазней, павінен быў адбыцца на тэатры грамадска-палітычных дзеянняў. І адбыўся.

**Андрэй ГАНЧАРОЎ.**

●

**...Ідуць у рэдакцыю пісьмы, у якіх чытачы не толькі дзеляцца сваімі ўражаннямі ад мітынгу, але і выказваюць сваю нязгоду з той ацэнкай, якая даецца мітынгу ў нашым друку. «Газеты замест сапраўды крытычнага, разважлівага аналізу змясцілі не зусім сумленную, аднабаковую інфармацыю, — пішуць рабочыя рамонтна-мантажнага наладачнага ўпраўлення ВА «Саюзхімпрамэнерга» (усяго 12 подпісаў). — Калі чытаеш гэтыя допісы, то складваецца ўражанне, што мітынг на стадыёне прынёс нам сёння больш гора, чым некалі Чарнобыль. А на ім, між тым, не было ні апалітычнасці, ні антысаветчыны». Аналагічныя думкі выказваюць інжынерна-тэхнічныя работнікі НВА «Гранат» Н. Шохан, Г. Юркевіч і С. Навіцкая, інжынер-электроншчык М. Свірыдаў, інжынер-канструктар В. Хурсік, журналіст, рэдактар Дзяржтэлерадыё М. Стальмакоў і інш...**

**У «ЛіМе» ўжо друкаваліся водгукі на артыкул Т. Бумажковай «Бар'ер палітычнай слепаты», змешчаны ў першым нумары часопіса «Политический собеседник» за гэты год. Трэба сказаць, што мы не мелі спецыяльнага намеру палемізаваць з аўтарам публікацыі — ні адразу па выхадзе часопіса, ні цяпер, калі прайшоў пэўны час. Таму што артыкул «Бар'ер палітычнай слепаты» толькі з вялізнай нацяжкай можна назваць ДЫСКУСІЙНЫМ.**

**Разам з тым, пісьмы, аўтары якіх выказваюць прынцыповую нязгоду з публікацыяй «Политического собеседника», працягваюць паступаць і зрабіліся ўжо важкай і пастаяннай сткай лімаўскай пошты. «Такія «откровения» нельга абмінаць увагай, — лічыць, напрыклад, мастак з Віцебска А. МЕМУС, — на іх трэба адказваць, прычым, з дапамогай тых жа чытачоў, якім яны адрасуюцца». «Не здолелі змаўчаць» пасля прачытання артыкула Т. Бумажковай заслужаная настаўніца БССР З. М. ПАКРОЎСКАЯ і аператар ВА «Інтэграл», член КПСС П. ЖАУНЯРОВІЧ з Мінска, па даручэнню 27 супрацоўнікаў лабараторыі вымяральнай тэхнікі Віцебскага станкабудаўнічага завода напісала ў «ЛіМ» прафорг Н. С. ВАРАХОБКА, усхваляваны ліст даслала супрацоўніца Гродзенскай абласной бібліятэкі імя Ф. Карскага А. ФІБІК і іншыя. Кінакрытык, загадчык сцэнарнага аддзела «Белтэлефільма» А. БАБКОВА з дапамогай лічбаў аспрэчвае сцвярджэнне Т. Бумажковай аб тым, што фільм А. Адамовіча і Э. Клімава «Ідзі і глядзі» «в нашей республике шел при полупустых залах». «Наконт паўпустых залаў — выдумка, — піша А. Бабкова. — У рэспубліцы фільм сабраў каля аднаго мільёна гледачоў (955,4 тыс.), па краіне — каля 29 мільёнаў (28938,9 тыс.) за год пракату. А паўпустыя кінатэатры — гэта прыкладна 3—5 мільёнаў гледачоў па краіне і 100—200 тысяч па рэспубліцы».**

**Сваімі думкамі пасля прачытання артыкула «Бар'ер палітычнай слепаты» падзяліўся з «ЛіМам» і пісьменнік, генерал-маёр авіяцыі, заслужаны работнік культуры БССР А. СУЛЬЯНАЎ.**

**Анатолій СУЛЬЯНАЎ**

# НЕ ІНТЭЛІГЕНТНА ЎСЁ ГЭТА!

## З НАГОДЫ АДНОЙ ПУБЛІКАЦЫІ

Узяцца за пяро мяне падштурхнуў артыкул Т. Бумажковай «Бар'ер палітычнай слепаты», які з'явіўся ў першым нумары сёлетняга «Политического собеседника». Але спачатку вось пра што.

У наш перабудовачны час ледзь не штодзённа паяўляюцца часопісныя і газетныя матэрыялы, радыё і тэлеперадачы, многія з якіх яшчэ нядаўна былі б аднесены некаторымі таварышамі да «шкодных», да тых, што разбэшчваюць наш «развіты сацыялізм», наша савецкае грамадства. Прыгадаем, што нават выступленні па пытаннях эканомікі, скажам, пра нясмелыя крокі па ўдасканаленні нізкарэнтабельнай сістэмы нашай сельскай гаспадаркі, выклікалі гнеў і расправу з ініцыятарамі і аўтарамі, прытым расправу не на старонках газет і часопісаў, а самую што ні ёсць турэмную, як гэта здарылася ў застойныя гады з вядомым (светлая яму памяць!) Іванам Худэнкам і іншымі.

Перабудова дала людзям магчымасць шырока выказвацца па самых розных пытаннях эканамічнага, палітычнага, сацыяльнага, культурнага жыцця. Газетны і часопісны бум — незвычайны. Мільёны людзей пацягнуліся да друку, як да крыніцы, каб наталіць прагу чыстай, незамутнёнай праўды, каб прачытаць тое, што раней было пад забаронай, што шмат гадоў чалавек выношваў у сабе і што нарэшце адліваецца ў радках і трапляе на паперу.

Мне, рускаму чалавеку, прыемна было чуць і бачыць, які жывы водгук знайшоў вясной восемдзесят пятага года набатны звон-заклік з Крамля на зямлі, стаўшай для мяне роднай, Беларусі. Я, як і іншыя, па-брацку радаваўся поспехам працавітага беларускага народа, як і іншыя, думаў над мінулым, над тым, што трэба будзе зрабіць нам сёння і заўтра.

Шмат пеоажыта-зведана маім братам-беларусам і ў неймаверна цяжкія гады грамадзянскай вайны, і ў гады калектывізацыі, якая скавала селяніна, забрала тысячы жыццяў, і ў страшныя сваёй жорсткасцю, поўныя чалавечых трагедый гады сталіншчыны, і ў палаючыя часіны Вялікай Айчыннай. Усё гэта прайшло праз сэрца і памяць беларускага народа, усё гэта ў слязах, плачы, горы людзей... Схілімся ж у пашане і перад тымі, хто зведаў гэтыя пакуты, і перад тымі, хто не дазваляе забыць мінулае, а яно, як вядома, уплывае і на сённяшні дзень, а галоўнае — на духоўнасць будучыні. На жаль, знаходзіцца сёй-той, хто гатовы як мага глыбей схаваць трагічнае мінулае беларускага народа ці, у лепшым выпадку, — прамаўчаць пра тых, хто заўчасна загінуў у турэмных засценках, на Калыме, на Салаўках, у Курапатах. Мы павінны быць асабліва ўдзячныя тым, хто праслаўляе Беларусь сваёй працай на зямлі, ля станкоў, не шкадуе намаганняў на ніве аб'ектыўнага паказу ў мастацтве і літаратуры мінулага беларускай нацыі, хто аддае ўсю сілу свайго таленту ўмацаванню і ўзвышэнню культуры народа, яго маральнасці, аднаўленню і сцвярджэнню гістарычнай праўды. Мы яшчэ вельмі далёкія ад ззяючых вяршынь Ісціны і павінны быць удзячныя тым, хто ўносіць пасільны ўклад у гэтую бязмежную, але вельмі неабходную справу пошуку Ісціны мінулага, сцвярджэння Праўды сённяшняга дня. Надышоў, нарэшце, час усеагульнай падтрымкі тых, хто самастойна і канструктыўна мысліць, хто знаходзіцца ў заўсёдным пошуку ўсяго таго, што неабходна для актыўнай перабудовы, — гэта значыць, тых, хто змог вызваліцца ад застарэлых догмаў, хто перастаў безагаворачна верыць трыбунным пастулатам і беспадстаўным заклікам. Такія людзі былі і ёсць, але іх пакуль што, на жаль, не так ужо і шмат.

Сярод іх асаблівае месца займаюць Васіль Быкаў і Алесь Адамовіч. Яны і ў застойныя гады неаднойчы падымалі свае галасы супраць руціны, выхвалляння, бюракратызму. Іхняе пісьменніцкае слова даўно пераступіла межы рэспублікі, выйшла, так бы мовіць, на аператыўны прастор. Не адразу і не лёгка пралёг іх шлях да зорак, а — скрозь церніі і перашкоды. Яшчэ добра памятаюцца тыя гады, калі В. Быкава спрабавалі «перавыхаваць», не выдавалі ў Мінску, здзекаваліся і наладжвалі судзілішча і ў друку, і ў сценах роднага яму Саюза пісьменнікаў. Было ад чаго В. Быкаву бываць у роспачы, апускаць рукі. Патрабавалі ад яго, здавалася б, няшмат: пішы пра вайну так, каб кожны бой заканчваўся перамогай, каб на вайне не было адмоўных герояў, у рэшце рэшт зрабі Рыбака, які прадаў свайго таварыша, сынам папа ці кулака... Яго заклікалі быць амаральным, махнуць рукою на сумленне, якое неспакойна варочалася ў яго ў грудзях. Але Васіль Уладзіміравіч выстаяў, застаўся верным самому сабе, франтавому брацтву, Ісціне. Паявіліся новыя аповесці, а з імі — заслужаныя, выпакутаваныя ім высокія званні і ўзнагароды.

В. Быкаў адзін з тых, хто сэрцам адгукнуўся на перабудову, хто падтрымаў яе і пяром, і словам, і сваёй увагай да таго, хто выйшаў разам з партыяй на барыкады рэвалюцыйнага павароту, на адкрытую барацьбу з пасрэднасцямі, што вылучыліся і прыстасаваліся ў застойныя гады — з прадстаўнікамі магутнага пласта бюракратыі. І тут вось пачалося... Прытым тыя ж прыёмы, што і шмат гадоў назад...

Вернемся да артыкула Т. Бумажковай. Мне б не хацелася рэцэнзаваць яго — гэта заняло б шмат месца на старонках паважанай мною газеты, таму я закрану толькі паасобныя яго моманты, якія выклікалі ў мяне, мякка кажучы, пачуццё пратэсту, асабліва ж тыя, што тычацца журналісцкай этыкі. Мы неяк звыкліся з тым, што ў спрэчках на друкаваных старонках нестае інтэлігентнасці. Частавата бакі не абцяжарваюць сябе паважлівымі адносінамі адзін да аднаго. Што і казаць, не хапае нам культуры ўзаемаадносін! Ці не прыйшла пара падумаць усім разам — пісьменнікам, журналістам — над тым, як адрадзіць і ўмацаваць сапраўды інтэлігентныя адносіны адно да аднаго, адрадзіць саму Інтэлігентнасць, што «прапала без вестак» у страшныя трыццатыя гады. Тым больш, што адной з адзнак інтэлігента з'яўляецца здольнасць асобы да самастойнага асэнсавання рэчаіснасці, да творчага мыслення, чаго так нам нестае!

Нагадаю паасобныя выказванні Т. Бумажковай. Яе абвінавачванні накіраваны супраць апошніх выступленняў у друку В. Быкава і А. Адамовіча, супраць іх грамадскай дзейнасці. У сувязі з гэтым у яе з-пад пяра выходзіць: «...спрытна маніпуляваць грамадскай свядомасцю». Маніпуляцыя — штукарства, махінацыя (слоўнік Ожэгава). Няўжо магчыма ўчыняць такое з грамадскай свядомасцю? Не, вядома, двум, В. Быкаву і А. Адамовічу, нават ім гэта не пад сілу! У. І. Ленін адзначаў, што грамадская свядомасць мяняецца паволі, для гэтага патрэбна цэлая эпоха ці рэвалюцыя. А тут два пісьменнікі не толькі мяняюць грамадскую свядомасць, а яшчэ і маніпулююць ёю. Цаны няма В. Быкаву і А. Адамовічу за іх моц і сілу — варочаюць цэлай грамадскай свядомасцю!

«Муціць ваду, каб спаймаць пару-другую рыбак. Для сябе, вядома». Пра якія рыбкі, дазвольце спытаць Т. Бумажкову, ідзе гаворка? Дзеля чаго В. Быкаву і А. Адамовічу гэтыя «рыбкі»? Дзеля набыцця імя? Яно ў іх ёсць, ды яшчэ якое! Дзеля славы? Яе больш чым дастаткова ў абодвух і не толькі ў нашай краіне, але і далёка за яе межамі.

Няўжо Т. Бумажкова так напалохана выступленнямі ў друку В. Быкава і А. Адамовіча, што тут жа ўзялася за пяро? Чаго вы, мадам, напалохаліся?

(Працяг на стар. 14—15).

*Служба зваротнай сувязі*

# Каму што баліць...

За кожным лістом — канкрэтны чалавек: пэўнага ўзросту, пэўнай адукацыі, культурнага і сацыяльнага статуса, пэўнага грамадскага і сямейнага асяроддзя. Аднак жа ў чымсьці аўтары лістоў і падобныя між сабою. Прынамсі, усе без выключэння пісьмы сведчаць, што пісалі іх людзі нераўнадушныя, неабыякавыя, па-грамадзянску актыўныя.

Пра што ж пішуць нам нашы чытачы? Адназначна адказаць на гэтае пытанне цяжка. Пісьмы розныя. Адны — водгукі на лімаўскія публікацыі. Другія — пра тое, што звязана з апошнімі падзеямі сацыяльна-палітычнага жыцця краіны і рэспублікі. Трэція — традыцыйныя чытацкія лісты ў «ЛіМ» пра моўную сітуацыю ў Беларусі, пра сённяшняе абуджэнне цікавасці да нацыянальнай гісторыі і культуры. Апошніх — найбольш.

**«Не магу не сказаць і пра самае балючае пытанне — месца роднай мовы ў нашым жыцці, яе лёс».**

Гэтыя словы ўзяты з ліста гомельскага настаўніка Святаслава Генадзьевіча **Крупенькі.** Расказаўшы пра тое, як ён правёдзіў у дзесятых класах анкету «Ці патрэбна беларусу беларуская мова?» і пра вынікі гэтага анкетавання (двое выказалі сумненне, а пяцьдзесят восем вучняў выявілі сябе рашучымі прыхільнікамі роднай мовы), С. Крупенька *піша:*

**«Я не хачу паўтарацца і гаварыць пра тое, што ва ўсіх на слыху, праходзіць праз большасць публікацый, выкажу *тольні сваё галоўнае* меркаванне-перакананне па гэтым балючым пытанні: ніякія самыя лепшыя настаўнікі, ніякія самыя гладкія шліфоўкі і нівеліроўкі праграм, дадатковыя меры і перспектыўныя планы не ўратуюць становішча (настолькі яно сур'ёзнае) без вырашэння галоўнага — надання беларускай мове статуса дзяржаўнай. Можна з самых высокіх трыбун заяўляць, што народ сам адрокся ад мовы, падводзіць розныя платформы, папракаць у нацыяналізме і г. д., але ясна адно: пакуль нашы высокія партыйныя і ўрадавыя кіраўнікі са сваіх высокіх трыбун не загавораць на мове той зямлі, якая іх нарадзіла і ўскарміла, не пакажуць прыклад любові і павагі да нашай мовы, гісторыі, культуры, да ўсёй нашай духоўнай спадчыны, — нас чакае сумны лёс нацыянальных нігілістаў і касмапалітаў».**

Уладзімір **Матусевіч** з Мінска свой ліст таксама пачынае менавіта з гэтага: «Як і многіх людзей, мяне хвалююць пытанні адраджэння беларускай мовы, нашай нацыянальнай гісторыі і культуры. Мне здаецца, што вырашаюцца яны надта марудна...»

З далёкага Сыктыўкара даслаў ліст наш сталы ўжо чытач **Г. Радзівонаў.** Ён піша:

**«Сам я вось толькі цяпер, ці то таму, што грымнула ў званы перабудова, ці то таму, што пошукі рамантыкі і самастойнасці адарвалі мяне ад роднай глебы, зразумеў і адчуў, што я беларус. І на пытанне падлікоўца ў час перапісу, якая мая родная мова, адказаў не задумваючыся: беларуская». А далей чытач з болем гаворыць: «Вельмі горка чуць і бачыць, што які край у нашым Саюзе ні вазьмі, абавязкова там самая шматлікая нацменшасць *пасля карэннай* — беларуская. Прынамсі, у многіх месцах такая карціна. Міжволі задумаешся: у чым справа? Мне здаецца, прычына адна: пакідаем мы Беларусь так лёгка таму, што нішто асабліва нас тут не трымае. І толькі пасля, на ад'ездзе, пачынаецца настальгія і запознены пошук сябе».**

Перагукваецца з лістом Г. Радзівонава ліст старшага інспектара Беларускай тэрытарыяльнай таможні **М. Луцкага.** Згадваючы лімаўскую публікацыю «Пакланіцца зямлі Купалы» («ЛіМ» за 6 студзеня г. г.), ён пытаецца-заўважае:

**«Што ж гэта атрымліваецца? Карэльскі фін прыязджае на Беларусь спецыяльна, ён цікавіцца гісторыяй, мовай, культурай беларусаў, а самі беларусы выракаюцца свайго роднага, спрадвечнага? Колькі ж гэта будзе доўжыцца? Ці не час апамятацца?»**

Кароценькі ліст даслаў старшы археолаг Інстытута «Белспецпраектрэстаўрацыя» **І. Сінчук.** Прыводзім яго цалкам:

**«Хачу падзяліцца прыемнаю навіною: сёння ўпершыню за 12 год, што жыву ў Мінску, пачуў, як у тралейбусе абвяшчалі прыпынкі на беларускай мове. Аказваецца, для гэтага ніякіх супернамаганняў не трэба — вазьмі мікрафон і кажы сабе. Калі выйшаў, паглядзеў нумар тралейбуса: сорак восьмы. Дзякуй, вадзіцель!»**

Пра родную мову на гарадскім транспарце — і такі ж самы кароткі ліст старшага навуковага супрацоўніка Інстытута мовазнаўства АН БССР **І. Яшкіна:**

**«Прыемна чуць у метро беларускую і рускую мовы. Раўнапраўе моў адчуваеш наяву, а не на паперы. Чуеш перабудову. Усім зразумела, і ўсе, дарэчы, задаволены, ніхто не пратэстуе. Мы і за тое, каб ленінскі статус рускай мовы, моў польскай, літоўскай, яўрэйскай, а таксама татарскай у нашай рэспубліцы быў адноўлены пры перавазе мовы беларускай як карэннага і шматлікага народа на гэтай тэрыторыі. Практыка тых, дваццатых, гадоў ёсць».**

Водгук і падтрымку чытачоў «ЛіМа» знайшла публікацыя В. Дранчука «Прысягаючы буквару», што была ў нумары за 6 студзеня г. г. Пра яе гавораць у сваіх лістах тыя ж **Г. Радзівонаў, І. Сінчук,** іншыя чытачы. І. Сінчук, працягваючы гаворку, пачатую В. Дранчуком, выказвае шэраг прапаноў па паляпшэнні работы рэспубліканскага тэлебачання, асабліва таго, што тычыцца перадач для дзяцей.

Немалую пошту выклікаў «круглы стол» лімаўскіх чытачоў «Перабудова і мы: урокі, спадзяванні, трывогі» («ЛіМ» за 13 студзеня г. г.). На публікацыю адгукнуліся чытач з Гомеля **А. Акуліч,** настаўнік беларускай мовы і літаратуры з Івацэвіцкага раёна **В. Мароз.** («Такія «круглыя сталы» трэба праводзіць часцей, запрашаць на іх партыйных і савецкіх кіраўнікоў і людзей, зацікаўленых у лёсе роднай мовы, гісторыі і культуры. А ўвогуле трэба ўжо не толькі гаварыць, дыскутаваць, але і рабіць практычныя захады, канкрэтныя справы»), дэфектаскапіст з Мінска **Г. Падольскі** («Цалкам згодны з маналогам удзельніка «круглага стала» А. Трусава. Хацеў бы дадаць, што варта на старонках «ЛіМа» абвясціць конкурс на лепшы праект беларусізацыі. Праграма павінна ўлічваць канкрэтныя сродкі і час завяршэння яе этапаў»), інжынер з Жодзіна **А. Доўгі.** Апошні закранае ў сваім лісце, як сам піша, «некалькі праблем». У прыватнасці, піша ён пра распаўсюджванне нашага штотыднёвіка ў горадзе. Вось якімі назіраннямі дзеліцца жодзінскі інжынер:

**«У нас «ЛіМ» трапляе ў кіёскі па адным экземпляры — усяго 7 экземпляраў на 70-тысячны горад. Цяжка падабраць маштаб, каб падаць перавагі рускамоўнага друку перад беларускамоўным, нават лагарыфмічны маштаб тут не падыходзіць. Таму паспрабую параўнаць даступнасць «ЛіМа» чытачу з замежнымі выданнямі. Па маіх назіраннях, 1 экземпляр «ЛіМа» прыпадае на 5 экземпляраў «Нойес дойчланд», 6—7 «Рудэ право», 4 «Унзэрэ цайт», 4 «Жолнеж вальносці». Затое беластоцкая беларуская «Ніва» ў Жодзіне такая вялікая рэдкасць, што мне не даводзілася страчаць тых шчаслівчыкаў, якім удавалася б купіць два і больш яе нумароў запар. Пагадзіцеся, што ўсё гэта наводзіць на сумны роздум».**

Чытач з Мінска **С. Несцярэўскі** дзеліцца сваім уражаннем ад апавядання А. Асташонка «Беларускі акцэнт» («ЛіМ» за 20 студзеня г. г.). «Нешта падобнае здарылася і са мной, — піша тав. Несцярэўскі. — Як і герой апавядання, я таксама зведаў пакуты, крыўды і абразы за свой «беларускі акцэнт». Дзякуй Асташонку, што дапамог мне разабрацца ў сітуацыі, зразумець сябе і іншых».

Інжынер-канструктар з Барысава **А. Сянкевіч** піша:

**«Перабудова і галоснасць непадзельныя. *Аднак, напэўна,* насельніцтва нашай рэспублікі яшчэ не гатова «для спажывання галоснасці». Інакш чым яшчэ можна растлумачыць пазіцыю беларускіх перыядычных выданняў у дачыненні да неафармальных аб'яднанняў? Чаму пра з'езд беларускіх нефармалаў у Вільнюсе можна пісаць толькі ў «Правде»? Чаму да гэтага часу не апублікаваны дакументы «Мартыралога Беларусі»? Няўжо для таго, каб даведацца, што робіцца ў рэспубліцы, трэба ехаць у Вільнюс, Маскву ці слухаць радыё «Свабода»? Чаму хтосьці хоча, каб словы «талака», «тутэйшыя», «мартыралог», «аргкамітэт БНФ за перабудову «Адраджэнне» значыліся ў нашай мове, як словы лаянкі?»**

Пытанні, якія задае наш чытач і якія адносяцца, бадай, да так званых рытарычных, досыць сур'ёзныя і вартыя таго, каб адказы на іх былі ўсё ж неўзабаве знойдзены.

Ёсць у рэдакцыйнай пошце і пісьмы, у якіх чытачы, спасылаючыся на адмену пастаноў аб увекавечанні памяці Жданава, Брэжнева, Чарненкі, гавораць аб тым, што да гэтай справы трэба паставіцца вельмі адказна і сур'ёзна. Так, **А. Грышкевіч** з Рыгі піша: «Прапаную замест ждановаўскіх вярнуць усе старыя, ранейшыя назвы. Калі ж па нейкіх прычынах зрабіць гэтага нельга, дык падумаць над тым, каб новыя назвы найбольш адпавядалі нашай гісторыі, мясцоваму каларыту і, не ў апошнюю чаргу, мове». Пра гэта ж піша і мінчанін **Я. Ермаковіч.**

Рабочы «Гомсельмаша» **А. Бранкоўскі** робіць закід у адрас рэдакцыі «ЛіМа»: маўляў, штотыднёвік чамусьці не закранае ў сваіх публікацыях жыллёвай праблемы. Што ж, папрок чытача слушны, пытанне гэтае надзвычай важнае, у тым ліку і для творчых работнікаў рэспублікі, і «ЛіМ» несумненна звернецца да яго.

У лісце ваеннаслужачага тэрміновай службы **В. Корзуна** ідзе размова пра выпадкі парушэнняў воінскай дысцыпліны, нестатутных узаемаадносін, прыніжэння нацыянальнай годнасці ў армейскім асяроддзі.

Вось такая яна, лімаўская пошта апошняга часу. Зрэшты, не ўся пошта, а толькі невялікая частка яе, тыя з лістоў, якія па розных прычынах своечасова не трапілі на газетныя палосы і кароткі агляд якіх мы паспрабавалі зрабіць зараз.

**АДДЗЕЛ ПІСЬМАЎ І ГРАМАДСКАЙ ДУМКІ «ЛіМа».**

*Чытач прыйшоў у рэдакцыю*

# Ці звальняць геолага Сарокіна?

Геолаг А. Г. Сарокін апынуўся ў складанай сітуацыі, стаў, можна сказаць, ахвярай уласнай... прынцыповасці. І хоць малады чалавек, расказваючы нам сваю гісторыю, спрабаваў падаць яе не без гумару, але ўсё адно ў вачах яго нібы адбіўся знак пытальніка: ці ж гэта магчыма?!

Анатоль Георгіевіч прыехаў у рэдакцыю з Краснага, што на Маладзечаншчыне. Іменна там цяпер займаецца мінера-генічным картыраваннем, а прасцей— пошукамі карысных выкапняў, — у складзе Вілейска-Свіслацкай геолага-здымачнай партыі. Наш чытач, як высветлілася, выправіўся ў сталіцу не з «пустым партфелем». Ён вёз «кур'ерскай» электрычкай пакет, які, фактычна, вырашаў яго далейшы жыццёвы лёс. Геолаг Сарокін павінен быў уручыць змесціва пакета галоўнаму геолагу Беларускай гідрагеалагічнай экспедыцыі Г. І. Ількевічу, аднак спачатку пазнаёміў са зместам дакумента нас. Працытуем рапарт цалкам: «Даводжу да Вашага ведама, што, нягледзячы на ўсе ўгаворванні, геолаг Сарокін А. Г. упарта працягвае весці геалагічную дакументацыю на беларускай мове. У сучасны момант мы практычна пазбаўлены магчымасці выкарыстоўваць вынікі ягонай працы. Таму я вымушаны зняць з пасады геолага Сарокіна А. Г. Накіроўваю яго ў распараджэнне экспедыцыі для разгляду магчымасці яго далейшай працы ў нашай арганізацыі. Галоўны геолаг ВСГЗП Л. А. Паліўка. 15 лютага 1989 года».

— А перадгісторыя была такая, — працягваў свой аповяд Анатоль Георгіевіч. — Сам я родам з Мінска, вучыўся тут у сярэдняй школе № 75. Мае бацькі, як, дарэчы, і многія іншыя бацькі маіх аднакласнікаў, вызвалілі мяне ад вывучэння роднай мовы. Так што творы класікаў беларускай літаратуры спасцігаў на ўроках па-руску. Цяпер нават сорамна пра гэта гаварыць, але — факт. Вышэйшую адукацыю атрымаў у Ленінградзе і больш за пяць гадоў працаваў у экспедыцыі ў Ленінградскай вобласці... Вось іменна тады, калі доўгі час быў адарваны ад Беларусі, прыйшло пачуццё бацькаўшчыны — нібы нейкая настальгія працяла: засумаваў па мове дзядоў, якую на той час так і не спасціг...

Тры гады назад уладкаваўся на працу ў Мінску, у згаданую экспедыцыю. Пачаў самастойна вывучаць родную мову, праўда, і цяпер без слоўніка пакуль абыходжуся не заўсёды, аднак— не ў гэтым сутнасць справы. Галоўнае— адчуў неабходнасць у далучэнні да мовы, да гісторыі і культуры зямлі, на якой нарадзіўся і жыву. Вось і дачушку сваю прывучаю цяпер з першых яе жыццёвых крокаў да роднага слова, каб вырасла яна духоўна багатым чалавекам, карысным для сваёй рэспублікі.

Канфлікт на працы разгарэўся пасля таго, як я пачаў занатоўваць у сваім палявым дзённіку вынікі геалагічных даследаванняў на беларускай мове. Спачатку начальнік партыі Л. Паліўка быў перакананы, што гэтае маё дзівацтва, як ён меркаваў, часовае, а потым пачаў патрабаваць, каб я кінуў гэтую «гульню». Я ж паспрабаваў яму растлумачыць, што гэта з майго боку — не жарт, не «гульня ў беларуса», што экспедыцыя наша называецца **«Беларуская** гідрагеалагічная...» і, хоць бы для гісторыі, павінен быць беларускі варыянт справаздачы з тых месцаў, дзе мы шукаем карысныя выкапні.

Далей — болей. Выклікалі мяне ў Мінск, у экспедыцыю, да галоўнага геолага Г. Ількевіча. Ён таксама пачаў угаворваць мяне, маўляў, ніхто не забараняе, дома рабі што хочаш, пішы па-беларуску, размаўляй, а на рабоце — як усе, дакументуй па-руску. Калі я заўпарціўся, Георгій Іванавіч сказаў, каб я адстойваў свае правы праз... суд. І вось цяпер — гэты рапарт... Дык што рабіць тым, хто хоча, каб мова беларуская жыла ва ўсіх сваіх праявах, ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі? Ствараць нейкія рэзервацыі? Дык у рэспубліцы, усе цяпер кажуць, двухмоўе, кожны мае права карыстацца і беларускай, і рускай. Дзе ж ісціна? Маё начальства даводзіць мне, што будзе дорага каштаваць пераклад маіх справаздач з беларускай на рускую мову, а справаздач маіх калег— з рускай на беларускую, напрыклад. Лічу, што гэта — не аргумент.

---

**Мы пазванілі ў Беларускую гідрагеалагічную экспедыцыю, размаўлялі з Георгіем Іванавічам Ількевічам. Дарэчы, ён сам няблага валодае роднай мовай і, як вынікае з яго слоў, — не супраць яе ўжывання, але толькі не тут, не ў падраздзяленнях экспедыцыі. Чаму? «Па-першае, — тлумачыў галоўны геолаг, — наша арганізацыя — усесаюзнага падпарадкавання, *а гэта значыць, што справаздачы* з геалагічных партый ідуць у Маскву. Наймаць спецыяльнага перакладчыка для Сарокіна? Па-другое, і сам Сарокін (ён, дарэчы, неблагі спецыяліст) не вельмі яшчэ добра беларускай мовай валодае, увесь час зазірае ў слоўнік. Дык ці трэба псаваць нервы ўсім нам?..»**

**Вось такі выпадак, вось такая сітуацыя: чалавеку пагражаюць звальненнем з працы за ўжыванне беларускай мовы. Што тут скажаш? Гэта яшчэ адзін штрых да таго дэфармаванага малюнка, які адлюстроўвае становішча з роднай мовай. Хто ж падкажа, хто адкажа, як дапамагчы геолагу Сарокіну ў яго бядзе?**

*Ліст у рэдакцыю*

# Хачу ўдакладніць

**3 лютага «ЛіМ» надрукаваў рэпартаж з пасяджэння Савета па нарысу і публіцыстыцы СП СССР. На тым мінскім савеце выступаў і я, і ваша газета мяне цытуе: «У 1987 годзе Беларусь абвясціла на ўсю краіну, што ёю атрыманы небывалы ўраджай збожжавых — 35 цэнтнераў з гектара на круг. Аказалася, лічба гэта завышана, што пацвердзіў народны кантроль рэспублікі».**

**Мне пазваніў намеснік старшыні Камітэта народнага кантролю БССР Эдуард Іванавіч Наготка і *сказаў, што ў маіх словах няпраўда.* І ён, бадай, мае рацыю. Вось што я гаварыў на савеце (запіс з магнітафоннай стужкі):**

**«Вы ведаеце, што ў 1987 годзе мы сабралі рэкордны ўраджай — 34 цэнтнеры з гектара. У мінулым годзе я збіраў выразкі з газет. Усе газеты, рэспубліканскія, абласныя і нават раённыя, друкуюць матэрыялы пад рубрыкай «У Камітэце народнага кантролю». Дык вось, *пасля таго, як мы* сабралі гэты рэкордны ўраджай, запрацавалі нашы народныя кантралёры. Пачалі з'яўляцца матэрыялы — *аднатыповыя:* у гэтым саўгасе — прыпіскі, у тым калгасе — прыпіскі. З цягам часу ў мяне склалася цэлая папка з такіх матэрыялаў, і я зрабіў для сябе некаторыя вывады. Адна з «прычын» нашай высокай ураджайнасці вядзе да вядомага «вопыту» з узбекскай бавоўнай...»**

**Анатоль КАЗЛОВІЧ.**

«ЛіМ» ПАВЕДАМЛЯЕ

## «Куды глядзіць міліцыя?»

**Апошнім часам прэс-канферэнцыі і брыфінгі з прадстаўнікамі праваахоўных органаў сталі звычайнай практыкай. Тым не менш, сустрэча з міністрам унутраных спраў БССР В. А. Піскаровым, якая адбылася днямі ў Доме літаратара ў Мінску, выклікала непадробную цікавасць.**



Многія звесткі, якімі падзяліўся міністр у сваім выступленні перад аўдыторыяй пісьменнікаў, ужо змяшчаліся на старонках рэспубліканскага друку. Аднак некаторыя лічбы пра стан спраў са злачыннасцю на Беларусі нагадаць усё ж варта.

Толькі за мінулы год да адміністрацыйнай і крымінальнай адказнасці ў рэспубліцы было прыцягнута амаль 1,5 мільёна чалавек.

За апошнія два дзесяцігоддзі больш як удвая павялічылася колькасць наўмысных забойстваў (у 1987 годзе іх было больш за 340). Колькасць карыслівых злачынстваў (разбой, грабеж, хабарніцтва, спекуляцыя) за тыя ж дваццаць гадоў узрасла з 10 да 30 тысяч.

Расце колькасць дзёрзкіх і асабліва жорсткіх злачынстваў. Вялікую трывогу выклікае рост жаночай злачыннасці — сёння яна складае больш за трыццаць працэнтаў ад агульнай.

На ўліку ў рэспубліцы 15 тысяч так званых «цяжкіх падлеткаў». У калоніях кожны дзевяты зняволены — непаўналетні.

Не ўдаецца ўтаймаваць рост п'янства (на ўліку зараз 180 тысяч алкаголікаў) і «п'янай злачыннасці», самагонаварэння, наркаманіі, прастытуцыі.

Усё часцей сутыкаецца міліцыя з арганізаванай злачыннасцю, асабліва небяспечнай для грамадства. Распаўсюджваецца такая з'ява, як рэкет. Нярэдкімі сталі напады на работнікаў правапарадку.

Органы міліцыі, з усёй шчырасцю прызнаў міністр, у многім аказаліся не гатовымі да такога «шквалістага» росту злачыннасці ў апошнія гады. Агульная яе раскрывальнасць складае зараз каля 80 працэнтаў. Толькі на пачатак года заставаліся не раскрытымі 7 тысяч злачынстваў. На вялікі жаль, працэсы карупцыі закранулі і органы ўнутраных спраў. За мінулы год былі асуджаны 19 работнікаў міліцыі.

У чым жа бачыць міністр прычыны такога небяспечнага стану спраў?

Перш за ўсё, безумоўна, іх трэба шукаць у эканоміцы, прынцыпы якой складваліся ў гады застою — у хранічнай нястачы тавараў, нізкай якасці айчыннай прадукцыі, сацыяльнай няроўнасці паміж рознымі групамі насельніцтва.

Сярод прычын злачыннасці міністр назваў нізкі ўзровень грамадскай маралі і прававой свядомасці, недахопы выхавання ў сям'і і школе, аслабленне працоўнай і вытворчай дысцыпліны.

Трэба адзначыць, што некаторыя выказванні міністра ўнутраных спраў сустрэлі нязгоду часткі аўдыторыі. У прыватнасці, шмат пытанняў з залы выклікала яго меркаванне аб «празмернай гуманнасці» і лібералізме як выдатках дэмакратызацыі і галоснасці ў нашым грамадстве. Яны, маўляў, вядуць да беспакаранасці злачынцаў, хаосу і нават масавых беспарадкаў.

Некалькі пытанняў да міністра тычылася вядомых падзей 30 кастрычніка. Адказваючы на іх, В. Піскароў прызнаў — органы ўнутраных спраў прыйшлі да высновы, што ў час забароненага мітынгу ў Мінску, магчыма, мела месца несанкцыяніраванае ўжыванне «спецсродкаў», у прыватнасці, газаў. Усім, хто пры гэтым пацярпеў, міліцыя гатова прынесці прабачэнне ў індывідуальным парадку.

Міністр выказаў свае адносіны да праблем развіцця дэмакратыі і галоснасці, пераадолення сталінізму, да асобных публікацый у прэсе. Адказваючы на адно з пытанняў, ён выказаў думку, якая нейкім чынам абагульняла і падсумоўвала вынікі выступлення: «Мы ўсе людзі свайго часу і ўсе павінны вучыцца новаму мысленню».

Вёў сустрэчу з міністрам першы сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі Н. Гілевіч.

НАШ КАР.

*Перабудова і мы: урокі, трывогі, спадзяванні*

**Ніл ГІЛЕВІЧ**

# МІЖ БЫЛЫМ І НАСТУПНЫМ

СШЫТАК ДРУГІ

(Працяг. Пачатак у нумары за 17.02.89 г.).

КОЛЬКІ НІ ДУМАЮ, так і не магу зразумець, чаму такое ўпартае супраціўленне сустракае ў многіх прапанова зліквідаваць у Законе аб народнай адукацыі пункт, паводле якога мову навучання для дзяцей выбіраюць бацькі. Мова навучання — гэта не тое, што трэба выбіраць, што можна хацець або не хацець. Мова — гэта МОВА, гэта — аснова ўсёй вучобы і выхавання. Вучыцца на роднай мове — не толькі права, але і абавязак кожнага маленькага грамадзяніна рэспублікі. Я падкрэсліваю — на роднай мове. Гэта значыць, навучанне на беларускай мове ў Беларусі з'яўляецца абавязковым для дзяцей беларусаў. Для астатніх жа — рускіх, украінцаў, палякаў, літоўцаў, яўрэяў — павінна быць законам забяспечана навучанне таксама на іх роднай мове — з адною агаворкай, што яны ў абавязковым парадку вывучаюць як прадмет беларускую мову, бо жыць у Беларусі і не ведаць мовы асноўнай нацыі рэспублікі — нельга, іначай чалавек не здолее належным чынам арганізаваць сваю працоўную і грамадскую дзейнасць, да таго ж, ізаляваны моўным бар'ерам ад свету нацыянальнай літаратуры і мастацтва, ад нацыянальных сродкаў інфармацыі, будзе несці страты ў духоўным самаразвіцці.

Вось, на маё перакананне, сапраўды дэмакратычны падыход і дэмакратычнае рашэнне нацыянальнага пытання ў галіне асветы. Але менавіта такі падыход і такое рашэнне ўпарта абвяшчаюцца непрымальнымі. Самае дзіўнае, што пры гэтым спасылаюцца на У. І. Леніна, як быццам не Леніну належыць вось гэта катэгарычнае папярэджанне: «Члены РКП на тэрыторыі Украіны павінны на справе праводзіць права працоўных мас вучыцца і гаварыць ва ўсіх савецкіх установах на роднай мове, усяляк процідзейнічаючы спробам штучнымі сродкамі адцясніць украінскую мову на другі план...» У. І. Ленін гаварыў аб Украіне, але ж зразумела, што гэта цалкам датычыць і Беларусі і ўсіх іншых рэспублік СССР.

Таварышы цытуюць радкі У. І. Леніна, у якіх ён адмаўляе неабходнасць увядзення адзінай дзяржаўнай мовы. Толькі таварышы «ненаўмысна» замоўчваюць, што канкрэтна У. І. Ленін меў на ўвазе. А меў ён на ўвазе, што ў шматнацыянальнай краіне нельга ўводзіць у якасці агульнадзяржаўнай мову рускую, якая павінна заставацца толькі мовай міжнацыянальных зносін. Па логіцы ж таварышаў выходзіць, што Ленін быў супроць таго, каб беларуская мова ў Беларусі была дзяржаўнай. Гэта — грубае скажэнне ленінскай пазіцыі. Нічога падобнага ў працах і выступленнях Уладзіміра Ільіча няма. Як можна ў сваім нежаданні даць беларускай мове статус дзяржаўнай спасылацца і абапірацца на Леніна, — проста ў галаве не ўкладваецца. Леніным, які быў найвялікшым інтэрнацыяналістам, апраўдваць бяспраўнае становішча мовы цэлага народа, які, дарэчы, мае сваю суверэнную дзяржаву, сваю рэспубліку! Я кажу: бяспраўнае становішча, таму што мова, якая не мае канстытуцыйнага статуса дзяржаўнай, з'яўляецца бяспраўнай. Яе правы нічым не гарантаваны. Хачу — пішу афіцыйны дакумент на гэтай мове, не хачу — не пішу. А напішу — дык вышэйшы начальнік верне мне мой дакумент назад, ды яшчэ і збэсціць мяне, а то і з работы пагоніць — як беларускага нацыяналіста. І што я змагу зрабіць, як абаранюся? На які спашлюся закон, што маю права весці афіцыйную дакументацыю на роднай мове? Ні на які. Такога закона няма.

Вось яшчэ што бясконца здзіўляе. У пошуках тэарэтычнага абгрунтавання сваіх пазіцый таварышы выстрыгаюць з У. І. Леніна цытаты, замест таго, каб сумленнымі вачыма паглядзець на ленінскую практыку, на тое, як пачало вырашацца нацыянальнае пытанне, у тым ліку ў галіне мовы, яшчэ пры яго, Леніна, жыцці. У 20-я гады ў БССР беларуская мова была ў поўным сэнсе слова мовай дзяржаўнай. На ёй вялося справаводства ва ўсіх савецкіх і дзяржаўных установах — ад ЦВК да сельсавета, ад Саўнаркома да самай малой канторы; у партыйных камітэтах — ад ЦК КП(б)Б да бюро пярвічнай партыйнай арганізацыі — таксама; ва ўсіх грамадскіх арганізацыях — таксама; на беларускай мове чыталіся курсы лекцый студэнтам ВНУ і г. д. Усё гэта ўспрымалася натуральна, бо было глыбока дэмакратычным па сутнасці, і зусім не перашкаджала ўздыму сельскай гаспадаркі, развіццю індустрыі і правядзенню культурнай рэвалюцыі ў рэспубліцы. Наадварот! Вядома, які радасны панаваў у масах працоўнага народа настрой! Якім высокім было творчае натхненне! І ўсё гэта было паступова зліквідавана, зведзена на нішто сіламі антыленінскай контррэвалюцыі, намаганнямі Сталіна і яго прыспешнікаў. Паправіць становішча пры Хрушчове, а тым больш пры Брэжневе было немагчыма, таму што гэта архіважнае палітычнае пытанне можа быць вырашана толькі ў рэчышчы агульнай дэмакратызацыі жыцця ў краіне, толькі ў выніку карэнных перамен у самой грамадска-палітычнай сістэме, сітуацыя ж тым часам развівалася не наперад ад XX з'езда КПСС, а назад. Шчыра кажучы, пытанне аб стане і лёсе нацыянальных моў пры ўсіх паслядоўніках Сталіна наогул ні разу не ставілася на парадак дня.

Здавалася б, што цяпер, сёння, калі мы так добра працёрлі сабе вочы ў поглядах на наша нядаўняе мінулае, для ўсіх усё зразумела: і чаму беларуская мова страціла статус дзяржаўнай, і чаму яна даведзена да такога вартага жалю становішча. Ну, а калі гэта для ўсіх зразумела, дык павінна быць ясным і тое, што выправіць сітуацыю можна толькі вярнуўшыся да Леніна, гэта значыць, вярнуўшы нашай мове тыя канстытуцыйныя правы, якія яна калісь мела, а потым страціла. Ніхто не кажа, што практычна ажыццявіць вяртанне да Леніна будзе лёгка. Але ж і іншага выйсця няма! Калі мы сапраўды жадаем свайму народу, беларускай нацыі рэальнага культурнага адраджэння, а не гуляем самі з сабой у жмуркі, — то іншага выйсця, паўтараю, няма.

□

**БЕЛАРУСКАЯ МОВА ў сваім жа беларускім краі не можа знаходзіцца ў ролі другараднай, дадатковай — як якая-небудзь замежная. Бо нацыянальная культура не можа ў духоўным жыцці народа быць якімсьці даважкам. Яна — натуральная форма духоўнага існавання нацыі, яна — убірае ў сябе багацці іншых культур, пераплаўляе, засвойвае і такім чынам становіцца багацейшай, дужэйшай, больш жыццяздольнай. Але калі яна ў сваім жа народзе, на сваёй зямлі, не галоўная, не пануючая — тады яе ўбірае ў сябе і растварае ў сабе тая культура, што пануе. У 20-я гады на Беларусі бясспрэчна панавала беларуская культура і вельмі прыкметна ўзбагачалася, дужэла, узвышалася. Чаму? Таму што панавала і ўзвышалася наша роднае беларускае слова.**

**Культура нацыі без культуры роднай мовы — нонсенс, бяссэнсіца. *Калі ж мы ўсе агулам — усенародна — зразумеем гэту ісціну?* Тут — адно з двух: або мы за развіццё нацыянальнай культуры і, значыць, за адраджэнне роднай мовы, або мы свядома стаім на пазіцыі адмаўлення нацыянальнай культуры і, значыць, за асіміляцыю нашай роднай мовы. Адно з двух! Трэцяга тут няма. Калі мы за другі варыянт — то давайце на ўвесь голас і скажам: «Мы за асіміляцыю! За поўнае зліццё нашай мовы і культуры з рускай!» Дык жа не! Гаворым: «Мы за росквіт! За далейшы ўздым беларускай нацыянальнай культуры!»**

□

ПАДУМАЦЬ ТОЛЬКІ: быў час, калі нават Сталін выступаў у абарону беларускай нацыянальнасці, беларускай мовы і культуры! Той самы Сталін, па злой волі якога была ўчынена над нашай мовай і культурай такая жахлівая экзекуцыя. Трагедыя пачалася ў канцы 20-х гадоў, а ў 1921 годзе, на X з'ездзе РКП(б), Язэп Вісарыёнавіч (тады ён яшчэ не быў генсекам) гаварыў: «Тут я маю запіску аб тым, што мы, камуністы, быццам бы насаджаем беларускую нацыянальнасць штучна. Гэта няправільна, таму што існуе беларуская нацыянальнасць, у якой ёсць свая мова, адрозная ад рускай, з прычыны чаго падняць культуру беларускага народа можна толькі на роднай яго мове».

Так гаварыў Язэп Вісарыёнавіч пры Леніне. Зрэшты, сказаць ён мог гэтак жа і пасля Леніна. Гаварыў ён часцей за ўсё правільна — як паслядоўнік і пераемнік вялікага правадыра рэвалюцыі. А рабіў — амаль усё наадварот. Ва ўсякім разе ў нацыянальным пытанні ён абедзвюма нагамі стаяў на пазіцыях вялікадзяржаўнага шавінізму. І таму адраджэнне беларускай мовы і культуры без барацьбы супроць сталіншчыны—справа нерэальная. Трэба даастатку ліквідаваць дух сталіншчыны ў нашым жыцці — без гэтага не ўсталюецца і не запануе дух узаемапавагі і сапраўды братэрскага раўнапраўя.

□

**ТЭНДЭНЦЫЙНАЯ падтасоўка фактаў у размовах пра беларускую мову і культуру працягваецца. У апошнім нумары паважнага рэспубліканскага выдання чытаю: «Калі па перапісу 1970 года рускую мову ў якасці другой мовы, якою жыхары свабодна валодаюць, назвалі 4 082 тысячы чалавек, то па перапісу 1979 года — 5 095 тысяч чалавек...» Іншымі словамі, больш палавіны жыхароў Беларусі заявілі, што яны «свабодна валодаюць» рускай мовай. Ну, што ж, выдатна! Несумненны прагрэс! Рускую мову *як сродак міжнацыянальных* зносін трэба ведаць усім. Толькі — адно невялікае пытанне нашым вучоным сацыёлагам у дадатак: а колькі жыхароў Беларусі свабодна валодаюць беларускай мовай? Колькі мільёнаў — і ўжо не проста жыхароў, а беларусаў у Беларусі — гавораць між сабой па-беларуску? Такіх статыстычных дадзеных у вас няма? А што ж такое? Чаму? А можа, ёсць, ды вам не хочацца іх падаваць? Бо акажацца, што лік пойдзе зусім не на мільёны? Сапраўды: якія мільёны, калі нават народныя артысты акадэмічнага нацыянальнага тэатра не могуць між сабой, у побыце, свабодна гаварыць на мове народа, які прысвоіў ім ганаровыя званні!..**

**Або — чытаю ў гэтым жа артыкуле: «На нацыянальную мову беларускага народа, напрыклад, к 1985 году перакладзены творы 210 класікаў сусветнай літаратуры, у тым ліку 30 амерыканскіх, 41 англійскі, 47 французскіх...» Атрымае недасведчаны чытач гэту нібыта афіцыйную даведку — і падумае: «Дык жа добрае становішча ў Беларусі з мастацкім перакладам! Шмат перакладаецца! Добра ідуць справы! І чаго гэта тыя пісьменнікі падымаюць крык? Што ім яшчэ трэба? Мабыць, і сапраўды крыкуны яны ўсё-такі!..» А між тым працытаваная афіцыйная даведка — яскравы прыклад таго, як можна пускаць пыл у вочы, каб выглядаць прыгожа. У даведцы не хапае аднаго маленькага ўдакладнення, а іменна: не сказана, што амаль 80 працэнтаў ад названай колькасці амерыканскіх, англійскіх і французскіх кніг былі выдадзены ў нас да вайны, у 20—30-я гады, а на сорак пасляваенных гадоў, з 1945 па 1985, прыпадае ўсяго працэнтаў 20, гэта значыць — пяцьшэсць кніг на кожную з гэтых вялікіх літаратур. Пяць-шэсць кніг за сорак гадоў! Дзве — у лепшым выпадку — кнігі на дзесяцігоддзе!**

**Дык пра якія поспехі беларускага мастацтва перакладу будзем гаварыць, паважаныя таварышы? І каму будзем затыкаць рот як крыкунам, пакольні — «праблемы няма»?**

**Самае сумнае, што на календары — снежань 1986 года. Што падобныя афіцыйныя даведкі выдаюцца «на гара», калі ў краіне ўжо даўно ўзяты курс на перабудову. Выдаецца за праўду, за ісціну хітрая падтасоўка. Хітрая — бо назваць гэта проста хлуснёй нібыта не выпадае, прыведзеныя лічбы — непрыдуманыя. Але паколькі і праўдай гэта не назавеш — праўдай пра рэальнае становішча мастацкага перакладу, як і пра рэальнае становішча беларускай мовы ў Беларусі, — дык што гэта тады перад намі, што за з'явішча такое? А гэта тое, што давяло ў нас да сучаснага стану і эканоміку, і сельскую гаспадарку, і сацыяльны быт, і сям'ю, і школу, і ахову прыроды, і міжнацыянальныя ўзаемаадносіны, і эстрадную музыку, і шмат чаго іншага. Па форме яно — нібыта праўда, а па сутнасці — вялікая пагібельная хлусня.**

***Паважаныя! Шаноўныя! Апамніцеся! Спыніцеся і агледзьцеся!* Ну, нельга ж так бессаромна, так нікчэмна, па-змоўніцку, выкручвацца, вылузвацца, уцякаць і хавацца ад праўды! Ну, не рабіце нічога на карысць *роднай культуры* — не рабіце, раз не хочацца! Але — хлусіць — навошта?**

□

ШТО ТРЭБА, каб перайначылася ў лепшы бок становішча роднае мовы ў рэспубліцы? Трэба, каб шырокія масы беларускага народа адчулі сорам — глыбокі, пякучы сорам — за свой ганебны нацыянальны нігілізм. Бо толькі глыбокі сорам можа кожнаму падказаць правільны, чалавечны шлях — як быць і жыць на сваёй зямлі далей, можа прымусіць схамянуцца і апомніцца. І патрабаваць ад урада прыняць закон, які б гарантаваў, што ён, народ, не застанецца без сваёй уласнай мовы.

(Працяг на стар. 8—9).

## Васіль БЫКАЎ. «АБЛАВА»

**Як і трэба было чакаць, новая аповесць Васіля Быкава «Аблава», надрукаваная ў студзеньскім нумары часопіса «Полымя», адразу ж прыцягнула да сябе ўвагу чытачоў і крытыкі. Пра аповесць ішла гутарка ў дакладзе літаратуразнаўцы Л. Савік, з якім яна выступіла нядаўна на сумесным партыйным сходзе камуністаў СП і Інстытута літаратуры АН БССР (гл. справаздачу ў «ЛіМе» за 17 лютага). Першыя водгукі і літаратурна-крытычныя разгляды атрымала рэдакцыя штотыднёвіка. Сярод іх — рэцэнзіі С. Дубаўца і А. Марціновіча. Яны напісаны незалежна адна ад другой, і мы друкуем іх без прынятай у такіх выпадках рубрыкі «Дзве думкі». Хаця гэта ў нейкім сэнсе і не адна думка. Бо твор разглядаецца крыху з розных пунктаў гледжання, кожны з крытыкаў зыходзіць недзе са свайго ацэначнага крытэрыю і выступае ў сваім стылі.**

# МАГІСТРАЛЬ

Усё паўтараецца зноў. І ўжо з першых старонак я ведаю, чым пагражае мне гэтае чытанне. Зноў на маім шляху — знаёмыя знакі бяды. Зноў — галоднае і непрытульнае блуканне. Зноў смерць, роспач... Але ж цягне наперад вечна новая жахлівая праўда. Няма ў ёй суцяшэння, ды прагнучы суцяшэння, я чамусьці прагну яе. Прагну одуму і іду — за гэтай абыякавай да мяне спінаю засяроджанага ў сабе павадыра, за ягоным марудлівым голасам, так падобным да зануднага восеньскага дажджу, ад якога пачынаеш думаць пра мітусню, пра марнасць нашых добрых парыванняў і пра Канец Свету ў такіх рэальных сёння праявах...

**Будзь ты дуж, як вада,**
**Як жалеза цвярды, —**
**Калі найдзе нуда,**
**Ты ня зможаш нуды!..**

Зноў... Пэўне, калі адкінуць нейкія чыста вонкавыя, намінальныя адрозненні, дык атрымаецца, што ўсё, што ёсць у «Аблаве», ужо было ў папярэдніх аповесцях Пісьменніка. Калектывізацыя - раскулачванне («Знак бяды»), уцёкі з катаргі («Альпійская балада»), аблава («Воўчая зграя»)... Нібы апошні твор — гэта папуры на тэмы ранейшых. Нібы ён падагульняе іх як іхні апафеоз. І таму падзеі і героі ў «Аблаве» — падагульненыя. А галоўны герой — Хведар Роўба — не такі індывідуалізаваны і акрэслены характарам, як, скажам, ягоныя літаратурныя пабрацімы — Грыбаед ці Пятрок Багацька. Роўба — зборны герой у зборнай аповесці, якая праз тое нагадвае пятнаццаты верш у вянку санетаў, па радку сабраны з 14-ці папярэдніх, — магістраль.

Радкі магістралі сцягваюцца адзін да аднаго, як апорныя слупы штакетніка можна сцягнуць у крапасны маналіт. Дробныя дошкі пры гэтым адкідаюцца. Яны — толькі тло. Гэтак у маленькай маналітнай «Аблаве» ўжо зусім не аказалася мінулае вайны. (Праўда, і міру ў ёй няма. На шматлікія «прадчуванні» звароту Пісьменніка да сучаснасці ён адказаў зваротам да 30-х гадоў). Але адсутнасць вайны надзіва незаўважная. Таксама і аўтарава вернасць сабе не выклікае сумліву. Інакш кажучы, вайна і фашызм тут цалкам саступілі месца давайне і сталіншчыне, і падмена не лезе ў вочы.

Між іншым, гэтую адпаведнасць ці паралель Пісьменнік акрэсліў і дакументальным словам, гаворачы ў «Литературной газете» пра раман В. Гросмана «Жыццё і лёс»: «Менавіта з гэтага рамана мы ўведалі страшэнных рэчаў адносна дзіўнага падабенства дзвюх, як здавалася, цалкам процілеглых сістэм улады ў найбуйнейшых дзяржавах Еўропы. Высвятляецца, імперскі рух у Германіі намінальна з'яўляўся таксама і сацыялістычным, ставіў на мэце збудаванне гарманічнае народнае дзяржавы, хіба што на расавым грунце; гітлераўская партыя афіцыйна насіла назву «нямецкая нацыянал-сацыялісцкая рабочая партыя»; фактычнай асновай улады і тут, і там быў адкрыта выражаны аўтакратызм; абедзвюм дзяржавам, хоць, можа, і ў рознай ступені, былі ўласцівыя гэткія з'явы, як культурны нігілізм, улада ўсемагутнае тайнае паліцыі, разгалінаваная, беспрэцэдэнтная ў гісторыі зямной цывілізацыі сістэма канцлагераў, поўная знявага элементарных правоў чалавека».

Я дашчэнту расчалавечыўся, — думае пра сябе Хведар Роўба. А можа — лад?

Сапраўды ж, мы, здаецца, зусім пэўна ставімся да заходняга фашызму, прафашызму і неафашызму. У адносінах да сталіншчыны такое пэўнасці яшчэ няма. Ці так даўно тое «дзяцішча» было сваім, айчынным, крэўным? І ці перастала — быць?.. Дык, можа, дзеля нагляднасці трэба падставіць гэтыя «пра» і «нэа», і тады адносіны да сталінізму, які спакваля адлучаецца ад дзяржавы, акрэсляцца? Як адносіны да любога рэваншызму. І можна будзе распазнаць, хто ёсць хто ў нашым доме і ў нашым жыцці.

Раскулачаны ды рэпрэсіраваны Роўба ўцёк з катаргі і блукае па лесе ля роднае вёскі. Гэта на яго — аблава. Аблава, якую ладзяць з сабакамі фашысты на Леўчука ў «Воўчай зграі», паўтараецца аблавай на Роўбу, якую ладзяць з сабакамі сяляне ягонае вёскі з дапамогай раённага кіраўніцтва, актыву і чырвонаармейцаў-пагранічнікаў. І Леўчука, і Роўбу заганяюць у балота. Фашысты абстралялі багну і сышлі. Леўчуку пашанцавала, і ён выбраўся на бераг. Роўбу — не пашанцавала. Не сышлі. Не выбраўся. «Шукалі яго доўга, паролі з берага і з куп'я». Нават, калі ён даўно ўжо захліпнуўся і рынуў у балотную бездань. Зліўся з прыродай.

Вядома, шанцунак тут ні пры чым. І адказу на пытанне «якая аблава лепш?» проста няма. Як не можа быць і самога пытання, «Загоншчыкаў»-фашыстаў Пісьменнік назваў воўчай зграяй, а Роўба сам — — «А божа ж мой, во дык **воўк!»** Гэткае пераўтварэнне дае багата матэрыялу для роздуму і параўнанняў (натуральны адбор, паляванне на вядзьмарак, гібель за ідэю і гібель ад ідэі), ад да таго, што ці не леўчукі тут — «загоншчыкі». Хоць гэта ўжо, магчыма, перабор.

У 15-м санеце ўсё **паўтараецца нечакана.** Новае спалучэнне **знаёмых** радкоў нясе тым больш **незнаёмы** і дзіўны сэнс. Тое самае — у «Аблаве».

*Пры гэтым* Пісьменнік зусім не інтрыгуе чытача, не робіць авансы, не строіць намёкі. Прыкладам, ён з ходу паведамляе пра смерць Волечкі, хоць гэтая смерць будзе роспачна апісаная пазней, у трэцім раздзеле. Дый сама назва — «Аблава» — быццам адразу раскрывае карты, «чым ўсё скончыцца»... Словам, Пісьменнік менш за ўсё настроены на штукарства. У яго іншы метад. І сам тэрмін «мастацтва» пасуе да ягонай «Аблавы» не больш, чым да кнігі цара Эклезіяста.

Але чым жа ён тады цікавы?

Расповяд у яго таксама непрэтэнзійны. Няма тут чыстай філасофскай фразеалогіі, канцэнтраванага сэнсу, афарызмаў і падобнага. Усё якраз вельмі роўнае, звычайнае і абыклае. Часам трапляюцца агульныя

# ПАМЯТАЦЬ, КАБ ЖЫЦЬ

Грамадскае сумленне сапраўднага пісьменніка ніколі не дрэмле. Тым больш актывізуецца яно ў час, калі вырашаюцца важнейшыя пытанні сучаснасці, ад зыходу якіх залежыць дзень заўтрашні. Ці не таму ў эпіцэнтры многіх сённяшніх падзей і знаходзіцца Васіль Быкаў, адзін з нямногіх, хто і ў застойныя гады не шукаў цёплага месца, не ішоў на кампраміс, не шукаў лёгкіх сцяжын ні для самога сябе, ні для сваіх герояў. Перафразіруючы вядомае выказванне Алеся Адамовіча, можна сказаць, што і цяпер В. Быкаў знаходзіцца на бестэрміновай перадавой. Толькі на гэты раз пралягае яна там, дзе вырашаецца сам лёс перабудовы.

Яна ж, перабудова, прымушае ў многім і думаць па-іншаму. Акрамя таго, з'яўляецца магчымасць на новым вітку асэнсаваць шмат якія працэсы мінулага, дагаварыць тое, пра што ў свой час было сказана мімаходзь. Ёсць патрэба новага, больш глыбокага і прынцыповага, — каб заўважыць тое, чаго тады мы, крытыкі, заўважыць не змаглі, — прачытання аповесці «Знак бяды».

Такая гаворка чакае нас. Цяпер жа вымагае развагі новая быкаўская аповесць «Аблава», змешчаная ў сёлетнім першым нумары часопіса «Полымя». Тым больш, што пасля знаёмства з ёй у крыху іншым, больш яркім святле паўстае многае з таго, што адбывалася з ужо знаёмымі нам Сцепанідай і Петраком.

**Пачатак «Аблавы» па-быкаўску лаканічны. Выяўленчыя сродкі выкарыстаны ашчадна, так, каб не адцягваць чытацкую ўвагу ад галоўнага: «Прырэчная лугавая *імшарына* з раскіданымі па ёй бухматымі купкамі лазняку ды грыўкамі зрудзелага бярэзніку дружна зелянела позняю восеньскай атавай. У доле скрозь было мокра, няўходна, мох часам асядаў пад нагамі, і тады з-пад яго цвіркала мутная жыжа. Але мох дужа не праваліваўся, дрыгвы тут не было. Гэта цяпер, увосень, імшарына набрыняла вадой і стала падобнаю на балота...» І на гэтым балоце чалавек, на нагах у якога «скураныя пасталы... даўно раскіслі ад балотнай вады, анучы наскрозь эмакрэлі».**

**Гэткі ж сціслы і партрэт чалавека: «Быў ён немаладога веку, даўгалыгі і шырокі ў плячах, але надта худы, з жылаватай выцягнутай шыяй. На даўно не голеным твары чырванеў даўгі прастуджаны нос, з-пад святлявых броваў насцярожана зыркалі шэрыя вочы. Рот яго быў трохі разяўлены — ад стомы ці залішняй увагі, і з-пад абвіслых вусоў вытыркаліся два ніжнія зубы, іншых спераду не было відаць...» Сціслы партрэт, ды вычарпальны, бо чалавека бачыш быццам увачавідні, гэтаксама адчуваеш, што ён «згаладнелы, бы воўк».**

Першае ўражанне ад сустрэчы з Хведарам Роўбам падмацуецца іншымі. Многае ў паводзінах, характары яго ўдакладніцца, ды толькі адчуванне нейкай яго ваўкаватасці, здзічэласці, боязі нават выпадковай сустрэчы з людзьмі застаюцца назаўсёды. І чым далей будзеш чытаць аповесць, тым больш будзеш пераконвацца, што перад табой — адчужаны, непрыкаяны чалавек, адшчапенец, сапраўды *«лішэнец»*. І што самае трагічнае — адшчапенец не па сваёй волі. Іншыя прымусілі Роўбу стаць такім. Свядома не ўжываю слова «людзі», бо хіба можна назваць людзьмі тых, хто пакаціў кола чалавечага лёсу туды, дзе і сам Макар цялятаў не пасвіў.

«Спарахнелая душа» Роўбы было звыклася і з нягодамі, і са знявагамі, аднак асабліва невыносна, пакутліва балюча стала яму пасля таго, як пахаваў спачатку жонку, а потым і любімую дачку Волечку. Захацелася, хоць вокам кінуць на любае котлішча — балазе, прыдбаў дакумент на чужое прозвішча.

«Ну во і дабрыў. Дапяўся. Бадай што праз тры месяцы неверагоднага шляху, пакут і цярпення» дайшоў да роднай вёскі. Нядолішча — назва-сімвал. Пацвярджэнне колішняй нястачы, няўсобіцы. Але ці толькі ўжо колішняй? Ці не засталося Нядолішча тым ранейшым Нядолішчам з-за таго, што людзей, падобных Хведару Роўбу назаўсёды адарвалі ад зямлі, разлучылі з ёй не па добрай волі? Уласна кажучы, пра гэта і ўся аповесць. «Аблава» дае адказ на многія з тых пытанняў, якія ва ўсёй сваёй вастрыні і значнасці паўстаюць сёння, калі мы бачым *«неперспектыўныя вёскі»*, калі нават — і такое надарэцца — не шмат і ахвочых браць зямлю ў арэнду, калі дзеці саромеюцца сваіх бацькоў-калгаснікаў, вяскоўцаў...

Пакутніцкая адысея Хведара Роўбы, не кажучы ўжо аб тым, *што перажыў ён пад* Котласам, — тым больш страшная, што яго цураюцца людзі, якім ён верыў. Няхай на спагаду не разлічваў, але ва ўсякім разе меў спадзяванні, што ў ім бачаць яшчэ чалавека. Аказваецца, не бачылі, не маглі бачыць, бо *шпіёнаманія* і варагаманія засціла ўсім вочы. Сапраўды, як слушна заўважае ў «Книжном обозрении» С. Мікаян, сын А. І. Мікаяна, «любы зварот да мінулага патрабуе гістарызму, г. зн. спробы зразумець сітуацыю канкрэтнага адрэзку часу, масавую псіхалогію тых гадоў і г. д.»

«Масавая псіхалогія» тых гадоў і паўстае са старонак аповесці. Задумваецца над пражытым і перажытым Хведар Роўба, шукае адказу на пытанні, на якія тагачаснае жыццё не магло даць станоўчага адказу. Пасля ўсяго, што пабачыў, зведаў, ён катэгарычны ў сваім маральным прысудзе: «...дабрыня, мусіць, там, дзе справядлівасць і праўда. А дзе класавая бязлітаснасць, жорсткасць вышэйшых да тых, хто ніжэй, якая ж там *дабрыня*! Мусіць, навек адышла дабрыня з мінулым часам, на змену ёй паявілася нешта новае — жорсткае і няшчаднае».

Здавалася б, адзінкавы лёс... Магчыма, Хведар Роўба з тых, каго ў жыцці лічаць няўдачнікамі: «Ашуквалі суседзі, радня, сяльчане. Заўжды ашуквала начальства — і тут, і ў высылцы. Ашуквалі таварышы па няшчасці»? Хоць нават у такім выпадку, вядома ж, ніякага апраўдання беззаконню быць не магло. Ды дзе там! Вельмі Роўба быў «нязручным» усім гэтым прыстасаванцам, хто імкнуўся да ўлады, як бы лепш сказаць, маючы празмерныя амбіцыі і не маючы на тое адпаведнай амуніцыі. Ён патрэбны быў тады, калі «казаў каторым нецярплівым: чакайце — не ўсё адразу. Савецкая ўлада, яна не пакрыўдзіць бедняка, яна галоўны свой клопат мае аб працоўным сялянстве». І як хацелі пазбавіцца ад яго, як ад той стрэмкі ў воку, калі бачылі, што не яны, гаваруны, дэмагогі, *прыстасаванцы*, працуюць, а Хведар Роўба, які быццам і далёкі ад палітыкі, але сваёй штодзённай працай сцвярджае праўду і правы працоўнага чалавека.

Хоча таго Роўба ці не, але, трапіўшы ў родныя мясціны, прыглядаецца, як працуюць у калгасе («яму ні дня не давялося рабіць у калгасе», не пусцілі туды). Параўнанне з асабістай гаспадаркай — не на карысць. І бульба ў разорах маленькая, і людзі працуюць, абы дзень адбыць, і коні нямоглыя — «некалі ў іхняй вёсцы такія былі хіба што ў самых занядбалых гаспадароў — Цыпруковага Зміцера ды Ігналёнка». А яго ж за працалюбства і саслалі. Спачатку мірыліся, што малатарню прыдбаў, ды потым разнарадка прыйшла на высяленне, вось і трапіў па спецразмеркаванню.

месцы («Распадаліся сем'і, нішчылася людская роднасць, спрадвечная вясковая крэўнасць»), нават штампы (душа абліваласся крывавымі слязьмі, палітыя потам гоні). Цягнецца-доўжыцца падрабязнае апісанне сялянскага побыту і прыроды. Кароўкі, зямелька, лісточкі, хвойкі... Гэткае мяккае, спагаднае сяйво літараў, словаў, сказаў...

А пад ім — абсалютна жорсткая структура бесчалавечнага сюжэта. Усё адно як філантроп распавядае пра тое, пра што належыць распавядаць мізантропу. Тая ж гібель **дачушкі Волечкі** (заўсёды толькі так, ані разу — дачкі, Вольгі ці Волі), калі яе перадаць **адпаведнымі** моўнымі сродкамі, можа здацца злобнай выдумкай аўтара. Але Пісьменнік перадае тое «процілеглымі» сродкамі.

У такім парадаксальным сутыкненні і праскоквае іскра праўды (а што можа быць цікавей за праўду?), узнікае эфект праўдзівасці. Прычым тут парадокс настолькі кантрасны, што з берагамі напаўняе эмоцыямі чытачоўскае газетнае веданне пра тое, што там гінулі і дзеці (дзеці «ворагаў народа»), а нават прымушае азірнуцца на ўласнае дзіця.

Дзякуючы роўнаму абыкламу выкладу, тэкст Пісьменніка не прыядаецца, а кантэкст паўтараецца зноў — нечакана. Вось жа падобным чынам распавядаў пра гібель свайго Валодзькі Грыбаед.

Парадаксальны «механізм» закладзены і спрацоўвае праз усю аповесць.

Хто такі Роўба? Знаёмы, тыповы вясковы дзядзечка, мужычок, са сваёй няхітрай цямнасцю, гаспадарлівасцю, самавітасцю. Няздатны да хлусні і подласці, бо занадта просты чалавек. Прыродны. Увесь наскрозь відзён. І гэтым выклікае замілаваную слёзку. Бо — бездапаможны перад досведам і практычнасцю, перад адукаванай хітрасцю і подласцю.

Некалі, паддаўшыся на заклікі ўладаў да культурнага гаспадарання, спраўны селянін Роўба набыў малатарню. А неўзабаве пачалося «абвастрэнне класавае барацьбы». І сусед-зайздроснік напісаў на Роўбу данос. За малатарню. З-за малатарні і пачаліся ўсе Роўбавыя пакуты — высылка, смерць блізкіх, атэстацыя на «кулацкую морду» і ўрэшце — уласная гібель. Малатарня — сімвал шматзначны. Гэта і ашуканства ўладаў, і пагроза бездухоўнага тэхнічнага прагрэсу, а галоўнае — сімвал рэваншу.

Без Роўбы ўвесь свет ідзе да заняпаду. Сеюць на ягонай зямлі, але без ягонага клопату. Сеюць, каб сеяць, для плана, дзеля высокай ідэі сее палітызаваны сейбіт. «Здаецца, і неблагая рунь. Толькі на тым канцы каля сажалкі зачарнелася ад вільгаці, там заўжды ўсё пасеянае вымакала. Некалі ён стараўся там саджаць бульбу, два разы сеяў каноплі. Збажына ж каля сажалкі не радзіла. Але гэтыя цяпер, мусіць, не ведаюць. Засеялі ўвесь прасцяг жытам, думаюць, будзе расці...» Бульбу выбіраюць дрэнна. І коні ў іх «ледзьве клыпаюць адператомы». І бабы колісь рабілі весялей. І брыгадзірам у іх — Зміцер Цыпрукоў — самы няўклюдны ў вёсцы гаспадар...

**Я — калгасніца**
**Маладая,**
**Жыву весела,**
**Ані дбаю.**

Бадай, гэтак і падаў цэнз новае ўлады: улада народа — улада бядняцкая — улада няўклюдаў, што прагнуць рэваншу ў дбайных, у каго **нешта ёсць,** без розніцы — адкуль.

Умовы рэваншызму шмат якіх герояў Пісьменніка загналі ў кут, давялі да самазабойства. Яшчэ зусім нядаўна забіў сябе Сушчэня, забіла сябе Сцепаніда, яшчэ раней — Сотнікаў. Што тычыцца Сотнікава, дык яго можна «перачытваць» па-рознаму. Не выключана і такое прачытанне: ці ж гэта не паводзіны самазабойцы, у якога адчай ужо асуджанага блытаецца з прагай адпомсціць катам уласнай смерцю? Такое прачытанне, дарэчы, падказвае Роўба, які стаіўся ў багне:

«Не, ужо не вылезу!» — з панылай злосцю сказаў ён сабе ў думках...»

Але ж калі ў рэтраспекцыі твораў Пісьменніка чым далей, тым выразней безвыходнасць перарастае ў пытанне выбару, дык становішча Роўбы — гэта апафеоз безвыходнасці («Усё роўна вылезці адсюль ён не мог»). Аўтар (услед за ладам) забраў у героя права на выбар. Смерць уяўляецца Роўбу шчасцем («О, памерці тут, знайсці вечны прыстанак у родным кутку было б найвялікшым шчасцем, пра якое ён не адважваўся і марыць...»), але і ўласная смерць ад яго не залежыць. Ён быццам і ішоў сюды тры месяцы, толькі дзеля таго, каб памерці. Прыйшоў. «Але што рабіць, пакуль ён жывы, куды падацца?»

І ён, як здань — худы, у ашмоцці, зарослы і страшны, — начамі соўгаецца па лесе, па могілках, праходзіць вуліцай з канца ў канец вёскі, — туліцца да родных мясцінаў. У вачах аднавяскоўцаў ён — вярτанец з таго свету, прывід. І гэтае азначэнне, відаць, бліжэй, больш зразумелае людзям, чым «вораг народа».

Такія паводзіны Роўбы і такое ўяўленне пра яго лучаць «Аблаву» з народным паданнем, скажам, пра ваўкалака. Невытлумачальнае, нялюдскае адбылося (раскулачванне) і чалавек, вясковец, абярнуўся ваўком. Наводзіў начамі страх на ўсю вёску. А потым мужчыны талакою пайшлі ў лес, каб злавіць яго ці забіць. Ваўкалака не знайшлі, але і ў вёсцы ён болей не з'яўляўся... Ну, і зразумела, да гэтага ўсяго бабуля-апавядальніца дадасць вам цэлую гісторыю чалавека-ваўкалака ва ўсіх падрабязнасцях...

**Узбрыўшы на пустку,**
**воўк завыў,**
**Пуціну заяц перамераў,**
**А быў тут хто, або не быў, —**
**І так, і гэтак мала веры.**
**І так, і гэтак свой прымус**
**Распрасцірае царства ночы,**
**Салодкі сон, магільны сон**
**Смяецца свету ўсяму ў вочы.**

Заняпад працягваецца. Новыя пакаленні пайшлі не ад Роўбы, а ад «загоншчыкаў». Ад запалоханых, ад няўклюдных. Дагэтуль ніхто не адважыцца зноў *набыць малатарню*...

І цяпер, калі я прыйшоў да гэтае безвыходнасці, да гэтае сцяны і стаю перад ёю, я ўжо не чую марудлівага голасу павадыра, не бачу ягонае спіны. Ён павярнуўся да мяне тварам і моўчкі глядзіць мне ў вочы. Маўляў, што тут яшчэ скажаш! Усё зразумела. Вось перад табой — рыса, падведзеная 15-ым санетам. Далей — нешта зусім іншае, новы вянок, зусім непадобныя да гэтых творы.

**Сяргей ДУБАВЕЦ.**

---

**Паказальная гаворка, якая адбываецца ў Роўбы з выпадковым стрэчным, калгаснікам з суседняй вёскі:**

**«— Ну а як жа ў калгасе? Ці багата?**

**— Багата! — сказаў адразу стары. — З вялікадня да Іллі траўку елі. З Іллі пачалі патроху бульбачку капаць. Ды што — на Іллю, якая там бульбачка! Арэхі...**

**— Во як?**

**— Ну. А што ж ты не ведаеш? Ці ў вас там не было голаду? — стары ўтаропіўся ў яго дакорлівым позіркам.**

**— Ды як вам сказаць? Было...**

**— Ну. Аднаго і паратунку, што кароўка. Малачко! Ды і тое здаць трэба. Дзвесця літраў. І мяса, і яйкі. І воўну. Зімой асмалілі падсвінка, дык штрафу далі пяцьдзесят рублёў.**

**— За падсвінка?**

**— Аняго ж. За скуру. Скуру ж трэба здаваць. А ў вас хіба не такія парадкі?»**

**Думае стары, што Роўба з суседняй вёскі. Каб жа ведаў пра яго пакуты, яшчэ б больш здзівіўся. А да ўсяго — Хведар жа Роўба — бацька таго самага «парцейнага сакратара», якога стары інакш, як цівуном і не называе.**

Не бывае ў жыцці простых чалавечых лёсаў. Але каб так перацерліся, паламаліся яны, як у тыя дваццатыя-трыццатыя гады! Апантаныя сваёй ураРэвалюцыйнай ідэяй, ачмураныя ўладай, тыя, хто «раней быў нічым», гатовы ўсё нішчыць, трушчыць на сваім шляху. Задумваецца В. Быкаў. Задумваемся і мы, чытачы, шукаючы адказу на пытанне — калі ж і з чаго ў чалавеку пачынаецца звер. Няўжо заўсёды дрэмле ён у ім, толькі чакаючы зручнага моманту, каб паказаць свой выскал?

Ці не з такіх, як Іван Сокур (гэты, праўда, заўчасна памёр) нараджаліся потым курапацкія каты?! Нікога пакуль што не забіваў? Дык хутка мог бы засвоіць і такія ўрокі — балазе, настаўнікаў поруч хапала. Ды і сам Іван Сокур — «быў занадта падаткі для свае пасады» — праяўляў дзе патрэбна ініцыятыву. «Тады ж, як высылалі Роўбу, ён быў наглядчыкам і рупным памагатым двух упаўнаважаных з раёна, каб раскулачаныя, як было загадана, узялі з сабой толькі пілу, тапор ды харчоў на тры дні». Знімаць жа «зграбныя чорныя валёначкі» ў Волечкі нават «у інструкцыю» не ўваходзіла. Але ж Сокур зняў, быў упэўнены, што такія старанні з боку вышэйшага начальства незаўважанымі не застануцца.

І ўсё ж, ці не самы страшны ў сваім маральным падзенні Роўбаў сын Міколка, гэткі Паўлік Марозаў, толькі, так сказаць, у сваім мясцовым варыянце. Міколка падказаў бацьку купіць малатарню, з-за якой Хведара неўзабаве і раскулачылі. Вядома ж, нічога благога тады сын да бацькі не меў. Гатоў быў Хведар дараваць яму і тое, што адмовіўся ад высланага бацькі. Але каб памяняць прозвішча? Ды і яшчэ стаць для людзей «цівуном»?!

**У гэтыя пакутлівыя дні і ночы, калі, дабраўшыся да роднай вёскі, Роўба адчуў сябе адзінокім і нікому непатрэбным, задумваецца ён, як жа сталася, што сын ператварыўся ў нелюдзя. Па ўсім відаць, пачалося тады, калі Міколка вельмі ж ужо прасталінейна, ледзь не ў лоб пачаў успрымаць усе падзеі, што адбываліся наўкола. Яго душа, спакутаваная па дабру і справядлівасці, прагнула самасцвярджэння, яму хацелася актыўнага дзеяння і самавыяўлення. Каб жа хто тады ўзяў ды дапамог Міколку Роўбу на пачатку яго жыццёвага шляху. Дзе там! Вакол Міколкі Роўбы знаходзіліся, як правіла, гэткія ж самыя апантаныя ідэяй сусветнай рэвалюцыі, хто, як быццам дбаючы пра шчасце для ўсяго чалавецтва, зусім не думаў пра шчасце канкрэтнага чалавека.**

**Пра маральную эвалюцыю Міколы Роўбы ў аповесці гаворыцца не шмат. Як ён станавіўся такім, якім стаў, можна толькі здагадвацца. У адным сумнення няма: падобныя безадказныя выканаўцы механізма гвалту на пэўным этапе былі вельмі патрэбнымі. З цягам часу, вядома, яны самі траплялі ў машыну знішчэння, набраўшы абароты, яна ўжо не магла працаваць на халастым ходу. Пакуль што Роўбы-малодшыя неабходны былі, каб знішчыць ворагаў «унутраных» і «знешніх». Дзе тут задумвацца, хто правы, а хто не, калі ёсць улада, якой можна карыстацца бязмежна! Ды і вагацца небяспечна. Знойдзецца ж абавязкова яшчэ больш апантаны ў сваіх дзеяннях і тады ён падвядзе цябе «пад закон». Прысуд жа хуткі...**

Апошні раздзел аповесці, названы гэтаксама, як і ўвесь твор, — «Аблава». Адбываецца сапраўдная аблава на чалавека, у якім бачаць звера. Уцякаючы, Хведар Роўба пазнае ў сваіх праследавальніках і таго самага Шурку, «якога некалі выключылі з камсамола», і сваіх колішніх суседзяў Міхася Майстронка і Лёксу Саўчыка. Сярод іх і Зміцер Цыпрукоў — «самы няўклюдны гаспадар, у якога некалі здохла кабыла ад бяскорміцы, бо з'ела страху за зіму і не хапіла. Той Зміцер, які за жыццё не навучыўся плясці лапцей (заўжды пляла яму жонка), цяпер гэты недалэга робіць брыгадзірам»... Мала таго, «на бальшаку стаялі машыны — тры грузавыя палутаркі, і ад іх у напрамку да лесу ішла грамада людзей — чалавек трыццаць ці больш». А яшчэ пагранічнікі...

Загнаны да знямогі, бачачы, што выратавання няма і не можа быць, гэтаксама, як няма і не можа быць спагады, Хведар Роўба кіруецца туды, дзе бачыць адзінае выйсце — да балота, да багны. Там усчынялася Багавізна, самае гіблае месца ў тутэйшых мясцінах. Пісьменніку ўдалося надзвычай выразна паказаць свайго героя ў такі момант, калі неабходна зрабіць апошні крок. Роўба ніколі і нікому не хацеў зла. Не хоча ён яго і цяпер: «Людцы, завошта вы так? — гучала ў ім нутраным роспачным шэптам. — Што я зрабіў кепскае вам? Што малатарню?.. Дык тады ж дзякавалі па шчырасці, здаецца. Ці ж я хацеў каму кепскага? Ці сабе многа ўзяў? Я ж аддаў усё вам — бярыце. Толькі завошта ж мяне так люта? Людцы, адумайцеся!..»

Людцы... Пра ўсіх іх ён пакуль што па-ранейшаму думае, як пра людзей. Нават тады, калі пазнае сярод гэтых нелюдзяў сына. Пазнае, і пасвойму, па-бацькоўску апраўдвае: «Бедны Міколка!.. І яму во лезці сюды! Мусіць, аднак, не ад салодкай жызні».

Само паняцце жорсткасці ў дачыненні да лёсу Хведара Роўбы набывае амаль неверагодны сэнс. Узыходжанне да такой праўды пакутлівае, балючае і разам з тым такое неабходнае. Патрэбнае хоць бы для таго, каб мы, апантаныя гарачым жаданнем зрабіць усё магчымае дзеля ўвекавечання памяці ахвяр сталінізму, ніколі не забывалі, што сярод іх, мільёнаў знішчаных, большасць было простых сялян, падобных на Хведара Роўбу. Пакуль што ў друку, у мастацкіх творах часцей прыгадваюцца імёны вядомых вучоных, пісьменнікаў, партыйных і савецкіх дзеячаў, знішчаных па загаду Сталіна і яго памагатых. Пра гэтыя нявінныя ахвяры, вядома ж, неабходна памятаць.

Ды толькі хто назаве паіменна Хведараў Роўбаў, пахаваных у вялікіх і малых Курапатах, пагнаных па этапу, высланых на спецпасяленні?! Хто верне аб іх памяць?. Васіль Быкаў, як гэта было ўжо неаднойчы, робіць гэта першым. Расказваючы пра канкрэтны чалавечы лёс, ён адначасова піша з думкай пра мільёны падобных чалавечых лёсаў, стварае пранікнёны рэквіем па іх.

**Запынім яшчэ раз увагу на апошніх эпізодах твора. Перачытаем іх, як бы то балюча не было: «Хведар інстынктыўна хлябнуў болей паветра — на астатні раз — і выпусціў з рук вузлаваты корань. Цяжкія ногі ў нязносных сырамятных пасталах адразу памкнулі яго ў глыб багны, ён захліпнуўся. Знутры балюча ўдарыла ў вушы, і ўсё пагасла ў вачах. Не дадзена было ціха жыць, дык хоць пашчасціла ціха памерці.**

**Шукалі яго доўга, паролі з берага і з куп'я. Ды так і не знайшлі.**

**Багна спрадвеку ўмела хаваць свае таямніцы».**

**Шукалі ж, вядома, не дзеля таго, каб пахаваць. Нават мёртвы Хведар Роўба патрэбен быў. Так сказаць, дзеля «вещественного доказательства». Маўляў, злачынца пакараны. На гэтым і справу можна спыніць.**

Памятаць пра ўсё гэта трэба, каб жыць.

*У гэтым напамінку ці не галоўная думка новай аповесці Васіля Быкава.*

**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**

---

## Кнігапіс




А. КАЗЛОВІЧ. Чырвоны востраў. На рускай мове. М., «Советский писатель», 1988.

**Чытач пазнаёміцца з нарысамі «Вялікае перасяленне ў Борску», «Чырвонабай», «Сюжэт з каравай» і іншымі. Аўтар закранае вострыя праблемы паўсядзённага жыцця, заглыбляючыся ў сутнасць складаных з'яў.**




М. ДУКСА. Бяссонніца старых сосен. Вершы. Пераклад з беларускай. М., «Советский писатель», 1988.

**Лепшыя вершы Мар'яна Дуксы, якія дазваляюць атрымаць уяўленне аб творчасці паэта, пераклаў Сяргей Красікаў. У іх гучыць любоў да родных мясцін, раскрываецца свет пачуццяў нашага сучасніка, звяртаецца аўтар і да падзей мінулай вайны.**




А. ГРАЧАНІКАЎ. Зорны палёт. Вершы, казкі, легенды. Для дзяцей дашкольнага і малодшага школьнага ўзросту. Мінск, «Юнацтва», 1988.

**Дасціпна, займальна піша для маленькіх А. Грачанікаў. Творы, якія ўвайшлі ў яго чарговую кніжку, раскрываюць шматфарбны свет маленства. У асобны раздзел увайшлі казкі, легенды «Чорны замак», «Жывая вада», «Казка пра Іванаганчара і пачвару-цара», у аснову якіх пакладзены як фальклорныя, так і аўтарскія сюжэты.**




В. ГРЫБКОЎСКІ, В. ГАПОНЕНКА, У. КІСЯЛЁЎ. Прафесар электраграфіі і магнетызму. Мінск, «Навука і тэхніка», 1988.

**Міжвыдавецкую серыю «Нашы славутыя землякі» выдавецтва «Навука і тэхніка» распачало нарысам пра вядомага вучонага Якуба Наркевіча-Ёдку, які ўвайшоў у гісторыю важнымі даследаваннямі ўплыву электрычнасці на расліны, ставіў шэраг вопытаў па прыёму і перадачы электрычных сігналаў без правадоў. Расказваючы пра Я. Наркевіча-Ёдку, аўтары падрабязна прасочваюць яго шлях у навуку.**

Васіль ШЫРКО

# Другая сустрэча



Апавяданне

З'ЯВІЎСЯ маршал нечакана. Не ўпільнавалі, не ўгледзелі. Нават вартавы не заўважыў, з якога боку пад'ехала чорная «Чайка». Скрыпнулі тармазы, ад'ютант адчыніў дзверцы, і з машыны вылез худы дзядок з маршальскімі пагонамі.

Да яго сустрэчы рыхтаваліся з тыдзень. Салдаты падмяталі пляц, наводзілі ўсюды глянец. Як загнаныя, бегалі то аддаючы, то адмяняючы свае і чужыя распараджэнні прапаршчыкі, маёры і нават палкоўнікі.

Зайкоў даўно хадзіў у арміі на другіх ролях, курыраваў грамадзянскую абарону, выязджаў з інспекцыйнымі праверкамі. На змену яго пакаленню прыйшлі маладзейшыя. Яны камандавалі акругамі, распрацоўвалі тактыку і стратэгію, праводзілі вучэнні. Але куды б ні прыязджаў маршал, яго пераганяла слава. Яна, лёгкакрылая, неслася хутчэй за машыны, цягнікі і самалёты. Яна не старэла. І не цямнелі, а ззялі ярчэй і ярчэй Зоркі Героя, адлівалі золатам і срэбрам ордэны і медалі на грудзях у героя.

На крылах славы ляцеў будучы маршал у грамадзянскую пад Віцебскам, а за ім дзесяць тысяч чырвонаармейцаў у абмотках і лапцях, з шашкамі нагала. Пад Сталінградам, у Вялікую Айчынную, ён, ужо генерал, дазволіў працаўніку рыць акопы побач з нашымі, не перашкаджаць, і нямецкія лётчыкі ўжо так, як раней, не бамбілі, — можна і сваіх накрыць. Тысячы жыццяў выратавала новая тактыка.

Маршал распарадзіўся даставіць былых сталінградцаў у акругу, і пакуль ён гутарыў з камандуючым, былым сваім вучнем, які хоць і не хапаў з неба зорак, дзякуючы жорсткасці, а, галоўнае, далёкаму сваяцтву з самім міністрам абароны, хутка зрабіў кар'еру ад палкоўніка да генерала арміі, у штаб з'язджаліся пажылыя афіцэры і прапаршчыкі. Яны былі ў парадная форме, пры ўсіх узнагародах. Вартавы ледзь паспяваў аддаваць чэсць.

Сталінградцаў пастроілі на пляцы. Нягледзячы на калючы асенні вецер ветэраны стаялі без шынялёў, у параднай форме. На грудзях гарэлі ордэны і медалі, а ў аднаго прапаршчыка і двух старшых афіцэраў, маёра і палкоўніка, зоркі Герояў Савецкага Саюза. Твары ў людзей былі ўзрушаныя: чакалі чалавека, палкаводца, па ўзмаху рукі якога яны ішлі на смерць, падстаўляючы грудзі пад асколкі і кулі. Ці выпадзе яшчэ калі-небудзь такая сустрэча: не малады ўжо маршал, ды і яны ўсе трымаюцца ў арміі з астатніх сіл.

Іграў духавы аркестр. Дырыжор быццам саграваў сябе ўзмахам палачкі, нервова кідаючы позіркі па баках: відаць, не папярэдзілі, адкуль павінен з'явіцца маршал, і музыка баяўся абмішурыцца.

А той, каго так чакалі, ужо ішоў у суправаджэнні камандуючага і начальніка штаба. Ішоў шырока ступаючы, размашыста і спорна, генералы ледзь паспявалі за ім.

На ўсю моц грымнуў аркестр. Ветэраны выцягнуліся ў струнку. Маршал, падыходзячы да строю, сцішыў крок, *пасля прыпыніўся, паднёс руку да фуражкі* з дубовымі лістамі. Аркестр адразу ж заціх.

— Здраствуйце, сталінградцы! — весела, па-маладому, выгукнуў Зайкоў.

— Здравія жадаем, таварыш Маршал Савецкага Саюза!..

Зайкоў ступіў яшчэ некалькі крокаў, углядваючыся ў твары, загаварыў:

— Мілыя мае пабрацімы, таварышы па зброі! Каб вы ведалі, як я рады вас бачыць, чуць, як хочацца шмат вам сказаць... Ці давядзецца калі яшчэ сустрэцца? Можа, я не заўсёды быў справядлівым камандзірам, можа, каго незаслужана пакрыўдзіў... Даруйце, я хацеў як лепш... хацеў як лепш...

Маршал адвярнуўся, выцер рукавом вочы, і нетаропка пайшоў уздоўж строю. Памяць, нягледзячы на гады, у яго была выдатная. Ён пазнаваў усіх, з кім сустракаўся хоць раз ці два.

— Помню! — гаварыў Зайкоў, абшчаперыўшы заплаканага прапаршчыка.— Не думаў, што ты жывы, а вунь які малайчына, амаль не змяніўся,— хоць ссівеламу, маршчыністаму прапаршчыку можна было даць на выгляд не менш, чым самому маршалу. Ён даўно ўжо не служыў, яго прывезлі на сустрэчу, як ветэрана, якога Зайкоў ведаў асабіста. Хворага старога паднялі з пасцелі, пераапранулі ў часці.

*— Кубар, мілы Кубар... Як служыць Кубар? —* павярнуўся Зайкоў да камандуючага. Той, вядома, не ведаў, бачыў Кубара ўпершыню. Хіба мала ў часцях прапаршчыкаў? Але ж так не скажаш маршалу, ён чакае другога адказу.

— Выдатна служыць, таварыш маршал! — адказаў генерал.

Каля палкоўніка з зоркай Героя маршал прыпыніўся. Ён як забыў, што стаіць перад строем, доўга маршчыніў лоб, стараючыся ўспомніць, ці сустракаўся раней з афіцэрам. Быццам і твар знаёмы, несумненна, бачыліся, але дзе, калі? Як ні стараўся маршал, згадаць не мог, хоць раней на памяць не скардзіўся. Добры настрой зняло як рукою. Незадаволены і сабой, і генераламі, што, выцягнуўшы шыі, стаялі за спіною, і гэтым спакойным афіцэрам-героем, рэзка спытаў:

— Ваша прозвішча, палкоўнік?

— Кучук, таварыш маршал!

І голас, і прозвішча незнаёмыя, але чаму ён не можа адысці ад палкоўніка, ці проста, як усім ветэранам, паціснуць руку?.. Чаму? Ад уласнай бездапаможнасці, ад таго, што так доўга затрымаўся каля афіцэра, ад таго, што не можа пайсці далей, не даведаўшыся, ці бачыліся яны, Зайкоў пацямнеў тварам і глуха спытаў:

— Дзе мы сустракаліся?

Палкоўнік маўчаў, ці то вытрымліваючы паўзу, ці то не жадаючы адказваць, яго славянскі твар з высокім ілбом, густымі рудымі бровамі, з чорненькімі вусікамі пад прамым носам і патрэсканымі ад ветру вуснамі быў па-ранейшаму надзіва спакойны, а шэрыя, выліналыя вочы, як здалося маршалу, глядзелі насмешліва.

— Вы што, язык праглынулі? — павысіў голас Зайкоў.

— Успомніце хатку без вокан і дзвярэй пад Сталінградам, таварыш маршал! — рэзка, як стрэліў, адказаў афіцэр.

— Без вокан, без дзвярэй... — паўтарыў маршал, і ягоны твар пабіўся чырванню. Зайкоў неяк раптам згорбіўся, ступіў насустрач афіцэру, быццам хацеў нешта сказаць аднаму яму, каб іншыя не пачулі, пасля раздумаў, крутнуўся на месцы і, не даходзячы да канца строю, не развітаўшыся з людзьмі, ледзь не подбегам пашыбаваў да прахадной. Разгублены дырыжор махнуў палачкай, і аркестр запознена зайграў марш, якога Зайкоў ужо не чуў.

— Адставіць фанфары! — крыкнуў нехта з афіцэраў-ветэранаў, разумеючы ўсю недарэчнасць музыкі, і ўжо цішэй дадаў: — Прымусь дурня маліцца...

Прыбег дзяжурны афіцэр, перадаў загад камандуючага разыходзіцца. Пакрыўджаныя ветэраны, нічога не разумеючы, павалілі на прахадную. На душы заставаўся горкі асадак ад сустрэчы з маршалам. Было непрыемна за чалавека, якога паважалі, любілі, многія нават называлі сябе зайкоўцамі. І дзеці, і ўнукі дома будуць распытваць пра маршала, а што ім скажаш, чым апраўдаеш нечаканы выбрык палкаводца.

Некалькі афіцэраў абступілі Кучука. Карцела даведацца пра сталінградскую хатку, але маўклівы ад прыроды Васіль Андрэевіч не спяшаўся расказваць...

# Між былым і наступным

(Пачатак на стар. 5).

□

**МНОГІЯ БЕЛАРУСЫ лічаць і па-наіўнасці вераць, што, выракшыся роднае мовы, яны дасягнулі выйгрышу ў сваім культурным развіцці. Гэта сумнае заблуджэнне. Некаторыя з іх пішуць у адрас беларускіх пісьменнікаў сярдзітыя, нават абразлівыя пісьмы, упэўнена кваліфікуючы апошніх як нацыяналістаў. Гэта вялікая наша бяда, гэта сведчыць аб тым, як глыбока пусціў у нас карані нацыянальны нігілізм. І нічога нам не застаецца, як тлумачыць гэтым сучасным людзям, што яны памыляюцца. Пераконваць шчырым словам, як важна чалавеку ведаць сваю родную мову. Толькі праз родную мову ён зможа па-сапраўднаму далучыцца да душы свайго народа, да яе невычэрпных скарбаў, і нават пранікнуць у глыбіні падсвядомага, аж да пластоў духоўнай падглебы, паколькі ў мове — уся гісторыя духоўнага развіцця чалавека.**

□

ЗВЫЧАЙНА пра сучасны, сённяшні стан нашай мовы гавораць: адмірае, памірае, адыходзіць... Гэта няправільна. Яна ж не сама сабой адмірае або адыходзіць. Значыць больш дакладна будзе гаварыць: мову знішчаюць, забіваюць, губяць людзі. Мы яе вынішчаем і губім. Па-першае, губім тым, што выракаемся яе, цураемся, перастаём карыстацца ёю ў штодзённым ужытку, ад чаго яна траціць здольнасць развівацца, занепадае, хірэе. Па-другое, мы знішчаем яе разам са знішчэннем роднай прыроды, калечым і нявечым яе разам з калечаннем і нявечаннем зямлі-матухны і ўсяго таго, што нашу зямлю спакон вякоў аздабляла, упрыгожвала. Пра гэта «другое» мы, на жаль, гаворым мала. А між тым...

Тое, што наша прырода, наша зямля з кожным днём усё больш нявечыцца і нішчыцца— ужо даўно стала фактам агульнапрызнаным. Дык вось: забойцы прыроды — яны ж ёсць і забойцы мовы. Гвалтаўнікі і рабаўнікі-апусташальнікі зямлі — яны ж ёсць і гвалтаўнікі-апусташальнікі мовы. Тысячы, тысячы і тысячы слоў — мясцовых назваў урочышчаў, пагоркаў і лагчын, гаёў і пералескаў, азярын і балотцаў, крынічак і рэчачак — або ўжо зусім зніклі, беззваротна страчаны намі, або будуць страчаны заўтра, — калі не апомнімся і не спахопімся. Зніклі і знікаюць разам з самімі гаямі, азярцамі, крынічкамі і ўсім іншым, што стала ахвярай сучаснага гаспадарання. Гэтак жа сама вынішчаны або канчаткова вынішчаюцца сотні відаў траў, зёлак і красак, а разам з імі— іх народныя, мясцовыя назвы, — такія каларытныя, вобразныя, вымоўныя. Дададзім сюды тысячы назваў вымерлых— «неперспектыўных» — вёсак і вёсачак. Прыплюсуем сюды ж тысячы назваў прадметаў і прылад працы з розных — цалкам занядбаных сёння — галін гаспадаркі, з адмёрлых рамёстваў і забытых відаў народнага прыкладнога мастацтва. У выніку гэтага магутнага наступу навукова-тэхнічнага прагрэсу на зямлю і прыроду, сучаснай цывілізацыі — на чалавека і яго традыцыйны нацыянальны быт, — наша жывая мова страціла безліч слоў. Слоў, створаных па ўнутраных законах развіцця мовы, слоў, якія неслі колер і водар самой беларускай зямлі, беларускай прыроды. Мову пачалі адрываць ад зямлі, на якой яна ўзнікла, складвалася, набіралася моцы і сілы, а зямлю — пазбаўляць мовы, рабіць бязмоўнай і безыменнай. І не бачна канца гэтаму варварскаму разрыву непарыўнага — разрыву адвечнага адзінства зямлі і мовы. Але ў мове не толькі аблічча, фарбы і гукі зямлі, прыроды, у мове — гісторыя і лёс зямлі, філасофія і мараль народа, працоўнага чалавека. І гэта ўсё таксама разам з мовай нявечыцца і забіваецца!

Так наступае ўсеагульнае збядненне і апусташэнне душы чалавечай. Але ці пра душу на нашай вуліцы клопат?

□

**НОВАЕ ТЭАРЭТЫЧНАЕ абсанаванне нацыянальнага нігілізму: нашто сёння, калі свет вісіць на валаску, трымацца за родную мову? Маўляў, перад тварам пагрозы ўсеагульнага самазнішчэння — ці не ўсё роўна, якая ў тваіх вуснах мова? Не, не ўсё роўна, таварышы тэарэтыкі! Не для пагібелі-смерці, а для захавання міру і жыцця не ўсё роўна! Чым мацней я люблю сваю зямлю, вось гэту, на якой стаю, — тым даражэй мне жыццё і тым больш самаадданa я буду змагацца за мір! Любоў да роднай зямлі, а значыць і да яе культуры, да роднай мовы — гэта магутная сіла, яна прыдае сэнс майму чалавечаму існаванню, яна — крыніца радасці маёй найглыбокай, і менавіта з ёю ў сэрцы я чуюся змагаром за мір, за жыццё, за шчаслівую будучыню новых пакаленняў. Калі ж здарыцца самае страшнае і непапраўнае — то і тады я хачу памерці сынам сваёй зямлі. Мне не ўсё роўна, кім я памру. Бо калі мне будзе ўсё роўна, кім памру, калі я настроюся менавіта на гэткі лад, тады мне стане — абавязкова стане! — усё роўна, кім я жыву, гэта значыць — кім я чуюся жывы. Мне стане ўсё роўна і тое, што адбываецца з нашай культурай і што чакае маю родную мову.**

**Але не будзем думаць, што пагібель чалавецтва — непазбежная. Будзем верыць у наша выратаванне, у перамогу розуму. Верыць і — колькі змогі — супрацьстаяць злачыннай бяздумнасці ядзерных маньякаў. І што ж — хіба любоў да роднай мовы можа перашкодзіць мне ці любому іншаму беларусу самаахвярна змагацца супраць вайны? Руская мова рускім пісьменнікам не перашкаджае рабіць гэта, французская — французскім — таксама, а беларуская беларускім — перашкаджае? У сапраўднасці — усё наадварот: дапамагае! І дзіўна, што некаторыя адукаваныя таварышы гэтага не хочуць зразумець.**

□

У АДКАЗ на пісьмо-скаргу групы беларускіх пісьменнікаў, вучоных і дзеячаў культуры прыязджала «высокая камісія». Правярала, у якім стане знаходзіцца ў Беларусі беларуская школа. Правярала, канечне ж, па плану, прапанаванаму апекунамі школьнай асветы ў рэспубліцы. Але ж і пусціў пылу ў вочы «камісіянерам»! Зрэшты, інакш і быць не магло: мы нічога лепш, больш паспяхова і бліскуча не ўмеем рабіць, як пускаць пыл у вочы. Знайшлі ў глыбінцы, за трыста кіламетраў ад Мінска, сапраўды беларускую школу (не толькі па назве беларускую) — і завезлі туды шаноўную камісію. Маўляў, пераканайцеся самі! Ну, а што ў цэлым па рэспубліцы беларуская нацыянальная школа на здыханні — гэтага камісія так і не заўважыла. А тым часове будзе вышэй дакладваць пра выніткі праверкі, і на аснове іх дакладу будзе прымацца рашэнне...

Так рабілася на працягу дзесяцігоддзяў, так прадаўжаюць рабіць і сёння — пад сцягам перабудовы. Галоўнае — каб камісія паехала з добрымі ўражаннямі. Ну, а баламутам-пісакам мы наківаем пальцам: вы адступаеце ад ленінскай нацыянальнай палітыкі, шаноўныя! Пытанне, аднак, у тым, хто ў сапраўднасці ад Леніна

# МУЗЫКА — гэта повязь праблем...

**З намеснікам міністра культуры БССР Уладзімірам РЫЛАТКАМ гутарыць карэспандэнт «ЛіМа»**

**— Цяжка сабе такое ўявіць, але дапусцім: чалавек не ходзіць на выстаўкі і ў кіно, не цікавіцца кнігамі пра мастацтва, не ўключае тэлевізар... А вось ад музыкі ён не схаваецца. Яна праб'ецца нават праз глухое акно — з вуліцы, праз цагляную сцяну — з суседавай кватэры. Музыка ёсць заўжды і паўсюль, і таму размова пра яе не можа не быць надзённай. Аднак нагода для сённяшняй размовы асаблівая. Мінула тры гады, як ЦК КПСС і Савет Міністраў СССР прынялі пастанову аб паляпшэнні канцэртнай дзейнасці ў краіне і ўмацаванні матэрыяльна-тэхнічнай базы канцэртных арганізацый. За гэты час многае зрушылася ў музычным жыцці рэспублікі. Пра найбольш важныя падзеі, навіны «ЛіМ», вядома, паведамляе. І ўсё-такі, Уладзімір Пятровіч, якія, на ваш погляд, прынцыповыя змены і перспектывы пазначыліся ў канцэртнай справе?**

— Перш за ўсё трэба падкрэсліць, што на працэс перабудовы ў канцэртным жыцці Беларусі ўсе гэтыя гады звярталася асаблівая ўвага зацікаўленай грамадскасці, дзяржаўных і партыйных органаў. Вось і цяпер абмяркоўваецца новая прававая і эканамічная аснова развіцця канцэртнай справы. А ЦК КПБ прынята пастанова, якая дае агульнапалітычны кірунак наконт усяго комплексу праблем музычна-эстэтычнага выхавання. Гэта значыць, што ўзровень развіцця музычнага мастацтва, узровень усеагульнай эстэтычнай дасведчанасці набываюць значэнне палітычнае. Бо сёння робіцца як ніколі раней відавочнаю важнасць, неацэннасць музычнага мастацтва ва ўздыме эстэтычнага ўзроўню насельніцтва, у выхаванні паўнацэннай асобы чалавека.

**— Уладзімір Пятровіч, перабудова гаспадарчага механізма ў канцэртным жыцці ідзе нягладка...**

— Так. І справа не ў тым, што напамінаюць пра сябе праблемы, звязаныя з нездавальняючым узроўнем матэрыяльнай базы канцэртнай дзейнасці. Востра акрэсліўся цэлы комплекс праблем. Тут я вылучыў бы тры вузлавыя моманты: адставанне эстэтычнага развіцця насельніцтва, асабліва маладога пакалення; адставанне матэрыяльных магчымасцяў ад духоўных запатрабаванняў насельніцтва. І, нарэшце, — адмежаванне духоўнай вытворчасці ад рэальнага жыцця: сучасны слухач і сучасны кампазітар усё больш нагадваюць дзве зоркі, якія аддаляюцца адна ад адной.

**— Названыя вамі праблемы сплецены ў тугі вузел, і развязваць яго трэба, відаць, з усіх канцоў. Але пачынаць трэба, мусіць, з выхавання музычнай культуры, без якой у чалавека не ўзнікне ні простай цікавасці да канцэртнага жыцця, ні звычкі хоць зрэдку наведваць філармонію ці музычны тэатр, ні глыбокай патрэбы ў зносінах з музыкай. Можна гаварыць, што публіцы не даспадобы, скажам, творчасць сучасных беларускіх кампазітараў. Але на маёй памяці канцэрты, дзе гучалі Мусаргскі, Гайдн, Брытэн, Орф, Шнітке і не сказаць, каб у горшым выкананні, а публікі ў зале было не густа.**

— Феномен пустых канцэртных залаў вымагае і асобнага даследавання, і асобнай гаворкі. Падкрэслю толькі, што аматараў музыкі рэальна можа быць больш, чым прысутных у зале, а тым часам на канцэрт можа трапіць і выпадковы наведвальнік. І было б глыбокаю памылкаю ставіць задачу максімальнага запаўнення глядацкіх месцаў. Ад пагоні за валавымі паказчыкамі наша мастацтва павінна пазбаўляцца. Дбаць трэба не пра колькасць людзей у зале, а пра выхаванне слухача, пра творчую атмасферу на канцэрце.

Калі ж гаварыць пра сістэму выхавання ў рэспубліцы, трэба звярнуць увагу на развіццё музычна-эстэтычных цэнтраў. Цяпер на Беларусі чатыры спецыялізаваныя канцэртныя залы: у Полацку, у Вілейцы, два — у Мінску. Мы плануем будаўніцтва новых для абласных філармоній: у Магілёве, якая адкрыецца ў 1990 годзе, і ў Гомелі. Будзе знойдзена памяшканне для філармоніі, якая сёлета пачне працаваць у Віцебску. (Тут ужо, як вядома, з'явілася буйная канцэртная пляцоўка, дзе прайшоў І Усесаюзны фестываль польскай песні: выдатна аснашчаная зала і ў нядаўна збудаваным гарадскім Доме культуры). У адным з архітэктурных помнікаў Гродна будзе камерная зала абласной філармоніі.

**— А дзе будзе яе асноўная зала?**

— Пакуль гэтае пытанне, як і пытанне з будынкам для Брэсцкай філармоніі, не вырашана. Але мы павінны рэалістычна ацэньваць сітуацыю. Разлічваць толькі на новае будаўніцтва было б няправільна. Сёння ў рэспубліцы сотні залаў — палацаў і дамоў культуры, музычных вучылішчаў і школ, нават некаторых музеяў і бібліятэк — прыдатныя для канцэртнай работы. Ёсць рашэнне наконт Мінска, дзе выступленні нашых жа выканаўцаў недастаткова інтэнсіўныя, бо філармонія мае толькі дзве пляцоўкі. Пасля рэстаўрацыйных работ у Верхнім горадзе плануецца адкрыць дзіцячую філармонію, з арганнай залай, са сцэнай, прыладкаванай і для паказу музычна-тэатральных твораў. Новая арганная зала будзе і ў тым старадаўнім будынку на плошчы Свабоды, які цяпер займаюць спартсмены.

І вось цяпер важна, каб Музычнае таварыства БССР (дарэчы, і яно зусім «новае» — з'явілася няпоўныя два гады назад) заўважала ўсе гэтыя асяродкі і спрыяла арганізацыі клубаў, ці суполак аматараў музыкі. Фарміраваўся б пастаянны кантынгент слухачоў, ядро аўдыторыі, а ў такіх умовах можна весці асветніцкую, прапагандысцкую работу, распаўсюджваць свежую музычную інфармацыю. Вопыт нашай філармоніі сведчыць: туды, дзе з аўдыторыяй грунтоўна папрацаваў лектар-музыказнавец, можа смела прыязджаць сімфанічны аркестр, яго пойдуць слухаць.

**— Але, на жаль, гэта вопыт не масавы...**

— ...і патэнцыяльны слухач застаецца слухачом патэнцыяльным, так? Можна тут папракнуць і нашу музыказнаўчую навуку, якая не гатовая сёння даць канцэпцыю паляпшэння канцэртнага абслугоўвання. Але спрактыкаваныя арганізатары канцэртнага жыцця, дый самі музыканты, урэшце, і без навуковай дапамогі знаходзяць спосаб наладжваць кантакт з рознай аўдыторыяй.

Можна наракаць (і гэта будзе слушна) на тое, што Беларуская кансерваторыя не забяспечвае падрыхтоўку лектараў-музыказнаўцаў адпаведна рэальным патрэбам. Іх у нашых філармоніях вельмі мала, прычым найбольш яркія фігуры — гэта тыя людзі, што займаюцца музычным асветніцтвам па прызванні, а не тыя, у каго ёсць належны дыплом. Між іншым, вельмі перспектыўнай мне ўяўляецца такая форма эстэтычнага выхавання і асветніцтва, калі пра музыку расказвае яе непасрэдны выканаўца. Такія прыклады работы з аўдыторыяй даюць знакамітыя музыканты, і сярод артыстаў нашай філармоніі такі вопыт ёсць.

Можна глянуць на праблему і пад такім вуглом. Толькі ў Мінску музычныя школы скончыла ўжо вялікая армія дзяцей, дзе ж яны, маладыя меламаны? Відаць, рэальныя інтарэсы гэтых дзяцей не ў музыцы, а ў чымсьці іншым. Значыць, дзіцячым музычным школам трэба ладзіць навучанне такім чынам, каб у дзяцей выхоўвалася не толькі (і не столькі) уменне іграць, а і густ да музыкі, і ўменне яе слухаць.

Нарэшце, звернем увагу на сферу прыярытэтаў выхавання. Кожная сям'я, кожны выхавацель, настаўнік, работнік установы культуры павінен ведаць, разумець, што такое высокае музычнае мастацтва, да чаго трэба прывабліваць увагу дзяцей з самых малых гадоў. Толькі тады, напрыклад, рок-культура зойме сваё адпаведнае месца ў жыцці, у сістэме каштоўнасцяў маладых людзей. А пакуль атака рока на эстэтычна непадрыхтаваную, не развітую духоўна моладзь выкрэслівае ў большасці хлопцаў і дзяўчат цікавасць да высокіх культурных каштоўнасцяў, да розных жанраў музычнага мастацтва.

**— Уладзімір Пятровіч, самы час пагаварыць нам пра перспектывы ўласна мастацтва, творчасці.**

— Надзённая праблема для беларускага мастацтва — захаванне спадчынных традыцый, прапаганда песеннага і танцавальнага фальклору. Увага да прафесійных калектываў, якія працуюць на народнай аснове, — таксама сведчанне змен у нашай філарманічнай палітыцы.

Фальклор у прафесійных калектывах — гэта значыць стабільнасць яго жыцця, захаванне і памнажэнне традыцый, плённы ўплыў на самадзейнасць. Скажам, нядаўна адбыўся супольны канцэрт у філармоніі Акадэмічнага народнага хору БССР імя Г. Цітовіча і самадзейнага пеўчага калектыву калгаса «Рассвет». Вось — жывы прыклад узаемапазнання, узаемнай цікавасці, нефармальных шэфскіх сувязяў. Плённыя кантакты з народнымі майстрамі-музыкамі ў папулярнага ансамбля «Свята», у новага самабытнага калектыву «Жывіца». Кожны з калектываў прыносіць непаўторную фарбу на жанравую палітру. І каб ніводная фарба не згублася, трэба падтрымліваць стварэнне новых адметных мастацкіх гуртоў, якія захоўваюць пэўныя рэгіянальныя асаблівасці.

Так у Гомельскай філармоніі на базе добра вядомай «Жалейкі» ствараецца народны музычны тэатр; у Брэсцкай абласной філармоніі — Камерны аркестр народных інструментаў; на аснове музычна-танцавальнага фальклору працуе ансамбль «Белыя Росы» з Гродна. Ёсць задумка стварыць у Мінску тэатр народнай песні.

Важныя праблемы нашага мастацтва звязаны з творчасцю беларускіх кампазітараў. Вакол гэтых праблем нямала палемікі, і яны вымагаюць асобнай гаворкі. Але якою палемічнай ні была б гаворка, нельга забываць, што паспяховае вырашэнне творчых спраў залежыць ад трыадзінства: музычна-эстэтычнае выхаванне аўдыторыі, прапаганда музыкі, якасць самой музыкі.

Саюз кампазітараў БССР арганізуе ў сябе Цэнтр музычнай інфармацыі — неабходнае звяно ў сістэме прапаганды творчасці. Фестываль «Мінская вясна» штогод прадстаўляе новыя набыткі нашых творцаў у розных жанрах, а побач гучыць і музыка іх калег з іншых рэспублік. (Мабыць, праз нейкі час пра «Мінскую вясну» будуць гаварыць ужо як пра ўсесаюзны фестываль сучаснай музыкі). Зразумела, што прапаганда твораў беларускіх аўтараў не можа абмяжоўвацца толькі фестывалямі. Беларуская музыка павінна рэгулярна, на роўных з творчасцю іншых савецкіх аўтараў і класікаў, гучаць у філарманічных праграмах. На працягу ўсяго сезона, у тым ліку і на ўсесаюзным фестывалі мастацтваў «Беларуская музычная восень». Пакуль жа за апошнія год-два было чатыры аўтарскія канцэрты беларускіх кампазітараў, шэраг іх музычных прэм'ер, а таксама выкананне асобных твораў за межамі рэспублікі пад час гастроляў нашых выканаўцаў.

**— Уладзімір Пятровіч, я наўмысна не ўдакладняю ў вас канкрэтныя лічбы: не люблю, калі гаворка пра мастацтва вядзецца, так бы мовіць, з пазіцыі колькасці. Але, на жаль, менавіта «з пазіцыі колькасці» вырашаюцца ў мастацтве многія далікатныя, духоўныя пытанні, якія вырашаць можна толькі з пазіцыі таленту.**

— Падтрымаю вашу думку. Вось, напрыклад, вядомы план набору абітурыентаў у мастацкія ВНУ і сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы. Гэтая практыка суровай рэгламентацыі доўгія гады працавала супраць нас: у навучальныя ўстановы нярэдка прымаліся і малаталенавітыя людзі, якія рабіліся потым пасрэднымі настаўнікамі і прывадзілі ў мастацтва падобных да сябе. Ці ёсць здаровы сэнс у плане прыёму, дапусцім, на аддзяленне кампазіцыі? А калі таленавітых абітурыентаў акажацца больш — хто з іх павінен «адсеяцца»? А калі сярод жадаючых будзе толькі адзін таленавіты — навошта няведаючы лёс астатніх, прымушаючы іх верыць у тое, што набыццё дыплома зробіць іх усіх мастакамі, асобамі ў сваёй прафесіі?

Відаць, прыйшоў час адмовіцца ад такога планавага набору будучых спецыялістаў, перайсці да больш свабоднай, не рэгламентаванай колькасна, формы прыёму і ў той жа час большую ўвагу звярнуць на юныя таленты, больш пільна шукаць сваіх будучых абітурыентаў. У творчасці можа быць толькі адзін крытэрый — талент.

Увогуле, мастацтва мае сваю ўнутраную, іманентную сілу развіцця. Але гадоў 8—10 таму, калі матэрыяльная аснова для развіцця нашага мастацтва была звужаная, тармазіліся і натуральныя працэсы ў ім. Цяпер становішча мяняецца. Натуральны шлях выспявання і развіцця новай мастацкай прапановы, што вымагае своечасовай дзяржаўнай падтрымкі, мы пабачылі ў стварэнні Дзяржаўнага камернага хору БССР. Гэты новы калектыў — не выпадковасць. З'явіўся ў Мінску таленавіты чалавек, вакол яго згуртавалася ядро энтузіястаў, узнік Маладзёжны камерны хор, які не адзін год працаваў як аматарскі, набыў сталых прыхільнікаў. Так закладваліся карані творчага жыцця будучага прафесійнага калектыву. З ініцыятывы энтузіястаў вырас і папулярны ў гледача эстрадны тэатр-студыя «Хрыстафор».

**— Такія ініцыятывы, найперш, відаць, важныя для развіцця менавіта эстраднага мастацтва, на якое столькі нараканняў!**

— Сапраўды, колішняя манапалізацыя жанру ВІА, які даваў філармоніі славуты вал, адміністрацыйны падыход да фарміравання новых жанраў, якія спрабавалі прабіць сабе дарогу на эстраду, — сярод прычын сённяшняга яе адставання. Ды нельга не заўважаць і новыя тэндэнцыі. Беларуская эстрада робіцца шматжанравай. Буйныя калектывы («Песняры», «Верасы») імкнуцца адасобіцца ад філармоніі, каб не займацца забеспячэннем валу і больш часу аддаваць студыйнай працы, стылістычным, жанравым пошукам у абнаўленні свайго аблічча, стварэнню на сваёй базе новых творчых калектываў.

Мусіць, ужо сёлета будзе створана Мінскае канцэртнае аб'яднанне, якое дапаможа скаардынаваць дзейнасць многіх творчых сіл па музычным абслугоўванні горада.

Асаблівае месца займае песенны жанр, недахопы ў развіцці і прапагандзе якога абмяркоўваюцца ў апошні час. Студыя выканаўцаў эстраднай песні пры створаным паўтара года назад Дзяржаўным канцэртным аркестры Беларусі дазваляе наладзіць патрабавальны адбор і салістаў і рэпертуару для нашай эстрады. Ну, а новыя імёны, як вядома, нараджаюцца на фестывалях. Сёлета ў маі ў Магілёве адбудзецца першы фестываль беларускай эстраднай песні, які дазволіць не толькі ацаніць створанае кампазітарамі, але і заўважыць свежыя тэндэнцыі творчасці, якія могуць даць новы адметны напрамак развіццю беларускай песні. Фестываль павінен таксама выканаць сваю адказную задачу ў справе прапаганды беларускага слова, мовы.

**— Лёс эстрады, і канцэртнай справы ўвогуле, наколькі я ведаю, цяпер ускладняюць кааператывы.**

— Канцэртных кааператываў у рэспубліцы ўжо дзесяткі. Атрымаўшы льготнае налогаабкладанне, яны апынуліся па-за канкурэнцыяй з філарманічнымі калектывамі, якія адлічваюць у дзяржбюджэт да 100 працэнтаў прыбытку (кааператывы — толькі тры працэнты). Такім чынам, кааператывы робяцца не альтэрнатывай дзяржаўным канцэртным арганізацыям, а своеасаблівай манаполіяй. Манаполія — страшэнны вораг

любога развіцця; патрэбна свабодная творчая канкурэнцыя груп, якія працуюць у масавых жанрах. Вось чаму мы з надзеяй чакаем новых умоў гаспадарчай дзейнасці філармоній краіны. Мы спадзяёмся, што будуць зняты тыя фінансавыя абмежаванні, якія дасюль тармозяць развіццё канцэртных арганізацый.

Ужо вядомыя рашэнні Кампартыі і ўрада рэспублікі скіраваныя на ўмацаванне матэрыяльнай базы філармоній. А гэта азначае папаўненне музычнага інструментарыя і транспартнага парка, стварэнне новых мастацкіх калектываў і паляпшэнне сацыяльна-бытавых умоў для музыкантаў.

**—І, напэўна, — новы ўзровень рэкламы, прапаганды. Дарэчы, як будзе з распаўсюджваннем грамзапісаў, з музычным выдавецтвам?**

— Як вядома, функцыі музычнага выдавецтва па-ранейшаму выконвае ўсяго толькі невялікая, абмежаваная ў сваіх магчымасцях рэдакцыя выдавецтва «Беларусь». Але да спраў выдавецкіх наша міністэрства не мае дачынення — гэта кампетэнцыя Дзяржкамвыда. Выданні, якія будуць рыхтавацца Музычным таварыствам БССР і яго некаторымі аддзяленнямі ў абласцях, часткова могуць задаволіць попыт чытачоў і аўтарскія патрэбы.

З выданнем грампласцінак справа па-ранейшаму складаная. Чытачы «ЛіМа», калі яны ўважліва сочаць за газетай з мінулага года, павінны ведаць сітуацыю. На гэтую ж тэму было выступленне «Вожыка» (№ 20 за 1988 г.). Нагадаю, што запісы нашых калектываў і салістаў ажыццяўляюцца на перасоўнай апаратуры фірмы «Мелодия» раз у два гады. (Летась, дарэчы, былі запісаны ўсе нашы вядучыя калектывы — харавыя і аркестравыя, «Свята», «Купалінка», эстрадныя выканаўцы, салісты). Усё было б прасцей, калі б мелі мы сваю сучасную студыю гуказапісу.

Аднак абсталяванне такой студыі каштуе валютных сродкаў. А валюты Мінкульт не мае. Сітуацыя, здавалася б, не абнадзейвае, і ўсё ж мы шукаем выйсце.

Апошнім часам наладзіліся ў нашага міністэрства добрыя творчыя кантакты з Дзяржтэлерадыё БССР. Разам праводзім фестывалі, гутаркі за «круглым сталом». Мы адчуваем разуменне і ў пытанні з грампласцінкамі. Радыё абяцае дапамагчы ў падборы фондавых фанаграм для самых важных сёння пласцінак — адрасаваных дзецям. Гэта найперш запісы беларускіх казак у выкананні выдатных артыстаў нашых тэатраў. Для Дзяржтэлерадыё БССР будуецца сучасная новая студыя: тут таксама будзе для нас шанц — рабіць высакаякасныя запісы для грампласцінак незалежна ад фірмы «Мелодия».

Канцэртныя ўстановы не павінны жыць толькі за кошт агульнай дзяржаўнай кішэні, таму варта скарыстаць яшчэ адзін шанц: навучыцца сваімі сіламі зарабляць валюту і забяспечыць абсталяванне студыі. У сувязі з гэтым наша задача — стварыць такія канцэртныя праграмы, якія дазволілі б пашырыць кантакты Беларусі ў галіне мастацкага абмену з Польшчай, Славеніяй, іншымі сацыялістычнымі краінамі, весці канструктыўны дыялог з імпрэсарыа капіталістычных краін. Магчымасці для гэтага ёсць, такія перагаворы зараз вядуцца.

Сёння сітуацыя ў рэспубліцы для развіцця культуры ў цэлым надзвычай дабратворная. Многа новага з'явілася ў нашым музычным жыцці толькі за апошнія год-два, складваюцца спрыяльныя эканамічныя ўмовы на перспектыву. Хаця час сёння няпросты, палёгку ў працы не дае.

**— Дзякую, Уладзімір Пятровіч, за грунтоўную гутарку.**

**Гутарыла С. БЕРАСЦЕНЬ.**

*З пошты аддзела выяўленчага мастацтва*

# ПАМЯЦІ «ХЛОПЦАЎ АПОШНЯЙ ВАЙНЫ»

26 лютага ў мінскім Доме афіцэраў закрыецца выстаўка конкурсных праектаў помніка воінам, якія загінулі ў Афганістане.

Нам давялося пабываць на гэтай выстаўцы. Уражанне не лепшае. З васьмі прадстаўленых работ цяжка вылучыць што-небудзь вартае. Нізкі прафесійны ўзровень, безаблічнасць і абыякавасць — так успрынялі гэту выстаўку многія наведвальнікі. Каб не быць галаслоўнымі, прывядзём некалькі цытат з кнігі водгукаў: «Усе помнікі занадта манументальныя і таму надта бяздушныя»; «Лічу, што вынікі конкурсу былі прадвызначаны. Восем праектаў — гэта амаль нічога. Надта мала часу было вылучана на распрацоўку праектаў»; «Несправядліва, што ў праекце № 4 паказаны воін у дэсантнай форме. Што, сапёры, матастралкі, авіятары зрабілі менш? Патрэбен помнік-сімвал»; «Вельмі мала прадстаўлена работ. Навошта гэтая паспешлівасць? У нашай часці людзі сабралі і пералічылі грошы на помнік. Іх трэба патраціць разумна»; «Ні ў адным з праектаў не бачу закончанай ідэі, душы».

Вось такія ўражанні. Есць і іншыя, больш спакойныя і разважлівыя: «Вытрыманым і лаканічным, на мой погляд, з'яўляецца праект помніка № 5». Ну што ж, кожны можа выказаць сваю думку. Мы ж пастараемся расказаць аб праектах № 5 і яшчэ аб № 4, бо менавіта ім аддаецца перавага.

Праект № 4. Некалькі вертыкальных каменных блокаў, якія формай нагадваюць труну. У сярэдзіне — труна з «акенцам». Бачыцца выява дэсантніка ў цяльняшцы і ў берэце. Ля «труны» — журботная маці на каленях. Аўтар улавіў характэрную рэалію нашага часу — цынк з целам салдата ў мірны для краіны час. Аўтары праекта бачаць у вайне толькі фізічную смерць. Але вайна гэта яшчэ і велізарныя маральныя страты. Што ж датычыць журботнай маці на каленях, то, нам здаецца, аўтар праекта не ўлавіў і такой дэталі: маці заўсёды чакае і ніколі не змірыцца з гібеллю сына.

Праект № 5. Дзесяць глыбаў, са знешняга боку якіх урэзаны ў граніт завялыя чорныя цюльпаны—вобраз «загінуўшых кветак». З унутранага — на кожнай з глыбаў выбіты імёны паўшых і год вайны. Гэтая груда бетону павінна, па задуме аўтара, сімвалізаваць цясніны Афганістана. Што тут можна сказаць? Адкажам словамі наведвальнікаў: «Не трэба рабіць горы там, дзе іх няма. Тым больш гэта недарэчы ў праекце Помніка. Трагедыя ж народа несумяральная з вобразам «загінуўшых кветак». А як трэба разумець выраз «храм пад адкрытым небам»? Хіба толькі з адным элементам мемарыяла можна згадзіцца: гэта датычыць выбітых імёнаў паўшых — ад радавога да афіцэрскага саставу, з указаннем года гібелі.

Помнік павінен адлюстраваць не толькі нейкі штрых, імгненне часу, а ўсё дзесяцігоддзе гэтай вайны, раскрыць яе сэнс. Тут не абысціся без арыгінальнай сімволікі.

Помнік павінен стаяць не на ўскраіне (многія мінчане і не ведаюць, дзе тая вуліца Ташкенцкая, дзе плануецца пабудаваць помнік), а ў цэнтры горада, як перасцярога і вечная памяць. Няма патрэбы адносіць яго на далёкую Чыжоўку, хоць там, у асноўным, пахаваны нашы хлопцы.

Помнік павінен аб'ектыўна адлюстраваць стаўленне нашага народа да гэтай вайны. Для гэтага неабходна прыцягнуць да распрацоўкі і абмеркавання праектаў помніка грамадскасць горада, творчыя саюзы, саміх «афганцаў». Месяц (з 26 студзеня па 26 лютага) — занадта малы тэрмін, каб выявіць грамадскую думку.

**А. КРЫВАНОС,**
**П. НАВОЙЧЫК,**
**«афганцы», студэнты БДУ імя У. І. Леніна.**

**15 лютага вяртаннем савецкіх войск на радзіму скончылася афганская вайна. Дакладней, скончылася для нас, бо грамадзянская вайна ў Афганістане працягваецца. Мала хто ў 1979 годзе думаў, што маланкавая дэсантная аперацыя зацягнецца на дзесяць год. І хто ведае, колькі часу спатрэбіцца краіне, каб асэнсаваць гэтае дзесяцігоддзе, каб пераплавіць чалавечы боль у грамадскую свядомасць, вопыт авантуры — у палітычную мудрасць.**

**Неяк мне давялося пабачыць на мастацкай выстаўцы плакат, дзе у метафарычнай форме выяўлена сутнасць самога паняцця «Афган». Тэхнікай фотамантажу спалучаны дзве выявы. На горны краявід накладзены, нібыта прышыты, лямкі армейскага рэчавага мяшка. Афган — камень за плячыма, камень на сэрцы цэлага пакалення.**

**Пабудаваць загінуўшым «афганцам» варты помнік — значыць, часткова «зняць камень з душы». Але якім павінен быць гэты помнік? У любым выпадку гэта не помнік перамозе. Я не ведаю, ці можна каго-небудзь назваць у гэтай вайне пераможцам. Таму не варта браць за аналагі манументы вызваліцелям, пераможцам у Вялікай Айчыннай, толькі мяняючы лічбы «1941—1945» на «1979—1989».**

**Думаю, гэта павінен быць помнік празарэнню. Можа, адзінае, чым узбагаціла нас афганская вайна, дык гэта пазбаўленне ад ілюзій. Нікога нельга «ашчасліваць» насуперак ягонаму жаданню — ні ва ўласнай хаце, ні за межамі краіны. У помніку былі б недарэчныя паралелі з інтэрнацыяналісцкімі акцыямі нашай дзяржавы пад час антыфашысцкай вайны ў Іспаніі і рэвалюцыі на Кубе. У Афганістане — іншая сітуацыя.**

**Гартаю кнігу водгукаў і я. «Усё гэта [маецца на ўвазе прадстаўленыя праекты.— П. В.], — піша адзін з наведвальнікаў выстаўкі,— можна аднесці да мінулай вайны 1941—1945 гг. Афганская ж вайна болей стасуецца з авантурай». Не толькі аўтары ліста ў рэдакцыю, але таксама іншыя «афганцы» патрабуюць, каб помнік стаяў у цэнтры Мінска. Прапановы розныя, але сыходзяцца ў адным — Ленінскі праспект ці побач з ім. «Ссылку» помніка ў Чыжоўку некаторыя ўспрымаюць як абразу памяці загінуўшых, як спробу замоўчвання трагедыі.**

**«Спасылаюцца на тое, што ў цэнтры горада месца няма. Камусьці не хочацца, вельмі не хочацца, каб помнік стаяў у цэнтры горада, — піша яшчэ адзін наведвальнік. — Прапаноўваю паставіць помнік насупраць Дома ўрада ў скверыку паміж дзвюма трасамі. Будзем прыходзіць сюды, кветкі ўскладаць, помніць. Нам трэба помніць».**

**Нельга назваць высокім прафесійны ўзровень праектаў, і гэта акалічнасць не мінула ўвагі наведвальнікаў: «З прапанаванага бадай што нічога няма. Тэма не раскрыта».**

**І апошняе, можа, галоўнае пытанне — ці трэба паспешнасць у падвядзенні вынікаў конкурсу, ці можна лічыць конкурс закончаным? Тут агульная думка выказана словамі: «З такімі справамі не спяшаюцца». У нас і так хапае манументаў, злепленых сяк-так да чарговага свята, даты, юбілею. Лепей пачакаць год, чым потым дзесяцігоддзі думаць, што рабіць з тым ці іншым «манументам». Прыклад — бюст Грыцаўца, які «цягаюць» па горадзе з аднаго месца на другое.**

**Афганская тэма толькі пачынае раскрывацца. І самі «афганцы» — героі і ахвяры трагічнага дзесяцігоддзя павінны сказаць аб ім сваё важкае слова, тым больш, што сярод іх ёсць і мастакі і архітэктары.**

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ,**
**карэспандэнт аддзела выяўленчага мастацтва «ЛіМа».**

# «Альбаросіка» — дзе яна?

**Думаецца, адной з галоўных прычын нашай гістарычнай непісьменнасці з'яўляецца пагардлівае стаўленне да групы важных дапаможных крыніц, якія ўваходзяць састаўной часткай у сістэму гістарычнай інфармацыі. Гэтую сістэму можна назваць (традыцыйна па латыні) «Alba rossica». Пад паняццем «Alba rossica» маецца на ўвазе сукупнасць кніг замежных аўтараў ці на замежных мовах, якія тычацца Беларусі: яе геаграфіі, гісторыі, насельніцтва, побыту, мовы і г. д. Карацей, усё, што звязана з яе грамадска-палітычным, духоўным і культурным жыццём, эканомікай. Безумоўна, да «Альбаросікі» трэба аднесці літаратурныя, драматургічныя і гістарычныя творы, заснаваныя на гісторыі беларускіх зямель, ці творы, дзеянне якіх разгортваецца на тэрыторыі Беларусі. Сюды ж варта ўключаць і творы выяўленчага мастацтва на гэтую тэму.**

**У нашай літаратуры не даследавана пытанне гісторыі беларускай дыяспары, яе размяшчэнне па краінах, літаратура, друк, мастацтва. Улічваючы, што ў пачатку XX стагоддзя вялікая колькасць беларусаў паехала на «пошукі шчасця» ў іншыя краіны і на кантыненты, што ёсць вялікія абшчыны ў Канадзе, ЗША, Аргенціне і шэрагу іншых краін, даследаванні па гэтаму пытанню мелі б вялікую цікавасць. А між тым такіх прац у нас пакуль што няма, хоць ёсць добры прыклад суседзяў — літоўцаў. Яны ўжо маюць старанна распрацаваную «Літуаніку», якая мае вялікае значэнне і для нас, бо нашы народы на працягу стагоддзяў ішлі разам ці шляхі іх перакрыжоўваліся. Таму, на мой погляд, варта і нам заняцца складаннем «Альбаросікі». Тым больш, што гэтая праца пры наяўнасці добра распрацаванай «Літуанікі» будзе ўжо не такой і цяжкай.**

**А. СУДЛЯНКОЎ,**
**інжынер.**
г. Мінск.

## ВЕЧАРЫ, СУСТРЭЧЫ

**85-годдзю з дня нараджэння выдатнай беларускай спявачкі, opернай актрысы і рэжысёра, народнай артысткі СССР Ларысы Пампееўны Александроўскай прысвячаўся вечар у рэспубліканскім Доме работнікаў мастацтваў. На здымку Ул. Круна вы бачыце ўдзельнікаў гэтага вечара ўспамінаў: народную артыстку БССР З. Браварскую, канцэртмайстра ДАВТа БССР Л. Талкачову, народную артыстку СССР Т. Ніжнікаву і народнага артыста рэспублікі рэжысёра С. Штэйна.**



# Між былым і наступным

(Пачатак на стар. 5).

**увялі ў нашу мову нямала слоў-пачвар, самае пачварнае з якіх, бадай, — РАБЯТЫ. Жах — якая няўклюда! А во — дасюль не выкарчаваць! Рабятаем і рабятаем! І ў кніжках, і ў газетах, і ў часопісах. І на ўроках роднага слова ў школе. Усё яшчэ аддаём належнае памяці гэнай малапісьменнай кабеціне — ці што? Але ж і гуманісты мы, браточкі!..**

□

КАЛІ Ж МЫ пачнём вялікую гаворку пра мову нашай літаратуры? Калі пытанні моўнага майстэрства паставім у цэнтр увагі? Гэта ж для нас праблема праблем — мова! Мы марым пра выдатную літаратуру, але такая літаратура не ствараецца на пачварным моўным валапюку, на ўбогім канцылярскім жаргоне, — гэткіх дзівос гісторыя не ведае. Пытанне мовы ў нас даўно перайшло ў разрад пытанняў надзвычайных, звыштэрміновых, звышактуальных. І трэба гаварыць з усёй пэўнасцю: будзе мова— будзе літаратура. Тым часам тэндэнцыя псавання, калечання і нявечання мовы ў нашай прозе і паэзіі, драматургіі і публіцыстыцы набірае сілу. Калі гэты працэс не спыніць, не пераламаць, не пераадолець — усякая размова пра пэўныя пошукі ў літаратуры, пра распрацоўку новых тэм, пра абнаўленне жанраў і стыляў — траціць сэнс. Тварыць мастацкую літаратуру без мастацкай, жывой, чалавечай мовы? Ды гэта тое самае, што будаваць будынкі без будаўнічага матэрыялу. Гэта значыць, будаваць паветраныя замкі.

□

**ПРА НАШЫ беларускія імёны я задумаўся ўпершыню летам 1944-га, будучы яшчэ зялёным падлеткам. І да вайны — у газетах і школьных чытанках, і ў час вайны — у партызанскім друку, — я тысячы разоў чытаў: Іосіф Вісарыёнавіч Сталін. І ў галаву мне не прыходзіла, і ніхто мне, хоць бы выпадкова, не сказаў, што Іосіф па-беларуску будзе Язэп. Але неўзабаве пасля вызвалення, калі пачалі аднаўляць школы і ўзнікла пільная патрэба ў падручніках, і мы, падлеткі, шукалі абы-якую кнігу для чытання, у мае рукі трапіў стары, без вокладак і струхлелы, нейкі дапаможнік па гісторыі нашай Радзімы, і ў ім я ўбачыў знаёмы вусаты партрэт правадыра, а пад партрэтам — подпіс: Гэнэральны сакратар ЦК УКП(б) Язэп Вісарыёнавіч Сталін. Прачытаў я гэта — і ад нечаканага адкрыцця зарагатаў. Справа ў тым, што імя Язэп я ніяк не мог успрыняць у такім высокім кантэксце. У нас у Слабадзе некалі быў (я, што праўда, яго не помніў) свой Язэп, і быў ён, па расказах, страшэнны гультай — амаль круглы год не злазіў з печы; аднойчы яго жонка Паўліна, таўкучы кашу на сняданне, так на яго ўзлавалася, што адскочыла ад гаршка, храснула яму качалкай па лбе — і забіла. У вёсцы гэта падзея надоўга засталася жыць паданнем, і можна было часта пачуць, у жартоўнай гаворцы, добрую параду: «Трэсні яму, як Паўліна Язэпу, качалкай па лбе — і толькі!..»**

**Сваё здзіўленне, што Іосіф— гэта Язэп, я выказаў за вячэрай уголас. І мне старэйшыя патлумачылі, што здзіўляцца тут няма чаму, што Язэп — прыгожае і пашыранае ў Беларусі імя, і яно не вінавата, што дасталося гэнаму Паўлінінаму абібоку, бо ёсць і шмат іншых, добрых Язэпаў.**

**Сёння імя Язэп, як і Юзя, або Юзюк, у Беларусі ў інтэлігентным асяроддзі амаль не пачуеш — за выняткам аднаго-двух выпадкаў, калі гэту форму выкарыстоўваюць у якасці псеўданіма. Але і ў такім разе ў афіцыйных даведніках (у беларускай энцыклапедыі, напрыклад) у дужках пішацца нібыта сапраўднае ІОСІФ. Язэп, бачыце, не сапраўднае, а Іосіф — сапраўднае. А некалі ж было сапраўдным, гэта значыць афіцыйным — Язэп. Нават генсека партыі называлі ў друку гэтым імем! Дык кім і калі яно было адрынута, выкінута з афіцыйнага ўжытку?..**

**Калі — вядома. У сярэдзіне трыццатых, пасля рэформы беларускага правапісу, калі быў узяты афіцыйны курс на штучнае збліжэнне нашай мовы з рускай. Тады і пачалі камандзёры ад асветы і культуры, дыпламаваныя і недыпламаваныя невукі, пазбаўляць нас нашых уласных імён. І называць нас іншымі, не ўласцівымі ладу і духу нашай адвечнай роднай мовы. Пачалася неразумная, недарэчная, нічым не апраўданая нівеліроўка і уніфікацыя духоўнага побыту братніх народаў. Давайце ўсё рабіць на адзін капыл! Асабліва— што датычыць душы чалавека. Імёны — уніфікуем таксама. Навошта — каб мы між сабой адрозніваліся?**

**І уніфікавалі. Сотні прыгожых, самабытных, нацыянальна каларытных беларускіх імён з ужытку зніклі ці амаль зніклі. Адно яшчэ наш брат, пісьменнік, не могучы змірыцца з гэтым варварствам, надзяляе імі сваіх герояў. Гэта — своеасаблівая форма пратэсту, які ідзе ад усведамлення, што са стратай свайго ўласнага імя чалавек траціць і сваё ўласнае аблічча. Не буду ўдавацца ў тэорыю і прыцягваць да разгляду шырокі гісторыка-лінгвістычны матэрыял, а проста, па-чалавечы, спытаю: дзе дзеліся імёны, якія з маленства былі для мяне звыклыя, і прыгожыя, і мілагучныя — якімі называліся добрыя, знаёмыя мне, у тым ліку родныя і блізкія людзі? Чаму я нідзе, апрача як ва ўспамінах пажылых маіх аднавяскоўцаў, гэтых імён ужо не чую? Бацьку майго, як помню, і яго родныя браты, і сястра, і ўсе блізкія і далёкія суседзі, і людзі навакольных вёсак называлі Сымон, — толькі Сымон. Так звярталася да яго заўсёды і наша маці, Кацярына Мікалаеўна. Ласкава-памяншальныя ўтварэнні былі Сымонка і Сымоначка, але ніякі не Сёмка і не Сенька. Дык хто ж, калі і па якому праву перарабіў імя майго бацькі з Сымона на Сямёна?.. Абедзве мае бабулі былі Альжбеты: па бацьку Альжбета Васілеўна, па маці — Альжбета Хведараўна. Спяшаюся апярэдзіць тых, хто паспеў падумаць, што яны, відаць, былі каталічкі, а то і зусім палячкі: не, не каталічкі і тым больш не палячкі: і адна, і другая, як і іх мужы, мае дзяды, былі праваслаўнымі беларусамі. Бабулі мае паспелі памерці Альжбетамі, на Елізавет іх не перапісалі. Але сёння гэтага прыгожага імя (памяншальнае — Аля, Алечка) у Беларусі амаль не сустрэнеш.**

**Дырэктара нашай Слабодскай сямігодкі, у якой я да вайны вучыўся, мы называлі Алесь Якубавіч. Сёння ён быў бы, канешне ж, Аляксандр Якаўлевіч. У Слабадзе было некалькі Якубаў: Якуб Бурбоўскі, Якуб Драгун, аж два Якубы Давідовічы, але не было ніводнага Якава. У дзяцінстве, ды і пазней, я звяртаўся да знаёмых мужчын так: дзядзька Змітрок, дзядзька Тодар, дзядзька Тамаш, дзядзька Аніс, дзядзька Якім, дзядзька Кастусь... Перамёрлі гэтыя дзядзькі, адмёрлі і іх імёны. Унукаў і праўнукаў імёнамі дзядоў ужо не называюць. Да знаёмых жанчын у дзяцінстве сваім я звяртаўся на роднай мове і ў духу нацыянальных звычаяў так: цётка Марыля, цётка Гілена, цётка Барбара, цётка Параска, цётка Рыпіна, цётка Луцэя, цётка Зося, цётка Еўка, цётка Тэкля... Адышлі на вечны супачын гаротніцы-цёткі (а ўсе яны былі гаротніцы!), зніклі і іх імёны. Унучкам і праўнучкам яны ўжо не дасталіся. Нехта ў свой час пераканаў, што Марыля, або Гілена, або Зося— гучыць непрыгожа, некультурна. Зрэшты, пераканалі ўвесь народ, што яго імёны — брыдкія, немілагучныя і што іх трэба памяняць на лепшыя. І пачалі мяняць. І напераменьвалі так, што ўжо нічога, ані знаку свайго не засталося. Па імені *ўжо не пазнаеш, што перад* табой беларус. Паляка пазнаеш, што паляк, літоўца пазнаеш, што літовец, армяніна пазнаеш, балгарына пазнаеш, француза пазнаеш — у кожнага народа свае імёны, чаму ж не пазнаць! А мы сваіх імён не маем, нас па імені не адрозніш. Нават на магільных помніках тыя ж знаёмыя мне дзядзькі і цёткі амаль усе паіменаваны ўжо зусім іначай: «Дмитрий, Фёдор, Ефим, Константин... Мария, Елена, Варвара, Прасковья, Агрофена, Лукерья, София...» Нават пасля смерці перахрысцілі! Семдзесят ці восемдзесят гадоў насіў чалавек адно імя, а на магіле яму прысвоілі другое!..**

**Але ж быў час, мілыя мае браткі беларусы, калі пазнавалі па імені і нас, грэшных. Пачуеш: Міхась, Юрась, Тамаш, Сымон, Антось, Язэп, Лукаш, Змітрок, Пятрусь, Абросім — ну, ясна, з Беларусі таварышы! Свет увесь пазнаваў! І паважаў нас за гэта, што свае імёны мелі. Дык колькі ж яшчэ, браткі, будзем жыць не са сваімі прыроднымі імёнамі? Калі пачнём паважаць сябе? Думаю, што самая пара абмеркаваць гэта пытанне ўсенародна. Хочацца верыць, што народ, паразважаўшы пра сваё жыццё-быццё, успомніўшы свой шлях праз стагоддзі, запатрабуе вярнуць яму яго ўласныя, самабытныя, старадаўнія імёны — тыя, якімі нашы дзяды-прадзеды ганарыліся. І ў метрыках, і ў пашпартах, і ва ўсіх нашых афіцыйных дакументах беларускае імя трэба пісаць так, як яно гучыць па-беларуску, калі нават запіс робіцца і на рускай мове. Напрыклад, у пашпартах. Калі на беларускай старонцы пашпарта запісана Алесь ці Юрась, то і на рускай старонцы павінна быць гэтак жа, а не Аляксандр ці Юрый (дарэчы, гэтае Юрый па-беларуску і не вымаўляецца). Калі прыязджае ў нашу краіну англічанін Тэадор ці француз Жак, мы не запісваем на рускі лад Фёдар і Якаў, а запісваем Тэадор і Жак. Імя не мяняецца ад таго, што з лацінкі мы яго перапісваем кірыліцай. Чаму ж тады беларускае Юрась у рускім дубліканце дакумента ператвараецца ў Юрыя?**

**Пытанне не малазначнае, не дробязнае. Імя — гэта імя. Ёсць яно ў цябе сваё, спадчыннае, ад прадзедаў спакон вякоў *данесенае — дык і шануй* яго. Не цурайся і не выракайся! Не шануеш сваё імя — значыць, не шануеш сябе. Не шануеш сябе сам — хто ж цябе шанаваць будзе?**

**Нашы імёны — частка лексічнага складу нашай мовы. Іх формы ўтварыліся ў адпаведнасці з унутранымі законамі развіцця мовы, паводле асаблівасцей яе марфалогіі і фанетыкі. Таму так натуральна і гучаць яны ў беларускамоўным кантэксце, у патоку беларускага маўлення. А мы пачалі з законамі мовы не лічыцца. Гэта называецца: вучыліся, вучыліся і давучыліся. На такі ўзровень паднялі адукацыю ў сваім краі — што можам калечыць родную мову на ўсе спосабы. Пакуль прычакаем афіцыйнага права называць ва ўсіх дакументах сваіх дзяцей беларускімі імёнамі, захоўваючы гэтыя імёны і ў рускім напісанні, трэба рыхтаваць да гэтых перамен неабходную ідэйную і маральна-псіхалагічную глебу. Пачынаць трэба з прапаганды прыгожых і самабытных беларускіх імён у друку — у газетах і часопісах, у календарах, у школьных чытанках. Трэба выдаць слоўнік мужчынскіх і жаночых беларускіх імён — з этымалагічнымі даведкамі, са спасылкамі на імёны вядомых у гісторыі Беларусі людзей, з пераказам легенд і паданняў, з цытатамі з фальклору і мастацкай літаратуры. І хай ён выйдзе ў прыгожым афармленні і масавым тыражом.**

□

У СТАЛІНСКІЯ, затым у хрушчоўскія і брэжнеўскія часы супроць культуры 10-мільённага беларускага народа былі ўчынены многія злачынныя акцыі. У прыватнасці: 1930—1931 гады — першы жахлівы ўдар па самых выдатных кадрах вучоных АН БССР і па многіх лепшых пісьменніках Беларусі, 1933—1934 гады — другі ўдар па ацалелых ад першага навукоўцах, літаратарах і дзеячах культуры рэспублікі, 1936—1938 гады — трэці, татальна-вынішчальны ўдар, пасля якога на ніве нацыянальнай культуры засталіся адзінкі... У тым жа 1933 годзе быў прыняты новы правапіс беларускай мовы — у значнай меры пагібельны для яе прыроднай красы і сілы. У 1940 годзе на тэрыторыі былой Заходняй Беларусі многія раённыя газеты пачалі выдавацца на рускай мове — там, дзе яшчэ зусім нядаўна вялася крывавая барацьба супроць фашыстоўцаў-пілсудчыкаў за грамадзянскія правы для роднага слова. У 60-х гадах перавялі на рускую мову дзве абласныя газеты — гродзенскую і брэсцкую, а таксама шматлікія рэспубліканскія выданні: «Сельская газета», «Камуніст Беларусі», «Блакнот агітатара», «Сельская гаспадарка Беларусі», «Фізкультурнік Беларусі» і іншыя. Тады ж перавялі на рускую мову тысячы беларускіх школ. Ужо ў час перабудовы адкрылі ў Гродзенскім дзяржаўным універсітэце шматтыражку — і — на рускай мове! Праз усе гэтыя гады і дзесяцігоддзі на працу на пасады кіраўнікоў культурных асяродкаў (РДК, СДК, бібліятэкі і інш.) вельмі часта прымалі людзей, якія не ведалі беларускай мовы і былі зусім раўнадушнымі (каб не сказаць горш) да праблем беларускай нацыянальнай культуры.

Ідзе час, а ўся гэта шкодная для сацыялізму і інтэрнацыяналізму практыка публічна, на высокім узроўні так і не асуджана, кроку назад да справядлівасці, да Леніна, так і не зроблена. Усё яшчэ як бы сумняваюцца таварышы: а ці патрэбен ён, гэты крок? А ці не абыдзецца як-небудзь без гэтага?..

Не абыдзецца, дарагія-шаноўныя, не абыдзецца!..

□

**КАЛЕЧАННЕ нашай мовы, якое ўжо цягнецца дзесяцігоддзямі, адбываецца ў самых розных аспектах. Нявечыцца фанетыка і сінтаксіс, знішчаецца фразеалогія, засмечваецца лексіка, разбураюцца самабытна-адметныя граматычныя формы. Напрыклад, усё радзей сустракаеш так уласцівы нашай мове клічны склон: браце, пане, голубе, сынку... Або такая форма дзеясловаў загаднага ладу, як сядайма, гуляйма, паліма, бярэма, напоіма, або — дзеясловаў будучага часу: мецьмеш, рабіцьме, давацьмуць... А калі і навошта паперакручвалі тылова беларускія формы слоў, што абазначаюць назву жыхароў горада, мястэчка, вёскі? Было: мінчукі, пінчукі, случакі — стала: мінчане, пінчане, случане; было: магілёўцы, лагойцы, гомельцы — стала: *магіляўчане, лагайчане, гамяльчане;* было: балгарац і балгарцы — стала: балгарын і балгары...**

**У выніку ўсіх гэтых калечанняў-нявечанняў наша літаратурная мова страціла жывое натуральнае гучанне і стала падобнай на кепскі, непісьменны, калькаваны пераклад з рускай. Карыстацца такой мовай — усё адно што дыхаць забруджаным, удушлівым паветрам. Дык ратуйма яе, панове-братове, а то не мецьмем чым дыхаць свабодна!**

□

КОЛЬКІ розных таварыстваў існуе з даўніх ці не так даўніх часоў у нашай рэспубліцы!.. Усе яны, відаць, патрэбныя, раз людзі «згарбузавалі» іх, хаця і не ўсе працуюць так, як яно меркавалася. Але я думаю пра іншае — пра тое, што ўсе гэтыя таварыствы — і кнігалюбаў, і аховы помнікаў гісторыі і культуры, і барацьбы за цвярозы лад жыцця і іншыя — па сутнасці, адросткі ці філіялы ўсесаюзных. А вось таварыства, якое асабліва патрэбна іменна нашай рэспубліцы, можа быць, у першую чаргу патрэбна, — яго-то ў нас дагэтуль і няма! **У нас няма Таварыства беларускай мовы, Таварыства роднага слова,** — можна, думаю, назваць і так і гэтак. Таварыства, якое б мела свае ячэйкі ва ўсіх універсітэтах і інстытутах, тэхнікумах і вучылішчах, ва ўсіх школах, на заводах і фабрыках, у дзяржаўных ведамствах і грамадскіх установах і якое памагала б выхоўваць павагу і любоў да роднага слова, прапагандавала б гэта слова, паказваючы яго прыгажосць і моц-сілу, даводзіла б да свядомасці ўсіх жыхароў рэспублікі, што даражыць мовай народа і клапаціцца пра яе — грамадзянскі абавязак кожнага сумленнага чалавека!..

Дык ці не пара нам узяцца за стварэнне гэтага таварыства?..

(Працяг будзе).

*На хвалях эфіру*

## Спыніся, чалавек, падумай...

**Час быў позні, я сядзеў у заціхаючым горадзе за машынкай, калі раптам па радыё прагучалі вядомыя пазыўныя радыёстанцыі «Беларуская маладзёжная» і дыктар аб'явіў, што мы пачуем перадачу паводле «Песні пра зубра» М. Гусоўскага. Не думаў, што яна гэтак мяне ўразіць.**

**У перадачы ў выкананні акцёраў гучалі фрагменты з паэмы, песні, і раптам... Подых велічнага і славутага твора быццам прыпыніўся, і дыхнула на нас халоднай і суровай рэальнасцю:**

**— Хто такі Мікола Гусоўскі?**

**Пытанне на вуліцы да юных жыхароў горада. Аднаго, другога, пятага... І адказ... Яго не пачуў вядучы на вуліцах сталіцы Беларусі. Так ведаюць сваю спадчыну хлопцы і дзяўчаты, надзея народа, юныя інтэлектуалы XX стагоддзя напярэдадні трэцяга тысячагоддзя новай эры.**

**Другое пытанне:**

**— Чым чалавек адрозніваецца ад жывёлы?**

**Зноў доўгі час затрачаны на пошук адказу. Мы ўслухоўваліся ў маладыя галасы — то разгублена-няўпэўненыя, то жартаўліва-бесклапотныя, але адказу таксама не пачулі. Быў адзін адказ, які намацаў вірус агульнай хваробы — бяспамяцтва, якая пануе над роднай зямлёй:**

**— Ніколі пра гэта не думалі.**

**Сёння мы ўжо ні пра што не думаем, бо думаць няма часу, у век агульных катаклізмаў трэба спяшацца жыць. Старэнькі дзядок (пад дзевяноста гадоў), з якім я ў час адведак роднай хаты абавязкова ўлучаю хвілінку і сустракаюся, каб паразважаць пра нашу «жызнюмаценьку», як ён гаворыць, бо такіх разважлівых людзей сустракаеш вельмі рэдка, па-свойму растлумачыў мне адрозненне жывёлы ад чалавека: «Чалавек цяперака горшы за жывёлу, бо тая, не маючы сумлення, хоць баіцца палкі... Чалавек да сумленне цяпер згубіў, у бога і праўду не верыць і ніколечкі не баіцца...»**

**Ён не туляўся па студэнцкіх аўдыторыях і не сядзеў у чытальных залах бібліятэк, і таму, зыходзячы са сваіх ведаў зямных, так растлумачыў прычыну дэградацыі асобы, па-свойску выказаўся пра тую агромністую бездухоўнасць, якая сёння пануе над светам і змушае непакоіцца і біць у званы сумленных людзей планеты.**

**...Ізноў гучаць вечныя і мудрыя радкі з «Песні пра Зубра»:**

**— Час улавіць немагчыма.**
**Гонішся, смертны, за**
**страчаным часам, прыстанеш,**
**Не даганяеш, бо што**
**прамінула — не вернеш...**

**— Што вы ведаеце з гісторыі Беларусі?**

**Апошняе пытанне, якое зноў вяртае нас у нашу памяць. Маладыя людзі, якія, відаць, яшчэ нядаўна гарталі падручнікі па гісторыі БССР, гавораць пра гераізм у час Вялікай Айчыннай вайны, пасля блытаная памяць некаторых быццам вяртаецца недзе да пачатку нашага стагоддзя... І ўсё. Далей для нашых ведаў прасторы няма. Крутагаловая бездань аддзяліла нашу сённяшнюю памяць ад гістарычнай, без якой мы і існуем на гэтай зямлі, губляючы культуру народа і яго духоўнасць.**

**Як прысуд нам гучаць у перадачы словы таго вялікага чалавека, які столькі сіл аддаў вяртанню нацыянальнай самасвядомасці народа: «Абыякавы да мінулага не мае аніякай інтэлектуальнай перавагі над жывёлай і таму ёсць першы кандыдат на маральную, а затым і фізічную смерць. Усё адно, хто гэта — чалавек ці народ».**

**Так сказаў Уладзімір Караткевіч.**

**Слухаеш перадачу і становіцца страшна! Няведанне людзьмі свайго мінулага ў канчатковым выніку прыводзіць да самавынішчэння народа, які духоўна самааднавіцца ўжо ніколі не зможа. Спыніся, чалавек, падумай: куды ты ідзеш і што нясеш за плячыма, мудрэйшы з мудрэйшых у нашым Сусвеце?**

**Слухаеш перадачу і тлее невялікая надзея: можа, ёсць выйсце, і мы нарэшце спынімся перад той мяжой, за якой раскінулася вечнае небыццё? Можа, і ёсць... Калі выходзіць у эфір такая перадача — значыць ёсць людзі, якія ўсведамляюць увесь драматызм сённяшняй сітуацыі.**

**Шчымлівым болем перапаўняе душу перадача, якую падрыхтавалі аўтар С. Дубавец, рэдактар В. Сямашка, гукарэжысёр У. Сакульскі, рэжысёр С. Сцефановіч, акцёры А. Падабед і Ю. Авяр'янаў.**

**Спыніся, чалавек! Падумай...**

**Вячаслаў ЛАПЦІК.**

## Паэзія

**Марк СМАГАРОВІЧ**



### Кіпелі на вогнішчы чайнікі

Кіпелі на вогнішчы чайнікі,
Жыла ў буданах маладосць.
Паўзлі падхалімы ў начальнікі,
Крычалі, што ўсё у нас ёсць.

Тады мы былі піянерыяй,
Пад бубен чаканілі крок,
А вораг заўзяты — Берыя —
Дзейнічаў пад шумок.

Царом змагароў непакораных,
Іх зганьбіўшы аўтарытэт,
Адвозілі «чорныя вораны»
Пад сховам начы на той свет.

І ўсё гэта Сталінам велена —
Уяўленым сейбітам ніў.
Заветы вялікага Леніна
Ён ценем сваім засланіў.

Дык вось якім штурхалі буферам
Цягнік наш да мэты ў той час!..
І ўжо Тухачэўскіх і Блюхераў
Не зможа забыць ніхто з нас.

### Балада

Стаіць скульптура ля ракі,
Над ёю купал неба сіні:
Глядзіць дзяўчына з-пад рукі,
Глядзіць кудысьці ў далячыні.

Квітнее каля ног яе
Вянок з жывых і яркіх кветак.
А часам хмара наплыве,
Шуміць, хвалюецца палетак.

Сюды спяшалася яна
Спаткацца са сваім любімым.
Ды раптам зарывам вайна
Заслала далягляд Радзімы.

Тут развіталіся яны.
Пайшоў ён пыльнаю дарогай.
Пайшоў ён, каб пасля вайны
Тут з ёй сустрэцца з перамогай...

Пажар вайны даўно пагас
І неба мірнае над краем.
Дзяўчына любага ўвесь час
З вайны мінулае чакае.

І ў спёку тут, і ў халады
Глядзіць яна ўжо з п'едэстала.
Няма яго. Ідуць гады.
Дзяўчына каменнаю стала.

### Чаго не трэба...

Не парушаю цішыню,
Як і належыць чалавеку.
Лячу то ўніз, то ўвышыню
Па схіле атамнага веку.
Мір на планеце трэба ўсім,
І чыстае паветра трэба, —
Не трэба болей Хірасім,
Не трэба «соівага» неба.

●

Быў дождж. Былі і бліскавіцы.
Раўчук жыцця пачаў плысці.
І доўга плыў ён.
Ды ў лагчынцы
Спыніўся.
І пачаў гнісці.
Але пасеяў дзень наш новы
Зярняты ў свежую раллю.
Час наступу перабудовы,
Зарою ахінуў зямлю.

---

**Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**



## БАЛАДЫ ШЧАСЛІВАГА МАЛЕНСТВА

— Вы адкуль родам?
— З вёскі.
— О, вы яшчэ не ўяўляеце, які вы багаты.
(З размовы з адным чалавекам).

### Замест аўтабіяграфіі

Мой прадзед быў скрыпач,
Ён выкрасаў і смех, і плач.

А дзед у пчолах знае толк,
Як сёння рэдка знае хто.

І ў бацькі рэдкі дар:
Сваёй зямлі ён гаспадар.

А я — ні граць, ані — араць,
Аж вусцішна душы.

— Не трэба гаварыць,
Пра нас ты раскажы...

### Кватарант

...А забралі яго апоўначы.
Потым пісьмы былі.
З Поўначы.
Да ўсіх ён па-бацьку. І ўсім паклоны.
Твар не прыпомню. Голас помню ягоны.
Голас вясёлы такі, лагодны...
Быў ён у хаце ўсім, як родны:
Вечарам кніжкі чытаў уголас,
Сыну цукеркі прывозіў з воласці,
Помніцца неяк у лютым
(Ой, маразы былі лютыя!)
Пагрукалі двое апоўначы...
Потым пісаў ён нам.
З Поўначы.
Цёпла пісаў, як родным,
Ні слова пра долю трудную...
Нам сказалі, што кнігі яго — шкодныя,
І цукеркі яго — атрутныя.

### Міколава вада

— Чаму Міколава вада?
— Ён што святы, Мікола?
— Мікола — гэта школа!
Цяпер няма такіх.
Шкада.
Капаў калодзежы ўвесь век
І быў ён першы чалавек
У нашым наваколлі.
Не,
нездарма казалі колісь:
«Калі Міколаў твой калодзеж —
Ваду вазі на продаж».
— Чакай, чакай, стары,
Ты чалавека не дуры:
Пры чым тут... школа?
Душою чысты быў Мікола,
А значыць,
і — святы.

### 00-59 МГА

Бацьку

Я ў магію лічбы ніколі не верыў,
Я лічбаў ніколі не помніў
І тэлефоны каханых заўжды забываў.
Чаму ж гэты нумар
Так доўга я помню,
Чаму ён гучыць таямніча,
Нібыта пароль ад маленства,
У якое я часам апошнім
Вяртаюся часта?
А гэтыя лічбы
Са мною ўжо будуць да скону,
Хіба іх забудзеш,
Калі нават зайцы ўсяго
Прыбяседдзя
Ведалі іх назубок.
І, запынiўшы «газон» твой
На пыльнай дарозе,
То ў лесе зялёным,
То ў полі жытнёвым,
Заўсёды прасілі:
«Вось хлеб табе.
Хлопцам сваім перадай».

### Пенсія

Гэты дзень быў заўсёды урачысты,
Баба Алёна апраналася ў чыстае.
А недзе ў полудзень у хату заходзіў
паштар аднарукі Птушка Іван.
Ён папраўдзе меў нешта ад птаха,
чорнага птаха з крылом перабітым.
Худы і высокі, ён доўга
таптаўся ў парозе,
і, пакашляўшы, неяк казаў вінавата:
—Вам пенсія, цётка, за сына...
Баба маўкліва падпіс стаўляла,
Баба маўкліва на стол накрывала.
Выпіўшы поўную шклянку —
яе брыгадзірскай чамусьці ўсе называлі —
Птушка шумна, са смакам,
нюхаў духмяную лусту хлеба ржанога,
а закусь ніколі не кратаў.
І па-змоўніцку мне падміргнуўшы,
прасіў па-сяброўску:
«Скруціў бы ты, братка, цыгарку салдату...»
Хутка ад сіняга дыму
я твар паштара ўжо не бачыў,
а чуў толькі голас,
глухі і слязлівы:
— Вайна — ненажэрная сука.
— Ну чаму я жыву, аднарукі,
чаму Хведзька ляжыць на чужыне,
а ты век дажываеш без сына?
Скончыўшы горкую споведзь,
ён плакаў заўсёды няўцешна,
а баба са скрухай глядзела
кудысьці далёка-далёка,
і гладзіла Птушку ласкава
па чорнай яшчэ галаве:
— Не плач, Іванька. Не плач, дзіцёнак...
Гэты дзень быў заўсёды урачысты,
Баба Алёна апраналася ў чыстае.

### Карані

Уладзіміру Бутрамееву

Мы зноў аб галоўным,
Аб кроўным,
Мы зноў пра свае карані.
Гартаем Бялькевічаў слоўнік,
Нібыта гасцім у радні.
Нібыта уранні
Прыехалі сяняні
І смачна-зацірку ядзім,
Як некалі прашчур Радзім.
Сядзім і гамонім аб нечым —
Зноў душы спагадаю лечым,
І думы —
Аб родным,
Аб вечным.

---

## Мартыралог Беларусі: факты і імёны

# ПАЙМЕННА ЎСІХ

Прачытала аб тым, што не толькі неабходна ўстанавіць колькасць, але і назваць паймення ўсіх, хто загінуў у час сталінскіх рэпрэсій, і горка задумалася. Слова «паймення» прымусіла мяне зноў напісаць у «ЛіМ» і прыгадаць імёны загінуўшых аднавяскоўцаў.

Гарашэвіч Вацлаў Эдуардавіч,
Гарашэвіч Ганна Міхайлаўна,
Гарашэвіч Станіслаў Вацлававіч,
Пашкоўскі Аўгуст Антонавіч,
Пашкоўскі Баляслаў Аўгуставіч,
Ігнатоўскі Валянцін Усеваладавіч,
Ігнатоўскі Фёдар Усеваладавіч,
Більдзюкевіч Антон,
Левашкевіч Юзік,
Альфяровіч Мар'ян,
Селязнёў Леанід.

На жаль, не памятаю ўсіх імёнаў па бацьку. Але, магчыма, іх памятае пісьменніца Ядвіга Бяганская, бо сёстры Юзіка і Антона сябравалі з сёстрамі Бяганскімі. У архіве знаходзіцца адна справа на ўсіх гэтых людзей. Усе яны былі арыштаваны ў лістападзе—снежні 1936 года, толькі маму арыштавалі 10 сакавіка 1937 года. І ўсе яны загінулі ў канцы верасня або ў пачатку кастрычніка 1937 года. Мае бацькі, Гарашэвічы, і Пашкоўскі А. А. былі людзьмі пажылымі, а астатнія — маладыя хлопцы. Некаторыя з іх нават яшчэ не паспелі ажаніцца.

Калі ў 1958 годзе мяне выклікалі ў КДБ, каб аб'явіць аб рэабілітацыі бацькоў і брата, са мной гутарыў таварыш, які асабіста разбіраўся ў гэтай справе. Вось што ён мне сказаў: «Залатыя хлопцы! Ваш брат працаваў над вельмі цікавым праектам, ды і ўсе яны маглі прынесці вялікую карысць. Вельмі, вельмі шмат страціла наша грамадства». Гэтыя словы запалі мне ў душу, я памятаю іх і буду памятаць да канца сваіх дзён. А цяпер вось ёсць магчымасць вярнуць добрае імя маім бацькам і аднавяскоўцам.

**Ганна Вацлаваўна АПАНОВІЧ.**

в. Сычы,
Нясвіжскі раён.

# ТРОЕ З АДНОЙ КВАТЭРЫ

**У гады рэпрэсій я быў малым хлапчуком, але па расказах маці добра ўяўляю сабе падзеі 37-га, уяўляю той страх, які панаваў у сем'ях з надыходам ночы. У Мінску на другім паверсе дома № 4 па вуліцы Свярдлова, у камунальнай кватэры жылі наша сям'я, далей — бяздзетная пара Вольга і Валодзя, будучы доктар філалагічных навук і прафесар Белдзяржуніверсітэта Любоў Фіглоўская, партыйны работнік з паволжскіх немцаў — адзінокі пажылы чалавек па прозвішчы Кельц. Дык вось, у 1937 годзе з гэтай нешматлікай грамады жыхароў другога паверха спярша ўзялі майго бацьку, потым Кельца, потым Валодзю. Ніхто з іх дадому ўжо не вярнуўся.**

**Што гэта былі за «ворагі народа», сведчыць прыклад майго бацькі. У 1922 годзе сын беднага селяніна з мястэчка Любча Навагрудскага ваяводства, 23-гадовы Міхаіл Дзмітрыевіч Каўцэвіч за дзеянні, накіраваныя на ўз'яднанне Заходняй Беларусі з Савецкай Беларуссю, быў вымушаны ўцячы з тагачаснай Польшчы ў Чэхаславакію. Там ён паступіў вучыцца ў электрамеханічны інстытут у Празе.**

**Нягледзячы на тое, што чэхаславацкія ўлады забаранілі**



На здымку, які даслаў нам разам з лістом А. Каўцэвіч, занатаваны беларускія пісьменнікі разам з беларускімі студэнтамі ў Празе (1927 г.). У першым радзе (злева направа): Міхась Чарот, Цішка Гартны, Янка Купала, Міхась Зарэцкі, Мікола Шыманка. У другім радзе: Алесь Карповіч, Антон Жук, Лявон Шавейка, Міхась Каўцэвіч, Сазановіч-Орса, Пётр Орса і Юрка Муха.

**студэнтам-іншаземцам займацца палітычнай дзейнасцю, бацька стаў членам «Марксісцкай групы» і старшынёй «Саюза студэнтаў — грамадзян БССР». Галоўнай мэтай «Саюза» было дапамагчы студэнтам-беларусам вярнуцца ў Савецкую Беларусь пасля заканчэння вучобы. Асаблівы ўплыў на работу «Саюза» зрабіў прыезд у 1927 годзе ў Прагу беларускіх пісьменнікаў і грамадскіх дзеячаў М. Чарота, Янкі Купалы, М. Зарэцкага на чале з Д. Жылуновічам (Цішкам Гартным). На памяць аб гэтай падзеі беларускія пісьменнікі сфатаграфаваліся са студэнтамі, якія рашылі звязаць сваё жыццё з роднай зямлёй — Савецкай Беларуссю. Угледзьцеся ў гэтае фота: практычна ўсе, хто на ім занатаваны, загінулі ў часы сталіншчыны, а Г. М. Мухноўскі, адзін з будучых кіраўнікоў КПЗБ, цудам застаўся ў жывых і ўжо потым усе гэтыя падзеі апісаў у сваёй кнізе «Шляхі-дарогі».**

**У Чэхаславакіі бацька ажаніўся і, закончыўшы аспірантуру ў 1930 годзе, прыехаў у Мінск, каб усе сілы і веды аддаць будаўніцтву сацыялістычнай Беларусі.**

**21 жніўня 1937 года мой бацька, вучоны сакратар фізіка-матэматычнага інстытута Акадэміі навук БССР, быў арыштаваны на парозе свайго дома, куды ён вярнуўся разам з сям'ёй пасля летняга адпачынку. Гэта быў апошні раз, калі мы з маці бачылі яго.**

**У 1957 годзе ён быў пасмяротна рэабілітаваны. Нам выдалі пасведчанне аб яго смерці. Але ў тое, што бацька памёр ад інфаркта міякарда ў 1944 годзе, як гаварылася ў пасведчанні, у нашай сям'і ніхто не верыў.**

**Наступіў час перабудовы, і я зноў звярнуўся ў Ваенную калегію Вярхоўнага Суда СССР, а потым у КДБ БССР. І вось — дакумент: бацька па пастанове НКУС БССР ад 25 верасня 1937 года расстраляны ў невядомым месцы 27 верасня 1937 года за «дзяржаўнае злачынства». Сутнасць «злачынства» ў тым, што ў час вяртання з Чэхаславакіі праз тэрыторыю Польшчы ён нібыта быў завербаваны (!) польскай дэфензівай. На другім (з двух) допытаў прызнаўся, што з'яўляўся польскім шпіёнам. Як гэтага «прызнання» ў тыя часы можна было дабіцца, мы сёння ведаем.**

**Мы з маці ў поўнай меры зведалі, што такое быць членам сям'і «ворага народа». Не, нам яшчэ пашанцавала: мы не былі ў лагеры, засталіся жывыя і можам сёння расказаць праўду пра адну са шматлікіх ахвяр сталіншчыны — майго бацьку М. Д. Каўцэвіча.**

**А хто ўспомніць пра Кельца, пра Валодзю і шмат такіх, як яны? Дзе і як яны загінулі?**

**А. КАЎЦЭВІЧ,**
**кандыдат тэхнічных навук.**
г. Мінск.

## З паэтычнага сшытка

ЗЯНОН

# ВЕРШЫ РОЗНЫХ ГАДОЎ

### Хварэю на сэрца

Барвянае сонца садзіцца за лес.
Вось бераг высокі вялікай ракі.
Без крылляў лячу.
Мне трэба дадому.
Вось ён! Вось мой дом!
О шчасце!
Спускаюся ўніз на зялёным двары,
Дзе кожная траўка знаёмая мне.
Вось тут я! Вось я тут!
Стаю ля дзвярэй і радасць мяне
напаўняе.

Але што гэта?
У доме маім незнаёмыя людзі.
Гаспадараць!
Сядзяць за маім сталом!
Паздымалі мае абразы!
П'юць гарэлку, крыўляюцца і
шваргочуць,
І я не разумею іх!

Яны рагочуць з мяне.
Тыцкаюць пальцамі.
Паказваюць азадкі.
Шыпяць, як шалёныя каты.
А адзін, чырвоны ад злосці,
Кінуў у мяне нажом
І трапіў у сэрца...
Мне так забалела,
Што я прачнуўся ад болю
І не магу забыць!
1981 г.

### Нехта светлы

Душна.
Пэўна душыць само паветра
У камеры без акон.
Галаву абцяжарылі словы,
А плечы — работа.
Ачышчваю памяць.
Але не магу збавіцца ад цытат,
Хоць разумею бязглуздасць.
Імкнуся спачыць.
Але ніяк не ўсцягну на гару камень,
Каб іншы спусціў яго ўніз.
Хоць бы адно вакно,
Каб зменшала духата.
Хоць бы шчылінка,
Каб бачыць прастор!
Ноччу, калі ліпкая цемра здратавала
зрок,

А словы сціснулі горла,
Каб нічога не выйшла з душы,
Кінуўся на сцяну.
Думаў мур праламаць нянавісцю.
Але мур не заплакаў маёй крывёй —
Злосны рогат прабег сталяваннем.
Гэта добра.
Ісціна — тое, што высмейваюць дурні.
Раптам з гурту
Устаў чалавек; як і ўсе,
Толькі з светлым абліччам.
Ціха-ціха, лагодна прайшоў ля мяне
праз сцяну,

Як праз дым,
І ніколі ўжо не вярнуўся.
1985 г.

### Вяртанне Іванкі

«Іванька малодзенькі
Ідзе невясёленькі...»
З народнай песні.

Іванка вяртаўся.
Як здоўжыўся шлях над гарамі.
Дзе Вы, бацька мой любы,
І маці мая любая,
Што на заводзе футаралаў
Фарбуе тэлевізары...
Як гайдаецца цынкавы мой самалёт
Над Дзвіной,
Як воблакі серабрацца...
А вунь у садочку дзяўчына мая.
А вунь на парозе матуля мая.
А вунь каля брамы мой бацька стаіць...
Не спаткай, не глядзі на мяне да
світання.

Не кладзі мне
чырвоныя кветы.
Лепш хай прыме труну
той рабы ваенкам.
Мне ж яго не дастаць з таго свету.
Паслухайма...
Як чыркаюць вераб'і на могілках
У бэзавых кустах,
Як лісце шуміць у таполі.
Там далёка ў пустыні сухой,
Дзе вецер гарачы на волі,
Плача Фатх і бедная Сулейма
Над сынам сваім у юдолі.
Праклінае мяне ў труне.
Праклінае мяне ў палёце.
Праклінае мой край,
Праклінае народ мой харошы.
Зірні...як ластаўкі ў небе лунаюць
Над правадамі.
Напэўна заплацяць Табе за мяне.
Талоны на грэчку і льготы...
— Кончаем обряд, — ваенком
загадаў. —
Он долг свой отдал.
Он умер, как все патриоты.
1988 г.

### Старажоўка*

— Как пройти в гостиницу «Белорусь»?
— Прямо через кладбище.
З гаворкі двух беларусаў.

Перад захадам чырвоным,
На барвяным лісці дуба
Крывянее бляск халодны.
Ходзяць людзі між сквалоў
Задуменна у маўчанні.

## ДНІ КУЛЬТУРЫ ГРОДНА У БЕЛАСТОКУ

З панарамай культурнага жыцця Гродзенскай вобласці на працягу тыдня будуць знаёміцца жыхары Беластоцкага ваяводства ПНР. Тут 21 лютага адкрыліся Дні культуры гэтай беларускай вобласці, з якой працоўныя гэтага польскага рэгіёна ўжо шмат гадоў падтрымліваюць дружалюбныя сувязі.

Са сваім мастацтвам гледачоў пазнаёміць ансамбль песні і танца «Белыя ружы», у многіх раёнах ваяводства адкрыюцца розныя выстаўкі. У Беластоцкай галерэі сучаснага мастацтва адкрыта экспазіцыя беларускай народнай творчасці, у будынку мясцовай філармоніі дэманструюцца работы гродзенскіх мастакоў. Вялікую цікавасць гледачоў выклікае выстаўка-продаж дэкаратыўнага шкла вядомага шклозавода «Нёман». Адбудуцца таксама ярмаркі беларускіх кніг, літаратурныя вечары беларускіх пісьменнікаў, выступленні вакальных, танцавальных ансамбляў і тэатральных калектываў Гродна. ТАСС.

## І КНІГА — ЗБРОЯ

Зброяй можа стаць не толькі аўтамат або граната, але і добрая кніга. Нашым хлопцам у жорсткіх баях з душманамі дапамагалі «Аповесць пра сапраўднага чалавека» Барыса Палявога, «Чапаеў» Дзмітрыя Фурманава, «Як гартавалася сталь» Мікалая Астроўскага... Аб гэтым гаварылі Уладзімір Грыбок, Уладзімір Пякарскі і іншыя воіны-інтэрнацыяналісты, якія працуюць цяпер у вытворчым аб'яднанні па выпуску працяжных і адразных станкоў імя С. М. Кірава, на сустрэчы з членамі заводскага клуба аматараў кнігі «Полымя».

Думка «афганцаў» была аднадушнай — у нядоўгія гадзіны адпачынку ім вельмі не хапала хвалюючых кніг, мастацкіх і дакументальных, у якіх бы шчыра і ярка расказвалася аб працоўных і ратных выпрабаваннях, што выпалі на долю моладзі.

На сустрэчы выступіў пісьменнік Мікалай Чаргінец — непасрэдны ўдзельнік падзей у Афганістане. Ён расказаў аб сваёй новай рабоце — рамане «Сыны», які прысвечаны гэтай тэме. Кніга ў хуткім часе выйдзе ў свет масавым тыражом.

У. ГЛОД,
кар. БЕЛТА.

## АЛЬМАНАХ БЕЛАРУСКАЙ ПАЭЗІІ

У Беластоку выйшаў чарговы, чацвёрты, зборнік літаратурнай групы «Белавежа». У ім змешчаны творы аўтараў, якія пражываюць у Польшчы і пішуць на беларускай мове, створаныя за апошнія пяць гадоў. Гэта вядомыя літаратары — Надзея Артымовіч, Зофія Сачко, Віктар Швед, Ян Чыквін і іншыя.

Адначасова ў выдавецтве падрыхтавана двухмоўная анталогія беларускай паэзіі «Гасцінец».

(ПАП — для БЕЛТА).

## ПРЭМ'ЕРА У «ТЭАТРЫ СЛОВА»

У «Тэатры слова», які працуе ў рэспубліканскім Доме работнікаў мастацтва, у выкананні М. Казініна прагучала п'еса «Саркафаг» У. Губарава. У гэтым творы, як вядома, узнаўляюцца трагічныя старонкі аварыі на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі.

П. ГАРДЗІЕНКА.

# Не інтэлігентна ўсё гэта!

(Пачатак на стар. 3).

Вам чаго баяцца? Адны баяцца страціць выгодныя крэслы, другія — шчодра аплачваемыя пасады, трэція — імя. А вы? Ах, вы змагар за маральнасць? Тады выбачайце...

Далей аўтар артыкула піша: «19 кастрычніка ў Доме кіно сабралася невялікая група творчай інтэлігенцыі». Няпраўда! Сабраліся прадстаўнікі 3-х (трох!) творчых саюзаў, газеты «Літаратура і мастацтва», Мінскага гарадскога аддзялення Савецкага фонду культуры. Гэта, выбачайце, хіба не грамадскасць? Па Бумажковай — не, проста «невялікая група» ішла і выпадкова аказалася ў Доме кіно.

«Яны, ці бачыце, могуць беспакарана прыніжаць годнасць апанентаў». А якое ў вас права прыніжаць годнасць двух з шэрагу найбольш яркіх, таленавітых аўтарытэтаў беларускай інтэлігенцыі? Не інтэлігентна атрымоўваецца, Т. Бумажкова...

Далей — болей. «Людзі прысвойваюць сабе права гаварыць адзін пра аднаго то як пра «сумленне народа», то як «пра героя перабудовы» і г. д., прыадкрылі сваё сапраўднае аблічча». Дазвольце, Т. Бумажкова, зрабіць адступленне. Пра «аблічча»...

Вам, пэўна, невядома, што ў гады вайны лейтэнант В. Быкаў пасля заканчэння ў 1943 годзе Саратаўскага артылерыйскага вучылішча быў накіраваны на «перадок» — у першы рад акопаў, туды, дзе забіваюць ці не кожную хвіліну. Не ў аператыўны тыл, нават не ў штаб палка, а ў самы першы ад гітлераўцаў акоп. Вы сабе можаце гэта ўявіць? Можа, вам невядома і тое, што на перадавой баец заставаўся жывым, не параненым і не забітым два-тры дні, камандзір узвода — тры-чатыры, камандзір роты — тыдзень-другі. В. Быкаў камандаваў узводам. Вы, пэўна, не чулі, што імя лейтэнанта Быкава высечана на брацкай магіле пад Кіраваградам — нямецкія танкі «прасавалі» поле бою, ганяючыся за кожным нашым байцом, дабіваючы ўсіх, хто яшчэ быў жывы. Цяжка паранены В. Быкаў выпадкова ацалеў — танкавая гусеніца падмяла пад сябе крысо камандзірскага шынялю...

Лёс збярог нам Быкава, і мы ўдзячны лёсу не толькі за яшчэ адно зберажонае жыццё, а і за тое, што падараваў народу сапраўдны талент. На жаль, сёйтой не даражыць гэтым і гатовы падкінуць абярэмца ламачча ў вогнішча, на якім ў даўнія часы спальвалі ўсіх пакутнікаў, нязгодных з агульнапрынятымі поглядамі. Напэўна, гэтым «вогнераспальшчыкам» мала цкавання В. Быкава ў шасцідзесятыя гады. А, можа, патрэбна новае «вогнішча»? Хто яго ведае...

Імя Героя Сацыялістычнай Працы, лаўрэата Ленінскай прэміі В. Быкава даўно пераступіла межы нашай Айчыны — яго кнігі «Трэцяя ракета», «Сотнікаў», «Знак бяды», «Воўчая зграя», «Кар'ер» і іншыя выдаюцца ў дзесятках краін: у Польшчы, ГДР, Заходняй Германіі, ЗША, Кітаі, Японіі і г. д. Дзякуючы В. Быкаву народы Лацінскай Амерыкі, Аўстраліі, Філіпін даведаліся, што ёсць такі народ — беларусы, ёсць такая краіна — Беларусь. Чалавек з сусветным імем, гонар і сумленне нацыі, чалавек, які любіць свой народ і сваю зямлю, Васіль Быкаў падвяргаецца астракізму. І дзе? На бацькаўшчыне!..

Такое вось аблічча Васіля Быкава — апаленае вайною, знясіленае і змучанае ад болю загінуўшых у баі сяброў, ад асколкаў крупаўскай сталі, ад творчых пакут і незаслужаных, горкіх крыўд... Дзе ж ваша сумленне, Т. Бумажкова? Ці яно ў вас маўчыць, агароджанае каменнымі глыбамі застойных гадоў?

«Аблічча» Алеся Адамовіча таксама добра вядомае: падлеткам стаў партызанам, як і В. Быкаў, абараняў Айчыну са зброяй у руках. Яго з Д. Граніным «Блакадная кніга» абышла ўвесь свет, выдавалася велізарнымі тыражамі ў нашай краіне. А яго публіцыстыка — вострая, канструктыўная, злабадзённая, не падобная на чыюнебудзь іншую... І ў дадатак Алесь Адамовіч — вучоны, член-карэспандэнт Акадэміі навук, прафесар.

Цяпер пра фільм А. Адамовіча і Э. Клімава «Ідзі і глядзі», які па ацэнцы Т. Бумажковай ішоў пры «паўпустых залах». Дзіўна проста, якая Т. Бумажкова дападная: і ў Доме кіно, калі ствараўся «Мартыралог Беларусі», была, і ў кінатэатрах Мінска назірала «паўпустыя залы», і на Маскоўскім кінафестывалі, калі фільм «Ідзі і глядзі» «прыз сарваў», прысутнічала, і ў Доме палітасветы рабочых слухала, калі тыя дружна «атакоўвалі» В. Быкава і А. Адамовіча, і з успамінамі Расціслава Леанідавіча знаёма. Зайздросная дасведчанасць і ўсюдыіснасць!

Поспех антыфашысцкага, антываеннага фільма «Ідзі і глядзі» прадвызначыў вылучэнне яго на атрыманне Ленінскай прэміі. І зноў — радавацца трэба было б: і аўтар з Беларусі, і фільм пра беларускі народ, і аншлаг у кінатэатрах. Сам бачыў чэргі ля касаў кінатэатраў (дачка таксама дзве гадзіны ў чарзе прастаяла). Людзі імкнуліся пабачыць фільм, які здабыў агульнасаюзную і сусветную вядомасць. Фільм папярэджвае чалавецтва пра небяспеку фашызму, пра ўсеагульнае знішчэнне людзей у полымі вайны, пра чалавеканенавісніцтва гітлераўцаў і іх памагатых. Фільм не пра тактыку партызанскіх атрадаў, не пра ліхіх лясных камбрыгаў, не! Пра падлетка, які ссівеў у свае чатырнаццаць гадоў, пра людзей, што зведалі на сабе ўвесь жах фашызму, бесчалавечнасці.

«Ідзі і глядзі» адзначаны прызам фестывалю, высока ацэнены і гледачамі, і ў друку, закуплены дзесяткамі краін. І сорамна, балюча чытаць такія радкі опуса Т. Бумажковай: «Фільм, тым часам, тэрмінова штурхнулі на Маскоўскі міжнародны фестываль». І далей: «Ідзі і глядзі» прыз-такі сарваў і хоць у нашай краіне ішоў пры паўпустых залах, за мяжою, гавораць, сям-там меў страшэнны поспех».

«Штурхнулі». «Прыз-такі сарваў»... Як гэта ўсё нязграбна і непрыгожа выглядае! Няўжо Т. Бумажкова і «иже с нею» не ведаюць пра жорсткі адбор твораў мастацтва на фестывалі, конкурсы? Вось так узяў і «штурхнуў». Узяў і «прыз сарваў». Не інтэлігентна ўсё гэта!

«Многія рабочыя, — працягвае Т. Бумажкова, — у сваіх выступленнях з горыччу пыталіся аб тым, хто даў права А. Адамовічу зневажаць горад Мінск, абзываючы яго «антыперабудовачнай Вандэяй»... Не ведаю, чаго тут больш — прытворнага наіву ці злога ўмыслу. Хіба не ясна, што не думаў А. Адамовіч «зневажаць» і «абзываць» Мінск! Пры чым тут паўтарамільённы Мінск, пры чым тут рабочы клас, Т. Бумажкова? Не пра іх гаворка!

Мяне, чалавека, які шмат гадоў праслужыў у арміі, асабліва здзівілі сентэнцыі Т. Бумажковай па праблемах ваенных дактрын — і ў гэтай сферы аўтар артыкула лічыць сябе дасведчаным. У чым жа абвінавачваецца А. Адамовіч? Гадоў пяць-шэсць назад Алесь Міхайлавіч дазволіў сабе ўсумніцца ў неабходнасці дактрын, заснаваных на стварэнні «буйнамаштабных армій, аснашчаных... тэхнікай, прызначаных для вядзення наступальных аперацый». Дактрына гэтая была народжана ў гады «халоднай вайны» і гонкі ўзбраенняў. У новай палітычнай абстаноўцы, якая склалася ў свеце пасля Хельсінкскай нарады, гэтая дактрына, разумеецца, састарэла. Ужо ў той час было ясна, што прымяненне ў вайне нават часткі ракетнаядзернага патэнцыялу прывядзе да «ядзернай зімы», а ў рэшце рэшт — да гібелі чалавецтва. Патрэбны былі новыя канцэпцыі ў пытаннях будаўніцтва ўзброеных сіл. Адным з тых, хто прапанаваў перагляд ваенных дактрын, быў А. Адамовіч. Шчыра скажам, не ўсе вайскоўцы ўхвалілі погляды А. Адамовіча на праблемы вайны, міру, арміі. Больш таго, у армейскім друку А. Адамовіча нямала крытыкавалі. Вобраз ворага ў тыя гады дзейнічаў бездакорна! І трэба было камусьці, як гэта зрабіў некалі вялікі «абстрактны» гуманіст Леў Талстой — «Не магу маўчаць!» — закрычаць: «Людзі, спыніцеся!» Я далёкі ад параўнання Л. Талстога і А. Адамовіча, але, тым не менш, — голас беларускага пісьменніка быў пачуты ва ўсім свеце і падтрыманы, хоць яшчэ не было красавіка восемдзесят пятага года. Нам бы ганарыцца і радавацца — беларус стаў вядомым вяшчальнікам міру і ў краінах Еўропы, і ў Амерыцы, і ў Азіі, а яму ярлык пацыфіста павесілі. Можа, у А. Адамовіча не ўсё «падыходзіла» пад стэрэатыпы тых гадоў, пад адстоеныя каноны, можа, не заўсёды ён быў дакладны ў фармуліроўках, можа, і памыляўся ў сім-тым, але ў галоўным ён меў рацыю — свет трэба было ратаваць не колькасцю ракет, танкаў і ядзерных боегаловак, а розумам, бо на чаргу паўсталі агульначалавечыя праблемы. «Сёння мы ўступілі ў этап, — гаварыў М. С. Гарбачоў летась

Ходзяць кожны сам сабе —
Пэўна восень настае
На магільніку народным,
Дзе калісьці Мнішка Ева
У семнаццаць год няпоўных
Тут знайшла свой супачынак.
Тры радкі ў мінулым краю
Не такая ўжо раскоша —
Эпітафія ў граніце.
Пабурылі, параўнялі,
Сцежкі, ходнікі паклалі,
Спі спакойна, Мнішка Ева,
На сваёй зямлі пакутнай.
Тры радкі адзін я помню.
А памру —
І ўсе забудуць
Пра дзяўчыну каля млыну,
Як калісьці хтосьці, нехта
Забываўся пра Скарыну,
Пра паэтаву сканчыну,
Пра магілы продкаў слаўных
(Не ў пашане у дзяржаўных).
Млын Мянеска на Пярэспе,
Валатоўка на узгорку
Сцеражэ тваю дамоўку.
Зруйнавалі Старажоўку.
Спі сабе пад тратуарам,
Пакуль ява стане марай,
Ева Мнішка,
З лёгкай парай! —
Цеплатраса побач ляжа.
Раскапаюць, адкапаюць,
Крыж нацельны разламаюць,
Косці, рэбры раскідаюць,
За бутэльку чэрап сплавяць
Дзе-якому снобу-падле.
Засмяешся на паліцы
Сярод мэблі рэтраграднай.
Прадаюцца косці Евы!
Гэй вы, хлопцы-камсамольцы,
Аўкцыён на Старажоўцы!
Гэй вы, хлопцы-незабойцы,
Пагандлюем барахольцам!
Бот салдацкі,
Лямкі з ранца
За трусы — амерыканцам.
Ордэн славы, медалі —
Немцы з ходу узялі.
Прадаюцца нават кулі,
Што па сэрцу паласнулі...
Дзе калісьці дом Мянеска
Красаваўся каля места,
Перад захадам чырвоным,
На барвяным лісці дуба
Крывянее бляск халодны.
Дзень канчаецца пагодны.
Ужо цемра настае.
Цемра — цемра без прасвету...
1987 г.

---

Старажоўка — мясціна ў Мінску, ля высахлай цяпер рэчкі Пярэспы, дзе згодна легендзе стаяў млын волата Мянеска, што заснаваў горад. З канца XVIII — пач. XIX ст. на Пярэспенскай гары існавалі праваслаўныя могілкі, дзе пахаваны пакаленні мінчан і дзеячы Беларусі. Могілкі знесены ў канцы 40-х — пач. 50-х гадоў бягучага стагоддзя. Цяпер на тым месцы высотная гасцініца «Беларусь». Пры яе будаўніцтве і пры пракладцы дарогі ў 1985—1986 гг. адбылося масавае рабаванне магіл.

# З цыкла «Фатаграфіі»

## На прыёме

Якія халодныя вочы
у гэтага бюракрата.
І рука, нібы рыба.
А распытвае пра здароўе.
1988 г.

## Сквер

Вунь бачыш на лаўцы
Уедліва «Праўду» чытае дзядок.
Замухрышка.
За Сталіным колькі зглуміў людзей.
1987 г.

## Пустыня

Вось абвуглены дуб.
Вось знявечаны крыж.
Як адбудаваць храм,
Якога няма?
Гэй, вы!
Перастаньце галдзець!
Вароны на цвінтары.
1986 г.

## Яблыня

Нібы з вянка жалобнага,
Абсыпаецца лісце з галін.
Пунсавеюць плады.
Наліваецца стронцыем яблык —
Не дажджэцца ўдовіна сына.
1986 г.

## Звеставанне

Сёння Звеставанне —
Дзень Бацькаўшчыны.
Але пра гэта ніхто не памятае,
Акрамя мяне.
Выйду я за парог,
З хвоямі пагавару.
1985 г.

## Певень

Нібы дзяркач, так перамок чырвоны
певень
Пад ліўневым дажджом.
Якія ўжо там куры.
1987 г.

## Жнівеньскі дзень

Зайшоў у кавярню няўзнак.
Выйшаў — аж мокры асфальт.
Пералётны дожджык.
1987 г.

---

з трыбуны ААН, — калі ў аснове прагрэсу будзе ляжаць агульначалавечы інтарэс».

А што ж з ваеннымі дактрынамі? Яны за апошні год-паўтара зведалі сур'ёзныя змены. Наша стратэгічная дактрына з 1988 года пачала насіць абарончы характар — адбыўся рашучы паварот ад гонкі ўзбраенняў і прынцыпу звышузброенасці да прынцыпу разумнай абароннай дастатковасці. Новая мадэль бяспекі краіны фарміруецца не нарошчваннем узбраенняў, як было дзесяцігоддзямі, а, наадварот, скарачэннем арміі і тэхнікі. У бліжэйшыя два гады колькасць нашых Узброеных Сіл меншыцца на 500 тысяч чалавек, 10 тысяч танкаў, 800 самалётаў. На 14,2 працэнта зменшацца ваенныя расходы, а вытворчасць узбраення і тэхнікі — амаль на 20 працэнтаў. І працэс гэты будзе працягвацца. Пасля чарговых перагавораў будуць скарочаны на 50 працэнтаў стратэгічныя ракеты, пасля дойдзе чарга да скарачэння і звычайных сродкаў узбраення. «Інтарэсы трывалага міру, — піша міністр абароны СССР генерал арміі Д. Язаў, — дыктуюць неабходнасць выхаду на паніжаныя ўзроўні ўзброеных сіл, перабудову ваенных структур двух саюзаў з мэтай надання ім выключна «абарончага характару» («Правда», 9 лютага г.г.).

Тое, да чаго заклікаў А. Адамовіч — да змены ваенных дактрын — здзейснілася! Вядома ж, не толькі ягонымі намаганнямі. Дык хто ж не мае рацыі? Алесь Адамовіч празорліва ўбачыў вострую неабходнасць рашэння агульначалавечых праблем, канцэпцыі скарачэння ваеннага супрацьстаяння ў Еўропе двух магутнейшых, узброеных самай сучаснай зброяй груповак. Вось вам і «абстрактны» гуманізм...

Пара нам усім зразумець, што час безальтэрнатыўнага быцця скончыўся, і трэба прыняць гэта, як аксіёму, як неабходнасць; трэба, нарэшце, вучыцца і новаму мысленню і ўспрыманню множнасці ідэй і меркаванняў, трэба актыўна вучыцца дэмакратыі.

Пара, нарэшце, зразумець, што не толькі функцыянеры могуць уносіць прапановы, крытыкаваць недахопы, рабіць перастаноўкі ў кіраўнічым апараце, вызначаць дэпутатаў, а і народ павінен і абавязаны і кіраваць, і крытыкаваць, і прызначаць. Мы доўга жылі без ясна вызначанай перспектывы, вырашаючы на хаду, часта спатыкаючыся, паўсядзённыя задачы, а тыя асобныя элементы навізны поглядаў, якія не-не ды і паяўляліся, хутка згасалі без падтрымкі і ўдзелу народа, без карэннай перабудовы, і ўсё вярталася «на кругі свая».

Давайце ж больш разважаць, думаць, сумнявацца ў пастулатах («Усё падвяргай сумненню») і ва ўсім тым, што чуем і чытаем, больш і канструктыўна выказвацца аб недахопах (а іх у нас процьма!). Надышоў час адкінуць прэч колішнюю нашу авечую пакорлівасць. Надышоў час адмовіцца ад поглядаў на самога сябе як на «маленькага чалавека» (ад мяне нічога не залежыць, я — не начальства), ад уласнай інертнасці і лянoты думаць, думаць аб лёсе грамадства, змагацца з бюракратыяй. Перабудова абавязвае не толькі сумленна і на поўную сілу працаваць на сваім месцы, а і праяўляць актыўнасць у грамадскіх справах, у кіраўніцтве дзейнасцю прадпрыемстваў і ўстаноў, нарэшце ў справах дзяржаўных, таму што ад нас усіх разам і ад кожнага паасобку залежыць лёс і перабудовы, і сацыялізму. Мы шмат гадоў пакорліва слухалі абяцанні, заклікі, дырэктывы, верылі ў хуткую пабудову светлай будучыні, сумленна працавалі, неслі службу і, як нам здаецца, не мы вінаваты ў тым, што сацыялізм аказаўся ў крызісным стане. Напісаў «не мы вінаваты» і падумаў: а хто ж? Самы лёгкі шлях валіць на тых, каго ўжо няма. Яны, зразумела, вінаваты ў нізкім узроўні нашага жыцця, у бяссіллі эканомікі апрануць, абуць і накарміць нашых людзей, у тым, што нашы войскі былі ўведзены ў Афганістан.

А ўсё-такі і мы вінаваты! Мы бачылі і маўчалі, абураліся пад... коўдраю. Мы не навучыліся яшчэ гаварыць з людзьмі сам-насам, адкрыта на вуліцах, плошчах, у аўдыторыях і на стыхійна ўзнікаючых мітынгах. Нам бы высокую трыбуну... Але ж калі мы называемся камуністамі, членамі ленінскай партыі, дык давайце па-ленінску быць даступнымі, шчырымі, па-ленінску цярпімымі да розных поглядаў, думак, ідэй. Забароны гаварыць яшчэ дзейнічаюць і, ратуючы мундзіры, бюракраты выдатна навучыліся імі карыстацца, а тым, хто асмельваецца выказаць сваё меркаванне, падзяліцца развагамі, сваім болем душэўным, — тым стараюцца хутчэй заткнуць рот. Маецца на ўвазе не гаварыльня, да якой нас прывучылі, а новае аналітычнае мысленне, шырокая адкрытасць, прыцягненне людскіх мас да вырашэння неадкладных задач, да ўсеагульнага пошуку выйсця з найцяжэйшага эканамічнага і сацыяльнага стану нашага грамадства.

Пара прызнацца нам усім у тым, што часам і большасць можа памыляцца. Тысячы людзей у 37—38 гг. патрабавалі смерці «ворагам народа» Бухарыну, Рыкаву, Томскаму, Тухачэўскаму, Блюхеру. Большасць людзей сродкамі масавай інфармацыі была ўведзена ў зман і памылялася. На жаль, многія не хочуць прызнаць гэтага. Ды, на шчасце, ёсць людзі, якія мысляць і мысляць не дагматычна, і яны, нягледзячы на паказушную большасць, паднялі голас у абарону Праўды, у абарону перабудовы і рэальнай дэмакратыі.

«Счастье произойдет от материализма..., а не от смысла», — рэзанёрстваваў адзін з герояў А. Платонава. Нам, матэрыялістам, варта шукаць шчасце ўсё-такі ў «смысле», у новым мысленні, прыслухоўваючыся і да большасці, і да кожнага, хто сее «вечнае і добрае». Лепшыя з лепшых (В. Быкаў і А. Адамовіч у іх ліку), першымі ачнуўшыся пасля застойных гадоў, зразумелі, што калі перабудову забалбочуць (такая небяспека, на жаль, не выключана) дык людзі больш не павераць ні тым, хто гаворыць з высокіх трыбун, ні тым, хто пасадай ніжэй, ні тым, хто сёння спрабуе весці барацьбу з дзеячамі культуры, мастацтва, літаратуры — найбольш актыўнымі абаронцамі перабудовы, з усімі, каму дарагія ідэі сацыялізму. Зноў надыдзе расчараванне, інертнасць у дзеяннях і мысленні, абыякавасць, душэўная глухата і спячка.

Толькі зараз мы зразумелі, што шматлікія заявы вучоных, прапагандыстаў, некаторых дзеячаў культуры аб высока свядомым пакаленні, аб яго высокай маральнасці, мякка кажучы, не адпавядаюць сапраўднасці. Вядома, у кожным пакаленні ёсць цудоўныя людзі, працаўнікі, людзі-творцы, людзі пошуку, але ёсць і свае «цяжкія дзеці эпохі», якім абыякавыя трывогі іншых, занепакоенасць грамадства ўзроўнем маральнасці: адны інертныя, другія п'янствуюць, трэція заняліся наркаманіяй, прастытуцыяй, крадзяжом, рэкетам; у іх няма пачуцця асабістай адказнасці, іх не трывожыць ні лёс Байкала, Арала ці Нарачы, ні разгул шчодра аплачаных Дзяржпланам, Мінфінам меліятараў, ні перанасычэнне калісьці лепшай у свеце беларускай бульбы нітратамі. І іх шмат! Камусьці менавіта такія і патрэбны — інертныя, пакорлівыя, абыякавыя да ўсяго.

Пэўна, досыць. Ёсць чым займацца нам з вамі, Т. Бумажкова, грамадскасці, міліцыі, пісьменнікам, журналістам — столькі вакол бездухоўнасці, бюракратызму, крадзяжу (чыталі, як разрабавалі ў аэрапорце Мінск-2 склад з прысланымі з Амерыкі і Еўропы падарункамі, медыкаментамі, цацкамі, дзіцячай бялізнай, прадуктамі харчавання для пацярпелага ад землетрасення насельніцтва Арменіі? Людзі «крышылі кардонныя скрынкі, ботамі тапталіся па бляшаначках з дзіцячым харчам, раздзіралі бляху кансерваў, каштавалі тое, што было ў карабках, на смак і тут жа шпурлялі долу. Грабежніцтва доўжылася некалькі дзён»), колькі вакол няякаснай работы, амаральных учынкаў (вучоная жанчына, маці дваіх дзяцей, задушыла і ўтапіла ў Свіслачы дзесяцігадовага сына другой жанчыны, да якой пайшоў муж гэтай, вучонай). Давайце замест ачарнення, знеслаўлення, бясплённых абвінавачванняў зоймемся больш карысным заняткам, звязаным з умацаваннем у народзе маральнасці, барацьбой з бездухоўнасцю, крадзяжом, хабарніцтвам, разбурэннем прыроды і помнікаў гісторыі і культуры. Даўно надышоў час паіменна назваць, як гэта зрабілі ў Грузіі, усіх, хто загінуў у гады вайны, хто цаной жыцця ўратаваў нас, падараваў зямлі мір і спакой. Яшчэ Пётр Міронавіч Машэраў заклікаў моладзь, грамадскасць раскрыць «сакрэты» брацкіх магіл, накрэсліўшы на помніках імёны ўсіх, хто пахаваны ў зямлі беларускай, хто загінуў у баях вялікіх і малых. Столькі гадоў мінула, а што зроблена...

Няўжо вы не чуеце, як зыходзяць крыкам людзі, абяссіленыя ад змагання з бюракратызмам, грубасцю, амаральнасцю, драпежнымі адносінамі да прыроды? Не чуеце? Здзіўляючая душэўная глухата... Але ж ці не хопіць займацца мышынай мітуснёй! Ці не лепш скіраваць нам нашы сілы, сілы ўсёй інтэлігенцыі рэспублікі на падтрымку перабудовы?

Не дзеля какецтва скажу, што мы павінны крытычна асэнсоўваць убачанае, пачутае, зробленае, смялей гаварыць пра контрперабудоўчыя сілы, а вось гэтага мы пакуль што і пабойваемся, і я тут не выключэнне. Але вельмі хацелася б перасцерагчы ўсіх, хто піша і гаворыць, наконт аднаго — ёсць святыя мясціны, ёсць слаўныя імёны, ёсць высокія аўтарытэты.

І кім мы будзем, да чаго дойдзем, калі не будзем з імі лічыцца, не будзем іх паважаць?

---

# Уладзімір САВІЦКІ



14 лютага памёр пісьменнік, член КПСС, ветэран Вялікай Айчыннай вайны Уладзімір Іларыёнавіч Савіцкі.

У. І. Савіцкі нарадзіўся 28 чэрвеня 1914 г. у вёсцы Добасна Кіраўскага раёна Магілёўскай вобласці ў сялянскай сям'і. У 1930 г. пачаў працоўны шлях, быў сакратаром Дабасняскага сельсавета. Праз два гады паступіў вучыцца ў Ленінградскі тэкстыльны інстытут. Па заканчэнні яго служыў у Чырвонай Арміі. Пасля дэмабілізацыі працаваў на Смаленскім ільнокамбінаце. З першых дзён Вялікай Айчыннай вайны на фронце: камандзір — мінамётнага ўзвода, агнявога ўзвода, палкавой артылерыйскай батарэі. Удзельнічаў у баях на Калінінскім, Паўночна-Заходнім, 2-м Прыбалтыйскім, 1-м Беларускім франтах. Быў паранены. Пасля дэмабілізацыі жыў у Барысаве.

Першыя публікацыі Уладзіміра Савіцкага з'явіліся ў 1942 г. у франтавым друку. Пісаў на рускай мове. Аўтар многіх кніг прозы — «Люди переднего края», «Шли солдаты», «Не сотвори зла ближнему», «А годы идут», рамана «И придет день» і інш. Выпусціў таксама два зборнікі паэзіі. У кнігах пісьменніка шчыра і праўдзіва адлюстраваны нялёгкі і складаны шлях савецкіх воінаў да перамогі.

За заслугі перад Радзімай У. І. Савіцкі ўзнагароджаны ордэнам Айчыннай вайны І ступені, двума ордэнамі Айчыннай вайны ІІ ступені, двума ордэнамі Чырвонай Зоркі і медалямі.

Светлы вобраз Уладзіміра Іларыёнавіча назаўсёды застанецца ў сэрцах сяброў і ўсіх, хто яго ведаў.

САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ.

---

Саюз пісьменнікаў БССР выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку, адказнаму сакратару часопіса «Маладосць» Дайнеку Леаніду Мартынавічу з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці бацькі.

---

Саюз пісьменнікаў БССР глыбока смуткуе з прычыны смерці пісьменніка Савіцкага Уладзіміра Іларыёнавіча і выказвае спачуванне родным і блізкім нябожчыка.

*Ля кніжнай паліцы*




# Скарыны воблік непаўторны

З выданняў, якія выйшлі ўжо ў рэспубліцы і ўбачаць свет да 500-годдзя з дня нараджэння нашага славутага земляка Францішка Скарыны, «Скарынаўскі каляндар» — ці не адно з самых значных. Прынамсі, адразу пасля выхаду ён стаў бібліяграфічнай рэдкасцю. Вядома, і тыраж, нават для беларускіх выданняў, невялікі — усяго тысяча экземпляраў, аднак жа і цана «кусаецца» — дзесяць рублёў. Значыць, асноўная прычына ўсё ж у значнасці «Скарынаўскага календара». І ў гэтым найпершая заслуга яго складальніка, аднаго з вядомых скарыназнаўцаў Юрыя Лабынцава.

Прыводзячы ў прадмове радкі аднаго са старадаўніх беларускіх дакументаў: «Калі што ў парадку пісьмом заведзена будзе, дык ніколі не сплыве з людской памяці і не прыйдзе ў забыццё, але на вечныя часы ўтрымаецца непарушна», Ю. Лабынцаў з усімі падставамі на тое стасуе іх да Ф. Скарыны. Сапраўды, значэнне яго і ролю ў гісторыі не толькі беларускай, але і сусветнай культуры немагчыма пераацаніць.

Каляндар па меры магчымасці і раскрывае гэтае значэнне Ф. Скарыны як творца-тытана. Адкрывае «Скарынаўскі каляндар» перакладзеная і выдадзеная Ф. Скарынам кніга «Эклезіят, або Саборнік» — тут яна друкуецца фотатыпічным спосабам з экземпляра, які захоўваецца ў Дзяржаўнай бібліятэцы СССР імя У. І. Леніна. Гэта адзін з найцудоўнейшых помнікаў сусветнай літаратуры. Дарэчы, лепшы пераклад гэтага твора на рускую мову, аўтарам якога з'яўляецца І. Дзьяканаў, друкуецца ў зборніку «Паэзія і проза Блізкага Усходу», што распачынае «Бібліятэку сусветнай літаратуры» ў 200 тамах. Яшчэ адно пацвярджэнне таго, наколькі бездакорны мастацкі густ быў у Ф. Скарыны.

Асноўны матэрыял падаецца па месяцах. За сучаснай беларускай назвай кожнага месяца называецца тая, якую ўжываў першадрукар. «Складальнік, — сказана ў прадмове, — бачыў сваю асноўную задачу ў тым, каб, не парушаючы гістарычнай паслядоўнасці падзей, паказаць Францыска Скарыну ў яго самахарактарыстыках, даць магчымасць яму самому расказаць нам пра сябе, пра сваю эпоху». Таму ў каляндар увайшлі дакументы, выказванні Ф. Скарыны, а таксама выказванні і фрагменты з даследаванняў рускіх, савецкіх і замежных вучоных.

І, вядома ж, тут шмат ілюстрацыйнага матэрыялу. Змешчаны гравюры са скарынаўскіх кніг, узноўлены шматлікія арнаментныя аздабленні з іх, шрыфты выданняў. А на завяршэнне *календара* — *раздзел «З літаратурнай спадчыны* Францыска Скарыны», у якім — творы першадрукара.

**А. КУНЦЭВІЧ.**



Гравюры Ф. Скарыны, змешчаныя ў «Скарынаўскім календары».
«Кніга Другі закон». Прага, каля 1519 г.



«Кніга Прарока Даніїла». Прага, каля 1519 г.



«Кніга суддзяў». Прага, 1519 г.



«Кніга Руф» Прага, 1519 г.

*На музычнай сцэне*

# ПРЭМ'ЕРА ПРАЗ 200 ГАДОЎ

Пра оперу Р. Вардоцкага «Апалон-заканадаўца, або Рэфарміраваны Парнас» — узор беларускага прафесійнага музычнага мастацтва XVIII стагоддзя — ужо распавядалася ў «ЛіМе» (нумар за 16 снежня 1988 г., артыкул І. Корзун), публікацыю музыказнаўцы Н. Іўчанкі на гэтую ж тэму рыхтуе часопіс «Мастацтва Беларусі». А ў Дзяржаўным тэатры оперы і балета БССР праз колькі часу ў рамках навукова-практычнай канферэнцыі на тэму: «Праблемы рэстаўрацыі помнікаў музычнай і тэатральнай культуры мінулага і ўключэнне іх у сучаснае мастацкае жыццё» адбудзецца прэм'ера оперы. Пераклад тэксту «Апалона...» са старапольскай рабіла С. Клімковіч, музычную рэдакцыю — Н. Іўчанка (расшыфроўка, пераклад у сучасныя ключы, падрыхтоўка клавіра) і дырыжор ДАВТа БССР Л. Лях (падрыхтоўка аркестравай і харавой партытур). Больш за год працы...

Цікавасць да старадаўняга твора не павінна здзіўляць. Вельмі ж падобна жартуем мы і жартавалі нашы продкі, выстаўляючы грамадскія і асабістыя недахопы, некалі такія самыя, як і цяпер! Трактоўка «аперэткі, складзенай з размоў і спявання», прапанаваная рэжысёрам-пастаноўшчыкам В. Цюпам, падкрэслівае менавіта актуальнасць «Апалона...».

Вось што сказаў В. Цюпа наконт гэтай пастаноўкі тэатра: «У чарговы раз гісторыя культуры народа далікатна нагадвае (з цяжкасцю хаваючы ўсмешку) амбітным грамадзянам пра немагчымасць парваць сувязь часу без рызыкі трапіць у недарэчнае становішча. Разбіраючы немудрагелістыя інтэрмедыі, творы 200-гадовай даўнасці, дзіву даешся надзённай сатырычнай падачы духоўных праблем XVIII стагоддзя. Часам даводзіцца гнаць ад сябе падазрэнне пра тое, што перад табой хітраватая сучасная стылізацыя.

Радасна, што культура чалавецтва ўжо не ўпершыню перажывае духоўнае абнаўленне. Вось толькі шкада страт. Шкада, напрыклад, таго, што сёння самаму чытаючаму ў свеце савецкаму гледачу давядзецца слухаць камічную оперную драбніцу з вялікім энцыклапедычным слоўнікам у руках, каб высветліць тое, што 200 гадоў назад было зразумела кожнаму шкаляру. Напрыклад, што такое Кастальскі ключ альбо чым адрозніваецца паэт Гэксіхор ад паэта Тэакрыда, а Бахус ад Плутаса... Словам, паставім гэту немудрагелістую забаву духу чалавечага ў ланцуг, які звязвае нас, сённяшніх грамадзян, з намі ж у мінулым, і паспрабуем стаць мудрэйшымі...»

**Н. КУЗНЯЦОВА,**
**памочнік галоўнага рэжысёра па літаратурнай частцы ДАВТа БССР.**



**У «КНІГАРНІ ПІСЬМЕННІКА»**

М. ДУКСА. Заснежаныя ягады. Вершы і паэмы. Мн., «Мастацкая літаратура», 1989.—80 к.

А. ЖАМОЙЦІН. Азірнуўшыся — не скамянею. Вершы. Мн., «Мастацкая літаратура», 1989.—25 к.

М. ЗЯНЬКОВІЧ. Лісты ў дзяцінства. Кніга дарог. Мн., «Мастацкая літаратура», 1989.—1р. 20 к.

П. МАКАЛЬ. Азбука любві. Кніга паэзіі. Мн., «Мастацкая літаратура», 1989.—70 к.

П. ПРЫХОДЗЬКА. Водгулле грому. Вершы і паэмы. Мн., «Мастацкая літаратура», 1989.—75 к.

Г. ШВЕДЗІК. Матчына сляза. Вершы, лісты. Пераклад з яўрэйскай мовы. Мн., «Мастацкая літаратура», 1989.—55 к.


«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

АТ 00094 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Індэкс 63856 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.
ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-19-85, аддзела публіцыстыкі і нарыса — 33-19-65, аддзела пісьмаў і грамадскай думкі — 33-19-65, аддзела крытыкі і бібліяграфіі — 33-22-04, аддзела прозы і паэзіі — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і тэлебачання — 33-21-53, аддзела музыкі — 33-21-53, аддзела выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 33-24-62, аддзела народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62, аддзела інфармацыі — 33-24-62, аддзела мастацкага афармлення і фотаілюстрацый — 33-44-04, 33-24-62, карэктарскай — 32-20-64, бухгалтэрыі — 23-73-37.

Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.

Галоўны рэдактар Анатоль ВЯРЦІНСКІ.